СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

**Кіркевіч, А.**

Сем месяцаў у беларускай турме / Алесь Кіркевіч. — Мінск, 2018. — 162 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 4).

Турэмныя ўспаміны палітвязня Алеся Кіркевіча друкуюцца ўпершыню, хоць яшчэ ў 2013 г. іх электронны варыянт пад назвай «Нясконачаная Адысея: Беларуская турма для пачынаючых» быў адзначаны прэміяй імя Францішка Аляхновіча за найлепшы твор, напісаны ў зняволенні.

Удзельнік Плошчы-2010, тагачасны намеснік старшыні «Маладога фронту» Алесь Кіркевіч 28 студзеня 2011 г. быў арыштаваны і змешчаны ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ва ўдзеле ў масавых беспарадках паводле ч. 2 арт. 293 КК Беларусі. Моладзевы актывіст трапіў за краты літаральна праз тыдзень пасля вяселля.

3 студзеня 2011 г. Алесь Кіркевіч выйшаў на волю пасля адбыцця адміністрацыйнага 10-суткавага арышту за пікет салідарнасці пад сценамі ізалятара на вул. Акрэсціна ў Мінску, дзе ў гэты час знаходзілася яго нявеста Надзея Крапівіна, асуджаная на 12 сутак за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня. Яны пабраліся шлюбам 22 студзеня, толькі замест вясельнага падарожжа маладым выпала сур’ёзнае выпрабаванне.

4 траўня 2011 г. Алесь Кіркевіч асуджаны на 4 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Пакаранне адбываў у Наваполацкай калоніі № 10. Памілаваны згодна з Указам прэзідэнта 1 верасня 2011 г.

Алесь Кіркевіч нарадзіўся ў 1989 г. у Гродне. Працуе журналістам. Лаўрэат конкурсу маладых журналістаў імя Аляксея Караля ў намінацыі «Найлепшы грамадска-палітычны артыкул» (2017).

Частка імёнаў і прозвішчаў персанажаў змененыя.

*Аўтар фота для вокладкі — Дар’я Шымбарэвіч.*



ВЯСНА
праваабарончы цэнтр

ЗМЕСТ

# Сем месяцаў у беларускай турме

*Маёй маці Ларысе Кіркевіч,*
*маёй жонцы ў часе зняволення Надзеі Крапівінай*
*прысвячаецца*

Гэтая кніга пісалася ў 2011–2012 гадах. Тады тэкст так і не быў выдадзены, у хуткім часе палыхнуў Майдан, вайна на ўсходзе Украіны, шматлікія пераезды… Кніга страціла сваю актуальнасць, для аўтара — у першую чаргу. Сядаючы за рэдактуру тэксту зараз, напрыканцы 2017-га, каб скончыць пачатае, разумею: шмат што давядзецца выправіць, перапісаць наноў альбо наўпрост выкінуць. Хочацца, каб тэкст атрымаўся не сумнай казкай пра несправядлівы свет, не «крыкам аб дапамозе» і не квітком на «палітычны прытулак» на Захадзе, але шчырым расповедам пра тыя падзеі — каб не забыцца самому і дапамагчы не забыць іншым.

Калі-небудзь, магчыма, я напішу асобны тэкст пра «Выбары-2010» і падзеі Плошчы. Пра гераічных і хлуслівых, рашучых і разгубленых, шчырых і меркантыльных удзельнікаў тых падзеяў, безадказных

палітыкаў, поўных пыхі і пантоў, «ціхароў» у вязаных шапачках, з камерамі Sony ды рацыямі ў руках, сінія бусікі, плакаты, расцяжкі ды інш. Найхутчэй, гэта будзе п'еса, такая сабе трагікамедыя. Хапіла б часу на ўсё…

Пакуль жа — расповед пра вынікі тых падзеяў, дакладней, вынікі кульмінацыі — выбарчага вечара 19 снежня, калі калона пратэстоўцаў прайшла маршам па цэнтры сталіцы. Скончылася ўсё, як вы памятаеце, разбітымі дзвярыма Дома Урада на плошчы Незалежнасці, АМАПам, аўтазакамі і крывёю на снезе. Пасля таго вечара я гуляў на свабодзе яшчэ месяц — паспеў нават ажаніцца. А пасля… Вось што было пасля.

## Частка 1
## «Амерыканка»

Халодная студзеньская ноч. Траса Гродна–Мінск. Пад чорным небам, поўным зораў, па пустой трасе нясецца легкавушка. З дынамікаў гучыць Земфіра: *«Я искала тебя»*. Я на задняй сядушцы заціснуты паміж двума хлопцамі з таго самага ведамства, пра якое вы падумалі. Адзін, здаецца, спіць. Самы час адпачыць, бо за спінай — «прыём» у адной з падваротняў старога горада, зацяжны вобшук на кватэры, першы кароткі допыт у абласным упраўленні Камітэта. Зрэшты, пра ўсё па парадку.

…Сонечным днём 28 студзеня 2011 года мяне ўзялі пад рукі некалькі асобаў у цывільным, разам з хударлявым і зусім не ўпэўненым у сабе хлопцам у форме міліцыянта — для яго, відаць, такое ўпершыню.

— Ну что, ждали нас? — з усмешкай пацікавіўся ўжо ў бусіку чэкіст у шапцы-вушанцы.

— Канешне, зачакаўся ўжо, — шчыра адказаў я.

Сапраўды, тымі днямі вобшукі на офісах і кватэрах ды затрыманні ўсё новых і новых фігурантаў справы «аб масавых беспарадках» 19 снежня 2010-га ішлі амаль штодня — як у Мінску, так і ў рэгіёнах. Сустракаючыся на вуліцы, людзі «ў тэме» першай справай выпальвалі адно аднаму:

— Сёння «Вясну» трэслі, пазабіралі камп’ютары... А вас?

Сярод мітусні і страху, які апусціўся на краіну, актыўныя ўдзельнікі шоу пад назвай «Выбары-2010» мелі магчымасць даведацца шмат новага аб сваіх паплечніках, праверыць свае нервы, а таксама здольнасць акуратна з’язджаць на Захад. Увесь апазіцыйны актыў днямі і начамі сядзеў ля манітораў камп’ютараў, абнаўляючы сайты навінаў ды задаючыся адным пытаннем: *«Хто наступны?»*

Падобнае пытанне, але ў форме: *«Чаму ты яшчэ тут?»* турбавала і маіх сяброў, у тым ліку жонку, з якой мы пабраліся ўсяго за пару дзён да затрымання. Скуль яны ведалі? Наўпрост пазналі характэрны шаўрон «Маладога фронту», з чорна-чырвоным крыжам на белым шчытку, яшчэ на першых відэакадрах штурханіны на ганку Дома Урада, пушчаных Беларускім тэлебачаннем? Турбавала гэтае пытанне і мяне.

Вобшук на кватэры ў той дзень цягнуўся каля чатырох гадзін, дапытлівыя супрацоўнікі фільмавалі кніжныя паліцы, цікавіліся скрынямі з бітымі глінянымі чарапкамі (памяць пра археалагічныя вылазкі), дасталі нераспаўсюджаныя плакаты з партрэтам аднаго з кандыдатаў, але найбольш апяроў усцешыла… супрацьгазавая маска, знойдзеная ў падвале. Як вядома, з далёкіх 1930-х супрацоўнікаў гэтага ведамства найбольш цікавілі хаця б аддаленыя намёкі на вайсковы рыштунак, за якім цягнічком сунуцца тэракты з дыверсіямі… Маску разам з іншым хламам падннялі нагару, у кватэру, пачалі фільмаваць.

— Что это? — пераможным голасам тэатральна спытаўся адзін з апяроў.

— Процівагаз.

Сцэну сапсаваў ягоны старэйшы калега, які сядзеў за сталом і запаўняў паперы:

— Убери это на хер!

Калі з кватэрай, балконам і падвалам было скончана, хлопцы пацягнулі мяне нібыта «для дачы тлумачэнняў» ва ўпраўленне на вул. Тэльмана. Пасля «тлумачэнняў» я нібыта меўся *«пайсці па сваіх справах»* (на ўваходзе я нават паклаў свае рэчы ў адмысловую ячэйку, узяўшы ключ з нумарком). Аднак у кабінеце следчага на маё прамое пытанне пра далейшую хаду падзеяў паступіў не менш прамы адказ:

— Да, «американка».

Там жа апісалі і маю няхітрую маёмасць — пара бялізны, шнуркі, запальнічка. Джэнтльменскі набор штурмавіка Дома Урада… Цікава, што лысы опер гадоў сарака даволі нядрэнна валодаў беларускай і ствараў уражанне інтэлігентнага тэхнакрата. На сцяне кабінета апроч нейкіх карпаратыўных азнакаў і граматаў красаваўся вымпел украінскай СБУ — «братоў па зброі». Сёння гэта гучыць ужо амаль неймаверна.

Для мяне выклікалі нейкую перапужаную дзяжурную адвакатку, якая дала адзіную каштоўную параду, якую можна было даць 20-гадоваму хлопцу ў падобнай сітуацыі: «Можна маўчаць, адмовіцца ад паказанняў». І я маўчаў. Опер быў нават усцешаны: мутарныя размовы вячэрняю парою, напрыканцы працоўнага дня, можна пакінуць мінскім калегам, гара з плеч… «Ну, не дык не».

Апошняе, што запомнілася з будынка ўпраўлення КДБ, — гэта прыбіральня, дзе каляровай плямай на шэрай кафлі ляжаў разварот «Советской Белоруссии» з партрэтам дзейнага прэзідэнта. За часамі Берыі за такую неахайнасць нехта запраста мог паехаць следам за сваімі нядаўнімі ахвярамі. Цікава, атрымліваецца, у гэтым ведамстве, наскрозь прасякнутым ідэалогіяй, да абавязковых дзяржпадпісак ставіліся таксама, як і ў ЖЭСах, на прадпрыемствах, у школах… таксама, як

мы пасля ў калоніі ставіліся да карпаратыўнай газеты «Трудовой путь», перапоўненай публічнымі падзякамі і пакаяннямі зэкаў.

***

Дарога і начны Мінск засталіся ззаду, нарэшце камітэцкі квартал — горад у горадзе наўпрост на праспекце Незалежнасці — адчыняе сваю браму. На ўваходзе — ахоўнік у камуфляжы без знакаў адрознення, па тэрыторыі ён перасоўваецца подбегам. У квартале давялося троху пакружляць, і вось — «амерыканка» вітае, падпускаючы да свайго ўвахода легкавушку. Усё гэта нагадвае гамераўскі сюжэт з чоўнам Харона… Мне цікава. Нельга баяцца рэальнасці, з ёй трэба працаваць і даследаваць: як Гумбальт матылькоў у Паўднёвай Амерыцы.

Нейкі час опер з Гродна, які мяне вёз, не можа дамовіцца з аховай, актыўна жэстыкулюе, паказвае нейкія паперы, нібыта спрабуючы прадаць тавар людзям, якім ён абсалютна непатрэбны. Гэтым часам я, ад няма чаго рабіць, распавядаю ягонаму калегу вядомыя мне факты з гісторыі «амерыканкі»: *«Пабудаваная ў 1932 годзе, рабілася як зменшаная копія чыкагскай турмы, круглая, у форме цырка, — таму і “амерыканка”».* Ён слухае, ківае галавой. Іхная праца — не размаўляць, а слухаць.

Цікавае пытанне з гісторыі сталічнай архітэктуры, якое мяжуе з містыкай. Чаму ў разбураным і выпаленым ушчэнт цягам вайны горадзе, пра што нам неаднойчы распавядалі ў школе, захаваліся Дом афіцэраў, «амерыканка», Пішчалаўскі замак, Дом Урада?.. Знікла тое, што ўжо не адпавядала савецкай рэчаіснас-

ці, не было запатрабаваным, знікла шматсотгадовая гісторыя, а вось будынкі з «вечным» функцыяналам, прыдатныя кожнай уладзе, — захаваліся. Будынкі як старыя служакі… колькі новых пагонаў з бліскучымі зоркамі, важных прызначэнняў, лёсавызначальных для краіны рашэнняў яшчэ ўбачаць гэтыя сцены?

…За чарговай брамай, ужо на ўваходзе ў СІЗА мяне сустрэлі двое, першыя «маскі» — людзі ў камуфляжы без азнакаў у чорных балаклавах на твары. Завялі ў адстойнік, распранулі, дагледзелі: шлюбны пярсцёнак, шаўрон МФ на ліпучцы, майка з выявай Пагоні, заплечнік, шнуркі, пласцінка анальгіну… Усё гэта канфіскавана, пайшло на склад. Мае пажыткі зараз змяшчаліся ў чорнай зімовай шапцы: пара бялізны, шкарпэткі, пальчаткі і асадка.

Першы ўдар дубінкай — за спробу схаваць рукі ў кішэнях джынсаў.

— Какая статья?!

— 293-я, частка 2-я, масавыя беспарадкі.

— Какой срок предусматривает?

— Па-мойму, ад трох да васьмі.

— Кажется, вы ещё не поняли, в каком вы положении... До восьми лет, — гэта ўводзіны, «маскі» меліся папулярна патлумачыць, хто тут галоўны.

Мяне павялі наверх. З сутарэнняў паднялі на першы паверх, а з яго ўжо, па крутой металічнай лесвіцы, на другі, дзе і месціліся ўсе 18 камераў СІЗА КДБ. 18 — на ўсю рэспубліку, усе размешчаныя па коле. Прыкольна… Элітная ўстанова! На рукі я атрымаў «верталёт» (драўляны шчыт), «вату» (матрац), падушку, камплект бялізны, алюмініевы кубак, лыжку і талерку. Скрыпнулі «тармазы» (цяжкія жалезныя дзверы), я ўжо ў камеры.

Бляклая лямпа асвятляла выцягнутае прастакутнае памяшканне з дзвюма нарамі — двухпавярховай і

звычайнай, прымацаванай да сцяны. Адбой ужо прайшоў, усе спяць. Насельнікі «хаты», тры чалавекі, заварушыліся і насцярожана глянулі ў бок «тармазоў», якія акурат зачыніліся ў мяне за спінай.

— Дзень добры.

— Политический? Клади «вертолёт», тут вода — если захочешь пить. Утром всё объясним. Спи… если сможешь.

Вось для чаго патрэбны драўляны шчыт! Камеры перанаселеныя пасля зімовага хапуна па справе аб беспарадках, месцаў не хапае, таму вось такія «верталёты», або «сёрфінгі», трэба замацоўваць паміж нарамі на ноч, а ўдзень — здымаць. Пазл склаўся! Дарэчы, крыху пазней я даведаюся, што ўнутраная абслуга з ліку зэкаў скалочвала «верталёты» на працягу ўсёй восені — Камітэт рыхтаваўся да «зімовага прыёму»… Стук малаткоў стаяў, як распавядалі, на ўвесь СІЗА.

Адзінае, што падымала настрой, — гэта памаранчовая пляма на падваконніку: уся паверхня была роўным слоем выкладзеная… апельсінамі! Пасля галодных дзён і начэй у ізалятары часовага ўтрымання на Акрэсціна, куды палітычных кідалі на 10 ці 15 сутак, гэта падавалася раскошай, сведчаннем дабрабыту. Памаліўшыся, я лёг на шчыт і цудоўна заснуў.

***

Маімі сукамернікамі апынуліся дзядзька Саша, палкоўнік войскаў супрацьпаветранай абароны, якога ўзялі за выкарыстанне працы курсантаў на будоўлі сваёй дачы, прадпрымальнік Дзяніс, зразумела, за карупцыю, і... Вадзім — былы следчы Камітэта. Не ве-

даю, ці тое праўда, як кажуць у гэтых месцах, «папераў ягоных не чытаў», але пра апошняга распавядалі досыць забаўную гісторыю.

Вадзім вёў справу немаладога яўрэя (нібыта генерал-лейтэнанта за савецкім часам), які на пенсіі займаўся апрацоўкай алмазаў і пабудаваў прыгожую схему, перакідваючы празрыстыя каменьчыкі паміж Мінскам і Калінінградскай вобласцю. Калі генерала зачынілі і той зразумеў, што на волю, з прычыны слабага здароўя, можна ўжо не выйсці, а галечныя пляжы Светлагорска і Баграціёнаўска будуць таптаць не ягоныя, а нечыя чужыя ногі, ён пайшоў шляхам грашовай дыпламатыі — прапанаваў следчаму хабар. Але ці тое мала даў, ці тое даваў не таму, а можа, вытрымкі не хапіла, каб дачакацца вынікаў. Карацей, генералу падалося, што Вадзім яго кінуў. Не доўга думаючы, генерал залажыў свайго «дабрадзея».

Далей — цікавей. Вадзіму, які апынуўся ў тым жа СІЗА КДБ, іншы следчы, які вёў ягоную справу, прапанаваў выдаць алмазы і ва ўсім прызнацца. Паколькі хлопцы былі добра знаёмыя паміж сабой, а кабінеты іх знаходзіліся адзін насупраць другога, Вадзім паверыў свайму саслужыўцу, выдаў: *«Комитет своих не бросает»*… У выніку Вадзік атрымаў у плечы свае законныя восем гадоў і пры мне з'ехаў з «амерыканкі» на Валадарку, апошні СІЗА — наўпроставы трамплін на зону.

Генерал сядзеў надалей у «амерыканцы»... У сувязі з няпэўным станам здароўя і выведзеным са страўніка катэтарам ягонай жонцы ў выключным парадку было дазволена перадаваць мужу хатнюю ежу. Новазаехаўшым да яго ў камеру асобам генерал працягваў рабіць «выгодныя прапановы» адносна працы з алмазамі *«на будучыню»,* абсыпаць кампліментамі і дробнымі падарункамі ў спадзяванні хоць неяк палег-

чыць сваю сітуацыю тут і зараз... А ягоным былым сукамернікам застаецца зараз не без гонару ўспамінаць, што цягам сваёй «камандзіроўкі» яны сядзелі разам з генерал-лейтэнантам, які ў лепшыя часы аддаваў загады на палігоне Байканур...

Таямнічая гісторыя, магчыма — чарговая казка, якіх нямала жыве і пераказваецца з вуснаў у вусны ў гэтых сценах. Маралі тут няма. Наўпрост варта ведаць, што «амерыканка» — містычнае месца, тут здараюцца рэчы, сутыкаюцца людзі, ламаюцца лёсы так, як гэта бывае ў кіно альбо ў танных бульварных раманах. Калі праз шмат год, раптам, «амерыканка» пераўтворыцца ў музей, можна быць упэўненым: справа аб «масавых беспарадках» 2010 года апынецца ўсяго толькі нязначнай кропляй у моры легендаў ды, у лепшым выпадку, змесціцца ў адзін сказ у турыстычным буклеце.

***

Вернемся да больш прыземленых рэчаў. Камера наша мела форму труны ці прастакутніка, які звужаўся бліжэй да «тармазоў». У сталінскія часы гэтая камера, відаць, была двушкай — разлічанай на двух чалавек. Старыя нары ад новых адрознівала дабротнасць, шырыня металічных палосак, якія не мулялі спіну. У кожнай камеры меўся ўмывальнік, прымацаваныя да сцяны стол і табурэт побач. Шклопакеты вокнаў са знешняга боку закрывала каробка кратаў, а ў дадатак краты ўмантаваныя ў шклопакет. Кажуць, што гэтая канструкцыя з'явілася пасля выпадку з адным таварышам з Сярэдняй Азіі, які спрабаваў уцячы праз акно.

Падлога бетонная. Ля «тармазоў» — біятуалет, звычайнае пластыкавае вядро з накрыўкай, якое выкарыстоўвалася для малых патрэбаў. Хочаш большага? Цярпі! У камеры ты не адзін... Над уваходам — адмысловая паліца для тэлевізара, там жа, у некаторых «хатах», можна было знайсці пыльную радыёкропку з ашмёткамі парваных дратоў: ёй вязні забаўляліся яшчэ ў часы адсідкі Славаміра Адамовіча ў 90-х. Інтэр’ер дапаўнялі некалькі тумбачак, як мы жартавалі, «часоў Цанавы».

***

Расклад дня ў «амерыканцы» быў наступны.

*6:00* — **пад’ём**. Замест больш цьмянай начной лямпы загараецца дзённая (агулам, святло гарэла цэлыя суткі), а ў «кармушку» прасоўваецца пыса кантралёра з фразай: *«Подьём!»* Я звычайна прачынаўся за некалькі хвілінаў перад гэтым, ад грукату «кармушак» у суседніх камерах.

*З 6:00 да 7:00* — **прыбіральня**. У гэтым прамежку часу кантралёр мае стукнуць ключом аб засоў «тармазоў» камеры, каб ты падрыхтаваўся і праз пару хвілін вырушыў у складзе ланцужка з 3–6 сукамернікаў да прыбіральні (іх было дзве — на першым і на другім паверсе). Канешне, «пара хвілін» была ўмоўнасцю — пасля сігналу магло прайсці паўгадзіны, а магло 30 секунд. І караван выходзіў: першы чалавек, як правіла, нёс вядро, на зваротным шляху з вядром ішоў апошні. Чаму так? Каб раптам не абліць з вядра сукамернікаў на крутой лесвіцы па шляху ўніз (з усімі выцякаючымі для іх на зоне наступствамі). Распавядалі, што адзін вязень-адвакат неяк злаўчыўся і абліў з вядра

кантралёра. Было тое не ў часы працы «маскі-шоу», адмыслова ўведзеных у СІЗА пасля «Выбараў-2010», а значна раней, таму можна лічыць, што адвакату пашчасціла. Час знаходжання ў прыбіральні не быў жорстка рэгламентаваны і залежаў ад адэкватнасці змены кантралёраў і пажаданняў начальніка СІЗА адносна канкрэтнай камеры. А што ўяўляла сабой прыбіральня? Гэта дзве дзіркі ў падлозе, два рукамыйнікі, кран на ўзроўні каленяў, сметніца, кафляныя сцены, падлога і... самотнае дрэва ў акне — на яго было прыкольна глядзець, пакуль чакаеш, як таварышы вырашаць усе свае пытанні.

*Каля 8:00* — **сняданак**. Каша: рыс, грэчка альбо аўсянка. Тут жа выдаваўся і хлеб на ўвесь дзень — за колькасць боханаў часам даводзілася ваяваць і лаяцца з кантралёрам. Афіцыйныя нормы харчавання, як, зрэшты, і ўсяго астатняга, засталіся для нас вялікай таямніцай. Пасля заезду палітычных у ноч з 19 на 20 снежня 2010-га, разам з заменай начальніка СІЗА, з камераў зніклі табліцы з правамі і абавязкамі зняволеных. З часам табліцы вярнулі: засталіся толькі абавязкі...

*Каля 9:00* — **абход**. У гэты час заступала новая змена, якая пачынала варту з наведвання ўсіх камераў. Выглядала гэта так: у пэўны момант, якога ўжо чакалі, адчыняліся «тармазы» і ў камеру завальваўся, скажам, Ганс ці любы іншы начальнік змены. З-за ягонай спіны выглядала пара «масак», каб на Ганса раптам ніхто не накінуўся, напрыклад, з шарыкавай асадкай у руцэ (прафесійнай зброяй шмат каго з тут прысутных палітыкаў, хлебам якіх на волі была журналістыка ці якая іншая папяровая праца). Цягам абходу дзяжурны па камеры дакладваў аб колькасці народу ў камеры, аддаваў карэспандэнцыю, заяўляў, колькі мы хочам гадзін на вулічны

шпацыр у дворыках (зменаў існавала тры: дзве да абеду і адна пасля).

*9:00–12:30* — **шпацыр**. Першая змена — з 9:00 да 11:00, другая — з 11:00 да 12:30. Перад выхадам кантралёр зноўку праходзіў па коле, адбіваючы характэрны металічны гук ключом па замку: «Бдзынь!» — за пару хвілінаў мы меліся апрануцца і напружана чакаць, пакуль не зарыпяць «тармазы».

Выхад у дворыкі ў суправаджэнні «масак» заўжды нагадваў паласу перашкодаў:

— Быстрей! Быстрей, б...!

«Бух» — удар дубінкі аб борцік «цырка».

Пад крыкі, стук дубінак і пошчак электрашокераў калону з некалькіх вязняў, якія меліся трымаць рукі за спінай, гналі па лесвіцы ўніз на першы паверх, пасля на вуліцу. Любое запавольванне каралася, таму, калі першы занадта спяшаўся, камера гэтага не вітала — нехта ў хвасце мог спазніцца і атрымаць ад «масак».

Турэмных дворыкаў налічвалася шэсць. Сярэдні памер — 3 на 5–6 метраў. Трэці і чацвёрты — больш прасторныя, пяты і шосты — самыя маленькія і паскудныя. Пяты меў шырыню метра паўтара, а даўжыню — 6–7, за што і атрымаў назоў «расстрэльны». *«Тут и сток для крови есть...»* — жартам удакладніў некалі адзін з вязняў. Хаджэнне па коле ці ўразнабой залежала ад змены і гатоўнасці камеры да арганізаванага пратэсту, які хоць і зрэдку, але ратаваў сітуацыю. Па мосціку гэтым часам ходзіць «прадольны», зазіраючы ў дворыкі праз сетку, якая перашкаджае бачыць чыстае неба. Усё гэта — пад музыку. З калонак валіць «клубняк», шансон, радыё (пасля яго забаранілі, каб мы не чулі навінаў). Я адпачываў на песнях Шаўчука і спрабаваў абстрагавацца ад астатняй музыкі. Навошта музыка? Усё проста: каб дворыкі не перагаворваліся.

*Каля 13:00* — **абед**. Суп — гарохавы, боршч ці бу-

лён з макаронай. Другое — бігус, буракі ці макарона. Мясцовай гарбаты ніхто ніколі не браў, таму яе нават і не вазілі на «камазах» (вазочках з ежай). Нож — вельмі дэфіцытная рэч, якую падчас прыёму ежы можна вычапіць у кантралёра на хвіліну-дзве. Што казаць, калі станкі для галення выдаваліся ў адмысловыя гадзіны два разы на тыдзень, і нават зламаныя ты мусіў вяртаць праз «кармушку» кантралёру: каб не зарэзаўся ці не напаў на Ганса падчас абходу.

Адным з нешматлікіх плюсаў «амерыканкі» была адносна спрыяльная сітуацыя з ежай — колькасць пасылак (у адрозненне ад перадачак) не абмяжоўвалася, таму харчавацца можна было сваім печывам, гарбатай, бананамі, памідорамі, каўбасой і... усё. Пасля заезду палітычных адміністрацыя раптоўна ўвяла «эмбарга» на сала, шакалад, малочку — самыя карысныя для здароўя прадукты. І зноў жа, мажлівасць «дастаць» са склада «недазволеныя» харчы, з надзеяй перададзеныя роднымі, залежала выключна ад персанальных стасункаў з начальнікам СІЗА... У нас гэта амаль ніколі не атрымлівалася. Ежа — цудоўны рычажок уплыву на вязня. Канешне, замовіць тое ж сала можна было і праз унутраную атаварку, але атрымаць у выніку мы маглі і сапсаваны прадукт, які пад крыкі і праклёны ўсёй камеры ішоў у сметніцу.

*Прыблізна з 16:00 да 17:00* — **выхад у прыбіральню**.

*18:00* — **вячэра**. Буракі альбо бульба з «дэльфінамі» (селядцом). У кожнай камеры знаходзіўся хаця б адзін чалавек, якому было ў кайф гатаваць — таму на стале з’яўляліся салаты, вінегрэт і г. д. Не памятаю ніводнага выпадку, каб у «амерыканцы» адбылася спрэчка з-за ежы. На Валадарцы гэта траплялася на кожным кроку, а на вечна галоднай зоне большасць сварак і канфліктаў узнікала вакол «кішкі»

(харчовых пытанняў). Часам ежы магло быць мала, але ніхто б не ўзяў лішняга кавалка, пакінуўшы сукамерніка ні з чым. Такім чынам, у СІЗА КДБ, дзе не было нават згадкі пра «паняцці», у адрозненне ад іншых вязніцаў, захоўваўся адзін з прынцыповых момантаў турэмнай справядлівасці — накарміць галоднага, дапамагчы таму, хто мае патрэбу: ежай, адзеннем, лекамі, паперай ды парай капэртаў з маркамі па Беларусі...

*21:30* — **раздача лекаў перад сном**. Лекі раздавалі пасля кожнага прыёму ежы. Калі ў «кармушку» прасоўвалася пыса кантралёра з пытаннем: *«Колёса?!»*, большая частка камеры, а людзі гэта былі немаладыя, зляталіся, нібы верабейкі да акенца (эпітэт «кармушка» падыходзіць у гэтай сітуацыі ідэальна), са сваімі хваробамі і злыбедамі: *«Колдрекс!», «Витрум!», «Простасабаль!»*, дадаючы да назвы свае прозвішчы.

Кіпяцільнікі выдаваліся толькі падчас прыёму ежы — адзін на камеру. Зразумела, што патрэба ў гарбаце ці ў любой гарачай вадкасці існавала пастаянна — тым больш у халодную паравіну года. Таму перад сном пад маркай заваркі «Колдрэксу» ці настою рамонку можна было выпрасіць каштоўную тэхніку і апошні раз на дзень хлебануць гарбаты — нібыта нават і легальна.

*22:00* — **адбой**. Пра гэта таксама паведамляла «кармушка». «Сонца» (дзённая лямпачка) згасала, і ўзыходзіла «Луна» (начная лямпачка) — рамантыка! Вязні лезлі на свае шконкі, нехта засынаў адразу, нехта пачынаў травіць байкі... Пры зручным становішчы нары (зверху) пасля адбою можна было яшчэ пачытаць ці накрэмзаць ліст. Чытаць на нары, калі ўсе спяць, пад гукі дажджу, удыхаючы пахі вясны з вуліцы, — гэта абсалютны катарсіс!

Пахвіліннай дакладнасці з распарадкам дня для нас не не магло існаваць у прынцыпе: гадзіннікі на «амерыканцы» маглі насіць толькі супрацоўнікі адміністрацыі (адзін з кантралёраў нават атрымаў адмысловую мянушку — Швейцарыя — за свае вялізныя наручныя «катлы»). Рознымі хітрыкамі часам удавалася зазірнуць на кантралёрскі цыферблат, часам дапамагала сонца, якога тут было небагата, ну і, канешне, бой са званіцаў цэркваў ды касцёлаў, які не дазваляў забыць, што мы знаходзімся ў цэнтры Мінска.

***

Дзядзька Саша з маёй першай — 17-й камеры быў вайскоўцам у лепшым сэнсе слова. «Падажжы, я далажу!..» — з гэтымі словамі ён адсоўваў кагосьці з нас убок, каб, незалежна ад графіку дзяжурстваў, адрапартаваць перад кантралёрамі. Калі калона з дзядзькам Сашам спускаецца на шпацыр у дворыкі, пад крыкі ды грукат дубінак, «новенькія» абавязкова будуць стаяць усярэдзіне, а ён пойдзе першым ці замыкаючым, каб, калі што, прыняць удар на сябе. Дзядзька Саша трымаў форму, таму ў заснежаным дворыку дэманстраваў сваё веданне ўсходніх адзінаборстваў: кантралёры з мосціка ажно завісалі, назіраючы ўсе гэтыя блокі, удары ў паветра, удых-выдых. Фантастыка! Такі ён быў, дзядзька Саша.

Ён багата распавядаў. Пра службу ў Заходняй Украіне, на Каўказе, у Манголіі — на рубяжах савецкай імперыі. Некаторыя расповеды нагадвалі Кіплінга: у Манголіі, напрыклад, вайскоўцы пад выглядам каменнага вугалю прадавалі мясцовым… цэглу, абмазаную гаручай вадкасцю. Падносіць каланізатар

запалку да такога «брыкета»: *«Горит?» — «Горит!»* У частку дзядзька Саша вяртаўся ўжо са скурамі, дыванамі ды рознымі бонусамі, што можна было атрымаць ад абарыгенаў. Вось так: замена старажытнага вертыкальнага пісьма манголаў на вычварны варыянт кірыліцы была далё-о-ока не адзіным падарункам «старэйшага брата» ўдзячнаму насельніцтву стэпаў.

А яшчэ дзядзька Саша навучыў мяне гуляць у нарды — «шыш-бэш» — ды ўсяляк падтрымліваў. «Не здавайся, інакш ані я цябе, ані ты сам сябе паважаць не будзеш…» — гэта ягоныя словы. Дарэчы, гэта быў першы чалавек, з якім я мог камунікаваць кароткімі запіскамі, седзячы побач. Навошта? Бо сцены ўсё чуюць. Сукамернікі — тым больш.

***

Дзяніс — просты хлопец, дырэктар фірмы, што займалася металаапрацоўкай. Камітэт «закрыў» таксама двух ягоных братоў, бухгалтарку і саўладальніка фірмы. Ягоным любімым спеўным матывам на той момант была «Птица счастья», якую Дзяніс выконваў на свой манер падчас шынкоўкі селядца ці мыцця посуду:

— Прилетела птица извиня…

Далей Дзяніс яшчэ нешта падвываў, але словы абрываліся. Мабыць, гэтае самае «извиня» правакавала на пошук нейкіх новых сэнсаў у старым матыве, што не было простай задачай: *«Извиня?»* За што? Каго? І пайшло-паехала… Суцэльная экзістэнцыя. Дзяніс пакрысе змаўкаў, каб праз нейкі час зноўку зацягнуць: «Прилетела…»

Па вечарах нам па тэлевізары круцілі кіно пра

вайну. Дзяніс ажываў, калі на экране з'яўляліся месершміты і «штукі» — на волі ён збіраў мадэлі самалётаў. Разам са мной ён вучыў ангельскую мову, разам з Паўлам Севярынцам, які трапіў у «хату» пасля мяне, маліўся і чытаў Біблію… Пройдзе шмат часу, і я даведаюся, што на свабоду з судовай залы ён выйдзе ў адзін дзень з Паўлам Канстанцінавічам, таксама атрымаўшы тэрмін «хіміі».

***

— Быстре-ей! — крычыць «маска», пакуль мы перабіраем нагамі па крутой металічнай лесвіцы пасярэдзіне «цырка».

— Быстрхэ-э-эй! — нібы скажонае рэха, паўтарае хрыпаты голас, дубінка малоціць па драўляным борціку: «Бух!» злева, «Бух!» справа... Найменшы ростам хрыпаты «маска» запомніўся ўсім без выключэння вязням «амерыканкі»: крыклівасцю і паказной агрэсіяй — тыповая мадэль паводзінаў для невысокіх «мача».

«Гобліны», яны ж «маскі», безумоўна, рабілі нашае жыццё больш цікавым і размаітым. Яны прафесійна займаліся нашым спартовым выхаваннем (гонкі па паверхах, расцяжка, каманды *«лечь-встать»*), выхаваннем маральным (трэба было заступацца за сваіх, падбадзёрваць адзін аднаго), а таксама падтрымлівалі сярод нас добрую планку гумару. У рэшце рэшт мы пачалі за іх маліцца перад ежай: *«Каб Госпад даў мазгоў…»*

Хто хаваўся пад маскамі? Што гэта была за «група ўзмацнення»? Невядома дагэтуль. Нехта казаў пра спецназ КДБ «Альфа», але неяк цяжка верыцца, каб

спецы вышэйшага класа ўзялі на сябе падобныя сумніўныя абавязкі. Хлопцы з аховы прэзідэнта? Гучала і такая версія… Пад маскамі збольшага хаваліся маладыя твары.

Іхнай мэтай было навесці «жуці» ды зрабіць перабыванне ў СІЗА як мага менш камфортным. Раней, паводле ўспамінаў, «амерыканка» нагадвала ледзьве не санаторый: звароты на «вы» з боку аховы, дыванкі на «прадоле», вязні ледзьве не ў госці адзін да аднаго хадзілі. Трэба было ўсё змяніць, паказаць тым, хто хацеў заняць галоўнае крэсла ды «націскаць кнопкі» рэальны стан рэчаў, хто начальнік, а хто дурань.

Ці можна лічыць усё гэта: дубінкі, электрашокеры, прагонкі з «ватай» і рэчамі ў руках па паверхах, расцяжкі і г. д. — катаваннямі? Не ведаю. Усё ж такі катаванні — гэта нешта з «Рэпартажу з пятлёй на шыі» Юліуса Фучыка. Катаванні — гэта пра іншае. А тут — хутчэй спецсродкі і злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі. Зрэшты, заява збеглага з краіны палітыка Міхалевіча менавіта пра «катаванні ў “амерыканцы”» на прэс-канферэнцыі на Захадзе нам няблага дапамагла. Але пра гэта пазней.

Цікавы феномен: ва ўспамінах Сяргея Грахоўскага, які наведаў «амерыканку» ў 30-х, службоўцы напачатку насілі маскі, але праз нейкі час знялі — сапраўды, чаго і каго ім было баяцца ў сталінскай імперыі? Тут жа, у 2010–2011-м, усё адбылося наадварот: адразу пасля масавага заезду палітычных група ўзмацнення не хавала сваіх твараў, аднак… праз пару дзён нехта вырашыў, што так будзе бяспечней, — іхныя аблічча імгненна «пачарнелі». Што ж, усё калісьці сканчаецца.

***

Адным сонечным ранкам адміністрацыя парадавала нас навіной: згодна з новымі правіламі (а хто ведаў старыя?) пры ўваходзе супрацоўнікаў СІЗА ў камеру вязні мусяць саскочыць з нараў і хуценька стаць за чырвоную лінію, намаляваную на падлозе. Невыкананне каманды расцэньвалася як спроба да ўцёкаў. Мы ўспрынялі навіну з гумарам — хаця б таму, што далажыў нам аб ёй Ганс, мажны белабрысы начальнік змены з лёгкім фальцэтам, якога сур'ёзна ўспрымаць было немагчыма.

Лінію намалявалі ўмоўна невядомыя асобы, альбо «цені» («баландзёры», што выконвалі гаспадарчыя абавязкі ў СІЗА, якіх мы ніколі не бачылі), пакуль мы былі на шпацыры. Нейкі час чырвоная стужка на падлозе сохла, а мы баяліся на яе наступіць ды папсаваць гумовыя шлёпкі.

***

— С вещами на выход! — гэтая фраза паўтаралася штораз перад прагонкай па паверхах. Адчыняюцца «тармазы», гучаць гэтыя словы, а «маска» паказвае на мяне пальцам — каб не прамаўляць прозвішча ўголас і выпадкам не пачуў хто з суседняй камеры. І пайшло-паехала.

Гэтым разам, ужо ўвечары, я нават не думаў пра перасяленне з камеры ў камеру, нават прадуктаў не браў: паганяюць, вернуць, а заўтра будзе новы дзень. Аднак уніз мяне не пагналі, а кантралёр загадаў усяго толькі прайсці пару метраў па коле нашага «цырка» супраць гадзіннікавай стрэлкі: ад 17-й камеры

да 13-й. Усе мае наступныя перасоўванні па камерах СІЗА таксама, дарэчы, адбываліся супраць гадзіннікавай стрэлкі.

Адчыняюцца дзверы, унутры — мікракосм новай «хаты» — усе насельнікі ўжо пашыхтаваныя за чырвонай лініяй. Не сказаў бы, што новыя твары мне дужа спадабаліся... Адзін наогул нагадваў бамжа: у шапцы-вушанцы ды з ашмёткамі барады на падбароддзі (пасля высветлілася, што гэта ўплывовы расійскі бізнесовец).

— Какая статья?

— 293-я, частка 2-я.

— А, ну встречай тогда своих…

З-за спінаў мужыкоў да мяне выслізнуў абсалютна незнаёмы хлопец гадоў 35–40. Я думаў, што большасць тутэйшых «палітыкаў» пазнаю ў твар, а вось і не… Гэта быў Аляксандр Класкоўскі — знакаміты «мент з Плошчы». Кадры, дзе ён з акрываўленай галавой спачатку паказвае шыхту спецназа свае пагоны са словамі: «Давай, ударь лейтенанта!», а пасля ломіцца ў дзверы Дома Ўрада са сцягам, абышлі ўсе СМІ.

Дзіўна. Палітычных імкнуліся не садзіць разам — каб ніхто не адчуваў «сяброўскага пляча». Але месцаў, відаць, было не так багата, таму часам мы перакрыжоўваліся. З Класкоўскім я абмеркаваў бягучыя навіны, падзяліўся сваёй інфармацыяй — ён распавёў сваё. Пасля Плошчы, з ягоных словаў, былы лейтэнант ДАІ вытрымаў асаду і штурм ужо сваёй кватэры, дзе знаходзіўся разам з жонкай і дзецьмі, а пасля галодныя суткі ў РАУСе, у кайданках, прычэпленым да батарэі. Калі гэта праўда, то ён адчуў на сваёй скуры акурат «карпаратыўны прэсінг»: для міліцыянтаў ён быў не толькі штурмавіком, але найперш — здраднікам.

Унутрана надломлены афіцэр часта ўздыхаў, шкадаваў жонку і нясплочаны крэдыт, чытаў спачат-

ку Акуніна, пасля перайшоў на «блатняк» з серыі «Обожжённые зоной» (*«рыхтаваўся да калоніі»* — так гучала ягоная матывацыя). Але гэта быў першы «свой» — з якім можна было абмеркаваць падзеі, падзяліцца думкамі, паразмаўляць па-беларуску.

Камера мела панурыя аблупленыя сцены (значыць, сырая), але ў ёй была шыкоўная Біблія — вялізная, з прыгожай вокладкай і пасрэбраным зрэзам! Кнігі перадаваць было забаронена, таму для мяне гэта была знаходка. На сцяне вісеў кардонны абразок Багародзіцы, замест німбу і акладу ў Яе былі плямы вылушчанай фарбы. Калі доўга ўзірацца, плямы нагадвалі кантыненты з мапы перыяду вялікіх геаграфічных адкрыццяў, а Божая Маці знаходзілася акурат недзе на тэрыторыі Паўднёвай Амерыкі.

***

Трынаццатая камера, куды я трапіў, аказалася «штрафной»: нумар сведчыў пра спецыфічнае пачуццё гумару начальніка «амерыканкі». У СІЗА КДБ сядзелі «ворагі». Тут — «ворагі з ворагаў», якім трэба было паказаць іх месца ці адпомсціць: два падпалкоўнікі, расійскі камерс, галоўны інжынер МТЗ, Класкоўскі ды яшчэ адзін падпалкоўнік, які на момант майго заезду знаходзіўся ў карцары. Карацей, камера на асаблівым рахунку ў адміністрацыі.

Асобна мяне тут ужо не ганялі, ганялі ўвесь калектыў: працэдуры, прапісаныя начальнікам СІЗА, тычыліся ўсіх пацыентаў палаты. Разам — весялей. Тым не менш менавіта гэтая «хата» (правёў я тут прыкладна паўтара месяца) запомнілася больш за ўсё: шчырасцю, гатоўнасцю падставіць плячо ў любой

сітуацыі ды… несціхаючым смехам — непаўторным «гумарам вісельнікаў».

***

Шпацыр. Дворык. Шэсць чалавек туляцца да сценаў, знаходзяць сабе траекторыю для хаджэння — тры крокі ў адзін бок, тры назад. «Даішнік» Класкоўскі мала хадзіў, больш флегматычна круціўся на месцы — прафесійнае, відаць. Падлога ледзяная, прысыпаная снегам. Усё як заўжды: музыка, кантралёр на мосціку... Раптам вокліч з суседняга дворыка:

— Пошёл на х...!

Супрацоўнікі пачалі мітусіцца, нас хуценька і на дзіва спакойна завялі ў камеру. Ніводнай «маскі» па шляху не было: на сёння яны ўжо мелі занятак... Хто крычаў? Чаму? Што з ім сталася? Мы так і не дазналіся.

Было і па-іншаму. Неяк нас спускалі на прагулку ў экстрэмальным парадку: падпалкоўніка ўнутраных войскаў на пенсіі «маска» наўпрост выхапіў з калоны і з надрыўным крыкам: «Сука!» ударыў аб сцяну.

— Теперь я понимаю, почему им в Гражданскую семёновцы звёзды на лбу вырезали! — выдаў агаломшаны падпалкоўнік у дворыку.

Затое перад зваротнай дарогай у камеру ўжо іншы «гоблін» (а можа, той самы? Маскі ж…) згуляў у інтэлігента:

— А теперь вы сможете пройти в камеру без насилия!

Так мы і жылі…

У адной з першых перадачак на гэтую «хату» мне прыйшоў сшытак з выявай Мірскага замка разам з асадкай. Атрымліваючы перадачку, можна зір-

нуць, хто перадае. Тут значыўся… *Андрэй Дынько. «Пішы!»* — нібыта казаў рэдактар «Нашай Нівы», што я, хоць і нерэгулярна, але пачаў рабіць. Ці спадзяваўся я, што вынесу з СІЗА нейкія запісы? Не. Але пісаць было хутчэй унутранай патрэбай: не таму, што можаш, а таму, што не можаш інакш. Гэта таксама своеасаблівая тэрапія.

***

Рогат у «штрафной» камеры стаяў цэлымі днямі. Сапраўды, а што было рабіць? У краіне, дзе ўсё на кантролі, мы знаходзіліся ў ізалятары, дзе ўсё тым больш на кантролі, ды не проста ў СІЗА, а ў СІЗА КДБ, дзе кантроль мае быць вышэйшага гатунку, а ў гэтым СІЗА нас сабралі ў адзінай камеры з 18, якая была яшчэ і на асаблівым кантролі начальніка «амерыканкі». І смех, і грэх…

Падпалкоўнікі вялі рэй, выступаючы ў якасці дыджэяў нашага камедыйнага шоу:

— И вот, мы с тобой в галифе…

— Да, с кожаными вставками между ног… чтоб не протёрлись.

— Со вставками, да, и маузеры в двух руках…

— …чтобы вести веерную стрельбу и не промахиваться!

— Да! Ну а Якут (*мянушка найпаскуднейшага кантралёра*) при этом поедает свою зал…!

— ...прошу заметить, предварительно сваренную зал…!

— Да!

— И обжаренную только после — так полезней для желудка!..

— Да… ахахаха!...

Безумоўным хітом быў сюжэт пра зацягванне кантралёра ў камеру праз «кармушку» з наступным паяданнем: *«каб непавадна было»*. Цікава, ЯНЫ ж усё гэта чулі… Як рэагавалі? Што думалі? Якія дзеянні падказвалі эмоцыі, а якія — халодны разлік? Цікава…

Памяць захавала некалькі фразаў і нават кароткіх дыялогаў, вырваных з кантэксту, якія дапамагаюць ажывіць тую атмасферу:

— Слушай, Васильевич, ты 25 лет работал на МТЗ: откуда ты знаешь эти фразы по-французски *(«Enfin je reviens à la vie» — «Нарэшце я вярнуўся да жыцця»)*, статистику бытовых убийств ножом за год, длину подводных лодок и их ТТХ?...

Альбо:

— Принесли ведро, мол, убирайтесь!

— Может, у них сегодня Чистый четверг?

— Где чистый?! У кого? У них руки по локоть в крови!..

Альбо так:

— Это нам кажется, что на нас клин светом сошелся, ой, свет клином... На самом деле это такая рулетка…

— Ага, только пять заряженных и один пустой.

Ну і яшчэ:

— Помню, остановился я в отеле в Сен-Тропе, там как раз 18 номеров было... блин, как тут!

***

Аўтар апошняй фразы — расійскі інвестар Саша. Той самы, які нагадаў мне бамжа, калі я заязджаў у камеру. Адкрыты, працавіты і творчы чалавек. Яго-

ныя расповеды сягалі балотаў Карэліі і стэпаў Казахстана (туды ён ганяў на ралі), узбярэжжаў Тэмзы (меў кватэру ў Лондане), згубленых сярод Альпаў маленькіх гатэльчыкаў, дзе бачыўся з вядомымі мадэлямі ды актрысамі. Мы разам вучылі нямецкую мову, ён спрабаваў размаўляць па-беларуску, не цураўся ніякай працы «па хаце».

Яго бараніў адвакат Зэльцэра (таго самага, звязанага з Беразоўскім), маладая жонка на джыпе прывозіла перадачкі ў СІЗА, а Саша... рэзаў «дэльфінаў» для вячэры на ўсю камеру, травіў пасля адбою байкі пра Саудыю, Карлавы Вары, Лондан, адпраўляў дзецям у капэртах малюнкі з «тролямі» (ягоны персанальны сінонім для «масак»), нібы пераказваючы страшную казку, якая сталася рэальнасцю ў асобна ўзятай краіне.

— Барьеры существуют в твоей голове — их нужно сломать. И тогда ты начинаешь парить! — разважаў уголас Саша. — Что ж, надо отсидеть! Восемь так восемь!..

Нават калі прыбраць фактар шапкі-вушанкі ды барады, знешнасць у Сашы ўсё адно была нестандартнай. Твар злёгку нагадваў маску. Аказалася, і тут хаваецца цікавая гісторыя: аднойчы на поўнай хуткасці недзе паміж Масквой і Смаленскам ён сутыкнуўся… з ласём! Жывёлу разарвала, ейныя вочы апынуліся на задняй сядушцы аўто. Дасталося і Сашу: ягоны чэрап, дакладней фрагменты твару, лекары збіралі па кавалачках, каб склеіць, як археолагі склейваюць грэцкія амфары, паднятыя з бездані Эгейскага мора.

А яшчэ інвестар неяк з сумам усміхаўся, калі з мосціка ўключалі Земфіру — «Мне приснилось небо Лондона». Аднойчы, ужо ў камеры, ён заплакаў. Не не наўзрыд, а неяк бязгучна і вельмі па-чалавечы. А пасля папрасіў у нас прабачэння:

— Простите, мужики, чёт я расклеился.

Гэта была хвілінная слабасць моцнага чалавека. А навошта прабачэння прасіць? Бо дрэнна ўсім, але падобныя эмоцыі заразныя. Бо камера — адзін арганізм, усё навідавоку. Усё — смех ці слёзы — можа мець вірусны эфект.

Наогул жа, за кратамі я тройчы бачыў, як плачуць мужчыны. Спачатку Саша. Пасля — адзін з падпалкоўнікаў, асэнсаваўшы, што з улікам здароўя і ўзросту жывым дадому ён можа і не вярнуцца. Пазней — былы пракурорскі работнік — падчас малітвы, стаўшы на калені перад расстаўленымі на нары кардоннымі абразкамі. Усё натуральнае, усё — чалавечае.

***

Пульт да тэлевізара выдаваўся ў будзённыя дні пасля шасці гадзін вечара, у выходныя — пасля абеду. Звыклай сеткі вяшчання мы не мелі, таму цешыліся з відэафонду КДБ — праграмаў і фільмаў, якія круцілі адмыслова для нас. Тэмы абіраліся даволі спецыфічныя: «Вялікая Айчынная», шпіянаж, сусветная закуліса і ЗША, Чачня, Балканы, а ў дадатак нешта там пра здаровы лад жыцця ды шкоду ад палення. Тут ужо не яны назіралі за намі, малюючы псіхалагічныя партрэты, а мы за імі. Па сутнасці, гэтымі фільмамі яны вымалёўвалі свой калектыўны партрэт.

Часам фільмы паўтараліся. Не тое каб адзін і той жа фільм круцілі па два разы на тыдзень, не. Фільм сканчаецца, ідуць цітры, а пасля зноўку пачынаецца — той самы! Так, аднойчы ў суботу падчас генеральнай прыборкі нам пракруцілі разоў пяць кіно пра Мінскае падполле. Запомніўся эпізод, як адзін савецкі

агент, інфільтраваны ў шэрагі Саюза беларускай моладзі, неяк згубіўся пасля вяртання савецкай улады ў Мінск і… трапіў у ГУЛАГ. Бываюць няўдачы і ў іх.

***

— Не поможет тебе твой Аллах! — крычыць кантралёр з пабітым воспай тварам і характэрнай мянушкай — Жаба. «Бух!» — удар берцам па назе. Усёй камерай мы стаім на расцяжцы у халоднай «спартзале», куды камеру спусцілі для дагляду.

— Я не мусульманін, — адказваю.

— Почему молишься, как мусульманин?!..

Я сапраўды ўздымаў рукі далонямі дагары падчас малітвы перад сном, Жабе гэта падалося дзіўным… Мусульманін у ягоным светапоглядзе, відаць, вораг. Пасля фільмаў пра Чачню, якія нам тут круцілі, не дзіўна.

Жаба — адзін з самых недалёкіх ды агрэсіўных кантралёраў. Якут — ягоная супрацьлегласць, максімальна спакойны, безэмацыйны, але падступны: можа цішком перакрыць вентыляцыю ў камеры чалавека, якому заўтра ехаць з СІЗА на суд — каб той мучыўся з галаўнымі болямі падчас паседжання…

Кантралёры ведалі нас па прозвішчах, мы іх — па мянушках. Паміж камерамі не было наўпроставай сувязі, але людзей перакідалі туды-сюды, так мянушкі сталіся агульнавядомымі. Толькі двое супрацоўнікаў, наколькі мы ведалі, працавалі тут з 1990-х (Плашчадка і лысы начальнік змены — Міша). Большасць былі даволі маладымі: Карлсан, Швейцарыя, Бораў (ён жа Ганс), Румын, Якут, Кінг-конг, Рома, Жаба, Вася... Памяць хутка сцірае аблічча гэтых выпадковых людзей.

— Интересно, а проводится ли с контролёрами хоть какой-то психологический тренинг? — разважае адзін з падпалкоўнікаў. — Например, они же обязаны каждые три минуты заглядывать в камеру во время кругового обхода...

— На х…й они тут кому нужны? — апаратыўна адзываецца другі. — Это люди, которые пришли сюда, чтобы получить через два года квартиру. Тут вообще в стаж год за два записывается... Вот если ты долго смотришь в пропасть, что происходит?

— …

— Пропасть приближается. Через два года это уже люди с патологиями... Ну ты вот помнишь, как в университетские годы у тебя мозоль была на пальце от ручки, помнишь?

— Ну, да.

— А вот у них такая же мозоль от переворачивания завесы на глазке в двери каждые три минуты! — рэзюмуе Віця.

***

Віця — былы падводнік, прынцыпова рускамоўны (па-беларуску не разумее), былы мент, апошнімі гадамі перад пасадкай займаўся камерцыяй. Ягоныя жарты часцяком апускаліся ніжэй ватэрлініі — марскі гумар. Зімовымі ранкамі падчас выхаду ў прыбіральню ён у абавязковым парадку ўмываў торс і ногі ледзяной вадой. Побач стаяў інвестар у вушанцы і яшчэ больш тросся ад холаду.

Віця праходзіў па нейкай карупцыйнай справе. Калі апісвалі ягонае майно, раптоўна паўстала дылема: як з падвала вынесці більярдны стол? Ён не разбіраецца і не праходзіць у дзверы!

— Да как вы вообще его туда занесли? — не вытрымалі службоўцы.

— А мы сначала стол поставили и уже сверху достроили дом, — не разгубілася Віцева жонка.

Віця пакінуў мне ў падарунак кніжку «Падводны спецназ Расіі», якую атрымаў на дзень нараджэння тут жа, у СІЗА, ад сукамернікаў. Час ад часу я дастаю яе з паліцы і пераглядаю з дзясятак подпісаў інвестараў, апяроў, падпалкоўнікаў, нават аднаго генерала — таго самага, з алмазамі. Незвычайны ўсё ж такі калектыў сабрала «амерыканка»! Узіраючыся ў подпісы тых, каго ведаў асабіста, узгадваю па выкручаных літарках, клічніках і прастаўленых датах усмешкі і вочы гэтых людзей. Мужыкі, дзе вы зараз?..

— Моя жена всем соседям сказала, что я поехал на заработки в Казахстан. Но, по-моему, они уже о чём-то догадываются… — не без суму неяк канстатаваў Віця.

— Я на твоём месте по выходу первому же соседу на вопрос: *«Где вы были столько времени?»* ответил бы прямо: *«Убил двух оперов, одного съел»*. Больше бы к тебе никто не подошёл, — смяецца ў адказ Юра. Таксама падпалкоўнік. Таксама на пенсіі. Таксама «карупцыя».

***

Усмешлівы Юра праходзіў па гучнай справе Адамовіча, атрымаўшы ў выніку нешта каля трох з паловай гадоў. Высокі, мажны, некалі ён тройчы прайшоў з парадам па Чырвонай плошчы, пасля — прымаў парады сам ды заграбаў тысячы прызыўнікоў у шэрагі ўнутраных войскаў. Ягоны смех заўжды самы гуч-

ны. Седзячы на шконцы з кубачкам какавы, ён любіў зацягваць забыты хіт: *«Куба далеко, Куба далеко — Куба рядом…»*

Яшчэ пры мне Юра пачаў ездзіць на суды. Пасля першых паседжанняў у яго пачалі з'яўляцца сівыя валасы, а вочы сталі зусім празрыстымі, як вада ў рэчцы ўвосень.

— Я вот жил себе спокойно на свободе, читал «Милицейский вестник», и вдруг… Они выкрали моего брата, не кормили, держали на «левой» квартире… А следователь мне сказал перед посадкой: *«После обеда приезжайте в управление и… спортивный костюм возьмите с собой».* Я поел пельменей, без задней мысли взял трико и поехал с адвокатом. И вот я тут, б…!..

А вось яшчэ адзін характэрны пасаж:

— Ну что такое жизнь офицера милиции? Это состав, который несётся вперёд на протяжении 25 лет. Из которых остановка — секунд 30 — это твой отпуск: путешествия, семья, дети — если успеешь. И некогда думать о чём-то другом, ты едешь, как все. Твоя цель — пенсия, вдобавок к которой ты пойдёшь сторожем на стоянку, чтобы поддержать прежний уровень жизни. Сверхзадача — стать полковником. Всё. Ты знаешь много приказов и инструкций, но больше ничего не умеешь... И это для того, чтобы утром, когда едешь на работу, тебе кричали откуда-то с конца троллейбуса: *«Выведите пьяного, вы же милиционер!»*

— Да, Советский Союз… времена были е…тые, но мы хоть получали нормально, — філасофскі пагаджаўся Віця.

***

Атрымаць забароненыя рэчы і прадукты харчавання можна было толькі праз зварот да начальніка СІЗА. Схема была наступнай: 1) родныя табе перадавалі перадачку; 2) супрацоўнікі змяшчалі «забароненае» на склад, рэшту перадавалі табе; 3) ты пісаў заяву на імя начальніка з просьбай *«аддаць табе тваё»*; 4) табе вярталі заяву з рэзалюцыяй начальніка: *«Адмовіць»*… Стандартная схема. Варыяцыі ў апошнім пункце былі магчымыя толькі ў асобных выпадках. Для нашай «штрафной» камеры такія выпадкі былі чымсьці на мяжы фантастыкі.

Недзе ў сярэдзіне лютага так сталася, што амаль да кожнага прыйшло сала, якое, ясны факт, засталося на складзе. Тут падпалкоўнік Юра вырашыў пайсці ва-банк. Падчас ранішняга абходу на імя начальніка была перададзеная заява наступнага зместу:

*«Начальнику СИЗО КГБ*
*от К…вича Юрия Викторовича,*
*обвинемого по ст. ...*

*Заявление*

*18 февраля вся наша страна широко отмечает День внутренних войск. В связи с этим для обеспечения организации торжеств прошу выдать мне 1,8 кг сала со склада.*

*Ветеран войск НКВД[*] К…вич Ю. В.»*

Камера затаілася ў чаканні. Улічваючы нашыя стасункі з начальнікам і плыні жартаў, якія штодня ў прамым эфіры выліваліся на кіраўніцтва ўсіх узроўняў (пасля на-

[*] Унутраныя войскі ў свой час знаходзіліся ў структуры НКУС.

чальнік асабіста пацвердзіў, што 13-я камера стаіць на асаблівым рэжыме праслухоўвання і відэафіксацыі), наступствы звароту маглі быць самымі рознымі. Што далей? Расцяжкі, прагонкі, карцар… Будзе, як будзе.

Раптам адчынілася «кармушка», адтуль выплыў чорны пакет… Пакет з салам! Бездапаможныя «нематываваныя» звароты ўсіх астатніх вярнуліся, як заўжды, з адмоўнымі рэзалюцыямі.

Што рабіць? Віцю прыйшла ў галаву геніяльная ідэя: напісаць, што сала сукамернікам патрэбна для… віншавання «ветэрана войскаў НКУС». Заявы пайшлі, а «хата» ў выніку атрымала сала ў той жа дзень! Падсумоўваючы, можна сказаць, што начальнік СІЗА сапраўды меў дзіўнае пачуццё гумару: сумесь тонкага садызму з сумам актыўнага і працавітага чалавека ад будзённай кабінетнай працы.

***

— О, вороны кричат, — меланхалічна заўважаў інвестар, — значит, Гренадёр идёт на работу.

Грэнадзёр — мянушка начальніка СІЗА. Ён жа — «Арлоў А. В.». Чаму ў двукоссі? Бо чалавек займаўся досыць спецыфічнай дзейнасцю, каб не хаваць інфармацыі аб сабе (яму папярэднічаў нейкі «Сакалоў»). Цікава было недзе ў сакавіку прачытаць у «Белгазеце» пра савецкага агента ў Іспаніі, яшчэ часоў Камінтэрна, таксама з мянушкай «А. В. Арлоў». За мянушкай у таго агента 1930-х хавалася нейкае складанае для запамінання яўрэйскае прозвішча.

…Маё першае знаёмства з Грэнадзёрам прайшло ў кайданках: «маска» ў позе «пажыццёва зняволенага», то бок з выкручанымі назад рукамі і тварам у падлогу,

завёў мяне ў кабінет, пасадзіўшы на крэсла насупраць падцягнутага невысокага чалавека гадоў пяцідзесяці з арліным носам, чубком і пагонамі палкоўніка. Гэта быў Арлоў.

— Што вашы людзі сабе дазваляюць? — першай справай пацікавіўся я.

— Они не мои, они… государственные.

Са словаў палкоўніка, ён прымаў удзел у двух вайсковых канфліктах, сядзеў ва ўсходняй турме і аддаў дзяржаве «долг» на 300 гадоў наперад. Адной са сваіх галоўных заслугаў Арлоў лічыў выгнанне пратэстанцкай царквы «Новае жыццё» з Уручча: усё заходняе выклікала ў яго нянавісць.

— Вы похожи на поляка.

— Не, я беларус.

— Да? Странно. Вообще-то моя бабушка была полькой — её фамилия Мицкевич…

Далей цягнулася лекцыя пра сусветную закулісу і Каталіцкі Касцёл, які спрабуе *«разарваць Беларусь»*, пра «рускі свет» і дэмакратыю ды інш. Паралельна «начальнік» не забываў прайсціся па іншых палітычных:

— А вы знаете настоящую фамилию Радиной? Пук. А слышали, как за глаза называют Санникова?.. Тугодум!

На наступнай сустрэчы я быў ужо без кайданкоў. Яму спадабаліся малюнкі, якія я дасылаў дадому. На адным з іх быў мост паміж Новым і Старым замкамі ў Гродне. Ён быў там. Пагутарылі пра гісторыю, мастацтва, іслам… Ад гарбаты я ветліва адмовіўся.

— А хотите, покажу видео, как Лебедько хлеб ест во время голодовки? Ну правда, есть видео! Все на прогулке, а он, «держа голодовку», кушает!.. — Арлоў задаволена ўсміхнуўся, нібыта калекцыянер, які дэманструе гасцям свае зборы.

— Не, дзякуй.

— Зря… А вот это видео я вам всё-таки покажу.

Арлоў уключыў экран, на карцінцы быў той самы кабінет, дзе мы знаходзіліся. У кайданках туды завялі невысокага каратка стрыжанага хлопца. Яго пасадзілі на крэсла і пачалі распытваць. За выбітае шкло ў Доме Урада, згодна з відэа, яму ці тое заплацілі, ці тое абяцалі — 50 даляраў… Як пасля аказалася, ён сапраўды праходзіў па справе ў ліку «штурмавікоў».

— Это видео вы больше никогда не увидите. По БТ его не покажут. Знаете почему?

— Не.

— А нам уже нет нужды дискредитировать оппозицию...

Сапраўды, гэтыя сведчанні больш нідзе не прагучалі: ні на судзе, ні ў прапагандзе. Асоба гэтага чалавека, фігуранта справы, як і гісторыя з 50 далярамі, для мяне так і засталася таямніцай.

Арлоў любіў пагутарыць. Мяне, з ягоных славаў, маглі пасадзіць у камеру да сухотнікаў з адкрытай формай хваробы. Саша, расійскі інвестар, праслухаў лекцыю пра таблеткі, якія ў выпадку чаго пачнуць кідаць яму ў ежу (напрыклад, ва ўмовах карцара з індывідуальным харчаваннем), пасля чаго ён хутка пазбавіцца зубоў. Малчанаў, адзін з фігурантаў справы, які некалі абліў фарбай помнік Арджанікідзэ ў Барысаве, трапіўшы на зону, «не меўся пражыць доўга»… *«По правилам тех мест подобные поступки не прощаются»*, — казаў палкоўнік.

Ён любіў пагутарыць, гутарыў з усімі, выклікаючы да сябе ў кабінет. Каго адзін раз, каго — не аднойчы. Сёе-тое пазначаў у нататніку адразу ж. Пару разоў вадзілі і мяне, пакуль я не папрасіўся вярнуцца ў камеру.

— Почему?.. Давайте поговорим. Мне скучно, —

тэатральна здзівіўся Арлоў, пасля чаго падняўся з-за стала і пачаў хадзіць па кабінеце.

Яму было сумна. Ці праўда гэта? Не ведаю. А чаму б і не? Калі чалавека адсунулі ад апаратыўнай працы і скіравалі ў СІЗА — дзе тут разгарнуць бурлівую дзейнасць? Падцягнутыя сухаватыя людзі чамусьці заўжды выклікалі ў мяне сімпатыю, у адрозненне ад пузаноў з раз'етымі фізіяноміямі. Падцягнуты — значыць, пры справе. Значыць, на сваім месцы.

Тады, той зімой, зразумела, мы ненавідзелі Арлова. Бо… былі ў ягоным палоне. Ён мог гуляцца, выклікаць да сябе, прапаноўваць гарбату ці каньяк, маніпуляваць. Яму было сумна. Сёння гэты дзіўны чалавек мне бачыцца як талковы тэхнакрат, вінцік сістэмы, звяно ў ланцугу. У яго была свая каманда, свой клан, на які ён працаваў. Свая зграя. Мне падавалася, што за маімі плячыма — свая зграя: палітыкі, кандыдаты, «апазіцыя», вольная Беларусь!.. У сапраўднасці, за спінай у мяне была сям'я на волі (маці ды жонка) і сукамернікі, з якімі мы апынуліся на адной падводнай лодцы. І ўсё.

***

Аднаго дня ў камеру ўварваўся чалавек. Дакладней, спачатку заляцелі два «кешары», а пасля ўжо забег невысокі чарнявы хлапец з барадой, у расхрыстаным пухавіку. Нечым нагадваў каўказца. Ён дастаў цыгарэту, запаліў, пачаў бегаць па камеры, нешта распавядаць. Пра Васю, а гэта быў Вася, які толькі што выйшаў з карцара і заехаў да нас замест галоўнага інжынера МТЗ Васільевіча, распавядалі багата.

— Ты не знаешь Васю? — неяк пасля адбою спытаў Юра, калі я толькі заехаў.

— Не.

— Вася… Это человек, который просит в «кормушку» подать ему валерьянки, контролёр ее не находит, Вася советует поискать на другой полке, параллельно интересуясь погодой, контролёр нервничает, валерьянки нет, а Вася настаивает на своём… В результате открываются «тормоза», Васю выводят на «продол» и пиз…т! Ха-ха-ах-ха….

Вася, які часамі нагадваў вар’ята, аказаўся… дзеючым, з ягоных словаў, падпалкоўнікам, які знаходзіцца ў СІЗА за «неправамернае ўжыванне фізічнай сілы». Пацярпелым па ягонай справе аказаўся генерал МНС: на відэа з матэрыялаў справы Вася нібыта збіваў яго ў ягоным жа кабінеце.

— Всё было правомерно, с моей стороны имел место приём самообороны!.. — сыпаў штампамі падпалкоўнік.

— Приём самообороны… Вася, от тебя после карцера один кадык остался… — паблажліва пазяхаў Віця.

— Ничего, отъемся. Перед этапом надо отъедаться! Юра, ты чего не ешь? А этап?

— Вася, б…, я на зону — не собираюсь!

— Зря ты так… Я же как лучше хочу.

— А-ах-ах-ха!..

— Это просто п…ц! — як заўжды, філасофскі рэзюмаваў Віця.

Васі заўсёды было шмат. У СІЗА Вася паводзіў сябе так жа энергічна, як і на волі: сварыўся з аховай, весяліў сукамернікаў, вёў партызанскую барацьбу супраць начальства праз пісанне скаргаў у вышэйшыя інстанцыі… Калі Вася ішоў да «тармазоў», кантралёры хапаліся за дубінкі — ад яго можна было чакаць

усё што заўгодна. Такім было першае ўражанне. Праз нейкі час я ўжо звыкся з «дзеючым падпалкоўнікам», ягоны вопыт жыцця ў СІЗА быў карысным:

— Человек тут, как правило, «сдувается», мышца сохнет, но это всё восстанавливается за год-два. … Есть риск сорвать сердце или давление на интенсивных упражнениях, особенно внутри камеры, где мало кислорода, — это хуже, потом не восстановишь. Поэтому заниматься тут лучше в тёплую пору года — во дворике. Тут же главное «овощем» не стать…

А вось яшчэ:

***Зубы***: чысціць зраніцы і ўвечары, як на волі. Але апроч гэтага найлепшы сродак — цыбуля і часнык (як і ад прастуды). З цыбуляй ды часныком ніколі не памылішся!

***Гігіена***: у дадатак да туалетнай паперы выкарыстоўваць вільготныя сурвэткі. Хворым на гемарой рэкамендуецца адмысловая бутэлечка (пасля толькі я заўважыў, што такі звычай быў амаль пагалоўна распаўсюджаны сярод мусульманаў). Каб пазбегнуць гемарою (адной з карпаратыўных турэмных хваробаў), трэба менш сядзець, болей ляжаць ці хадзіць.

***Зрок***: у СІЗА бадай што няма мажлівасці глядзець удалячынь, а значыць, слабее мышца вока. Выходзячы ў двор, можна рабіць практыкаванні і для вачэй: па чарзе глядзець на блізкія і далёкія прадметы, лічыць цаглінкі на порціку аддаленага будынка.

***Гарбата***: моцная (чыфір) шкодзіць зубам, роўна як і празмерна гарачая. Але сам па сабе «чыф» дапамагае ад той жа прастуды…

І гэтак далей.

Месцамі цяжка было зразумець чаго ў гэтым чалавеку больш: ментаўскога ці прыблатнёнага (усё ж такі ягоная родная Орша мае *«тры зоны і ніводнага ўніверсітэта»,* як любіў паўтараць Вася). У СІЗА

Вася правёў ці год, ці два — ягоная справа зацягнулася. Гэта быў чалавек хаосу, ён супакойваўся, калі «маскі» праганялі нас па паверхах з дубінкамі ды электрашокерамі. Штыль, бяздзеянне яго прыгняталі. Вася… яшчэ адзін незабыўны партрэт з «амерыканкі». Дай Бог яму здароўя!

***

22 лютага, напярэдадні Дня Савецкай Арміі, для ўсіх вязняў зладзілі бясплатнае падарожжа ў часе. Такі сабе атракцыён. Шпацыр. Прагулачныя дворыкі. Снег. Шэсць чалавек ходзяць па коле. З дынамікаў замест шансону бадзёра гучыць: «Если завтра война...», «Ветры враждебные веют над нами...» і г. д. Кантралёру на мосціку падабаецца, ён нібы нават прытанцоўвае.

Сярод нас быў хлопец, дырэктар фабрыкі, якая займалася вырабам абгортак для цукерак. Ён заехаў у СІЗА толькі ўчора ў другой палове дня: у пінжаку, з валасамі да плеч, малады, разгублены — забралі адразу з офіса. Калі зайгралі ваенныя песні, смяяліся ўсе, апроч яго…

Што гэта было? Спецыфічны гумар Арлова? Спроба «псіхалагічнага ціску»: маўляў, нічога не змянілася з 1930-х і не зменіцца ніколі? Я паставіў бы на гумар. Магчыма нават — прывітанне «ветэрану НКУС», які разам з сукамернікамі атрымаў запаветнае сала са склада.

***

Пасля адбою, пры святле начной лямпачкі ў нас праходзілі літаратурныя вечары. У камеру неяк трапіў

томік Яўгеніі Гінзбург «Крутой маршрут». Класічны твор аб прыгодах у сталінскіх лагерах і ссылках. Калі Вася надрыўным голасам чытаў аб хлуслівых апярах, «сябрах», якія пад ціскам закладалі адзін аднаго, марскім этапе, блатных, ссылцы, уся камера замаўкала і толькі час ад часу ў кагосьці вырывалася:

— Да! Ну то же самое!..

— Суки…

***

Аднаго вечара нечакана выявілася, што фактычна ўсе сукамернікі з ліку мянтоў у свой час удзельнічалі ў разгонах апазіцыйных мітынгаў у сталіцы — размова пра бурлівыя 1990-я. Мы бачылі безліч фота, відэа, сведчанняў палітыкаў і пратэстоўцаў той хвалі, але як усё гэта выглядала з супрацьлеглага боку? Аказалася, досыць камічна і трошку страшна.

— Всё закончилось, и я пошёл в сторону…

— Пошёл или побежал?

— Ну… я очень быстро пошёл, вооружённый щитом и каской. А у меня ещё ботинки на один размер меньше были, б…!

А вось яшчэ:

— …Был у нас один сотрудник, у которого жена забирала все деньги. Ну и он хотел всё время выслужиться, получить премию. Вот и в тот раз прорвался в первые ряды. Но ни один камень до него так и не долетел. В результате он написал рапорт, где значилось, что камень перебил ему шнурок на ботинке… Премию он получил и пропил тем же вечером.

Адзін з прысутных нават закатаў штаніну і паказаў добра заўважны шнар. Скуль? З яго словаў — памят-

ка з вясны 1996-га. Маўляў, прыляцела рэзаная рэльса — «От ваших» — суразмоўца ўсміхнуўся. Аб тых падзеях у яго засталіся два напаміны: шнар і крыж МУС «за заслугі» з выявай зубра: на карпаратыўным слэнгу — «гавядзіна».

Цікава, што варожасці між намі ніякай не было. Усё ў мінулым.

***

Аднаго вечара за размовай усплыло цікавае прозвішча аднаго з пастаяльцаў нашага «гатэля» на 18 месцаў. Парыж. Не, гэта не мянушка, а прозвішча! Гэты чалавек на волі быў некім накшталт заўгаса ў юдэйскай грамадзе. Для яго, у парадку выключэння, у «амерыканку» перадавалі кнігі на іўрыце, прадметы культу, кашэрную ежу. На Песах сукамернікі слухалі гісторыі з мінулага народа Ізраілевага.

Неяк Парыж напісаў у лісце да жонкі нешта кшталту: *«...Вокруг меня интеллигентные люди».* Ліст вярнуўся назад з рэзалюцыяй: *«Передавать информацию о других заключённых под стражу запрещено».*

— Надо было написать: *«Вокруг меня скоты, наркоманы, зоофилы, суки... Целую, муж»* — точно прошло бы! — у сваім стылі пракаментаваў Юра.

***

Іншым халодным ранкам нас па традыцыі вывелі на шпацыр у дворыкі. «Тармазы», «прадол», лесвіца, кароткая дыстанцыя на першым паверсе, нарэшце дворык... Што не так? «Маскі»... Іх не было! Спа-

чатку хлопцы з групы ўзмацнення крыху суцішылі пыл — гэта адчувалася — ды наўпрост швэндаліся па СІЗА, шукаючы сабе занятак. А тут… зніклі наогул — расталі, як снег на сонцы.

Як выявілася, ва ўсім «вінаваты» высокі акулярык з разумнымі вачыма: Алесь Міхалевіч, кандыдат на прэзідэнта-2010, які таксама сядзеў у «амерыканцы», але, падпісаўшы патрэбныя паперы, выйшаў на волю і… збег. На Захадзе ён навёў шуміху наконт «катаванняў у СІЗА КДБ». І яно спрацавала: «гоблінаў» урэшце вывелі.

Там, у прамерзлым дворыку, дзе сцены былі атынкаваныя шэрай бетоннай шубай, з металічнай сеткай, якая не давала ўбачыць чыстага неба, мы пачалі абдымацца: «Масак няма!» Пазней з «Белгазеты» даведаліся пра абставіны ўцёкаў Міхалевіча, а хітом наступных тыдняў стала «Вне зоны доступа, мы не опознаны…», якую нам без задняй думкі круцілі кантралёры з мосціка.

***

Вынікам інфармацыі аб «катаваннях», агучанай Міхалевічам, мелася быць пракурорская праверка ў СІЗА. Арлоў падрыхтаваўся да яе па-свойму: Сашу-інвестара перавялі ў іншую «хату», а няўрымслівага Васю на дзве гадзіны спусцілі паверхам ніжэй у вусцішны пакой, з абшытымі мяккай тканінай сценамі, які вельмі нагадваў памяшканне дуркі. У камеры мы засталіся ўтрох: Віця, Юра ды я. Падпалкоўнікі былі гатовыя да бою.

Ляснуў замок, «тармазы» адчыніліся, у камеру неяк грэбліва і няўпэўнена зазірнуў высокі чалавек

у акулярах. Парога ён так і не пераступіў. Гэта быў намеснік галоўнага пракурора Андрэй Швед, у суправаджэнні двух чалавек у цывільным і самога Арлова. Кампанія, мабыць, спадзявалася, што пытанняў не будзе, але… пытанні былі. Больш за тое — пытанняў было шмат!

Спачатку Віця разгарнуў трафарэт «Советской Белоруссии», старанна прыхаваны папярэдне пад матрацам. Трафарэт, бо з газеты акуратнымі цэнзарскімі нажніцамі было выразана ўсё, што хоць неяк тычылася палітыкі: нават прамова прэзідэнта. Такую выцінанку нават у вядро са смеццем нельга было пасцяліць — дзіравая. Сказаў Віця і пра адсутнасць тэлеканалаў.

Юра па-вайсковаму адрапартаваў пра факты ўжывання гвалту «маскамі» ды перадаў дэлегацыі фактуру, распісаную на паперы. Швед грэбліва ўзяў дакумент ды кіўнуў, лупаючы вачыма праз тоўстыя лінзы акуляраў.

— А у вас что? — Арлоў з нервовай усмешкай звярнуўся да мяне.

— Няма чаго дадаць.

«Тармазы» зарыпелі, дэлегацыя пайшла далей. Адразу пасля абходу Васю выцягнулі наверх, але… забралі тэлевізар. Наогул забралі. Мы засталіся і без каналаў, і без унутранага тэлебачання з «фільмамі пра вайну». Гэта быў пачатак гневу начальніка.

Каб падвесці вынікі, Арлоў вырашыў зайсці асабіста. Ён выказаў нейкую з’едлівую сентэнцыю ў сваім стылі, памяць захавала адно апошнюю фразу:

— …Не нравится — пишите жалобы! Написали двадцать четыре — пишите двадцать пятую. Как сказано в Библии: «Стучите — и вам откроют», — і ўжо развярнуўшыся спінай да нас, дадаў: — А может, и не откроют.

Са сцяны над «абшчаком» (агульным столікам у

камеры) усміхаўся і быццам падміргваў карыкатурны партрэт Арлова, які я накідаў пару дзён таму: з арліным носам і зачэсам. Партрэт так і вісеў падчас праверкі — яго злёгку пагойдваў вецер ад скразняку, які ўтварыўся пасля адкрыцця «тармазоў».

Вечарам, пасля «бою», у камеры пачаліся рэфлексіі:

— …Ну а что делать, если тебя кинули в камеру, где уже сидит шесть человек, и при этом даже нормально пос…ть не дают?

— Что делать, что делать… Нужно нас…ть им в «кормушку»!..

***

Нарэшце з’явіліся газеты! Нармальныя газеты. Без «цэнзарскіх нажніцаў». «Белгазету» ў нас перадавалі з рук у рукі, зачытвалі да дзірак. Кожны факт ставаў нагодай для размовы. Мы цешыліся з любой паразы «ўмоўнага ворага»: з уцёкаў Міхалевіча, выхаду авіяносца «Шарль Дэ Голь» у мора і немінучай паразы Кадафі ў Лівіі... Нібы палонныя, што цішком дазнаюцца сапраўдную інфармацыю з фронту. Фронту, які так далёка, што людзі на праспекце Незалежнасці, за 150 метраў ад нас, не ведаюць пра ягонае існаванне.

У адным з нумароў ішлося пра ўцекачоў розных часоў: Курбскі, Пазьняк, Віннікава… Апошняя — былая старшыня Праўлення Нацыянальнага банка, якая таксама зведала асаблівасці «амерыканкі». Сярод іншага яна згадвала, што яе камера па канфігурацыі нагадвала труну.

— Ага, гроб… Тогда у нас — братская могила, — коратка пракаментаваў нехта.

***

Праз дзень-два Вася атрымаў чарговы карцар: апісаў у лісце да жонкі абставіны пракурорскай праверкі, а ўстанову, якая нас гасцінна прымала, назваў цыркам. Ліст вярнулі назад, запатрабаваўшы пісаць тлумачэнні на імя начальніка. Гэты крок — зварот ліста ў рукі бывалага опера — аказаўся памылкай. Вася тэрмінова знішчыў дакумент: спаліў, раскідаўшы ашмёткі напалову ў сметніцу ды парашу.

— Где письмо?

— Какое письмо?

— ...Которое мы вам отдали, — кантралёр Жаба, які гутарыў з Васем праз «кармушку», пачаў хвалявацца.

— Не было никакого письма, — Вася зрабіў вялікія вочы.

Жаба крыху памаўчаў ды з сілай гэпнуў «кармушкай».

У хуткім часе Васю забралі спачатку на размову з Арловым, а пасля, бліжэй да абеду, «дзеючы падпалкоўнік» ужо рыхтаваўся да пераезду ў карцар… У камеры нас засталося трое.

***

Пасля адбою, бліжэй да дванаццаці ночы, «тармазы» ізноў зарыпелі… Дрэннае прадчуванне апраўдалася. Да нас закінулі варожы дэсант. Гэта быў неймаверна худы, ссохлы, як чарнасліў, абколаты масцямі мужык, галава якога была выстрыжаная напалову — як у катаржанаў XIX стагоддзя (па ягонай версіі, *«смола залила, дочка так выстригла, а там и посадили...»*).

Пятая ходка, хранічныя захворванні, на волі, з яго славаў, працаваў таксістам. Нагадваў ён, канешне, больш палоннага пасля нямецкага «шталага», чым таксіста…

Вішанькай на торце было татуяванне на вейках: *«НЕ БУДИ».* Над адным вокам «не», над другім — «буди». «Таксіст» пасля не без гонару прызнаўся, што з такімі тату ў Беларусі ўсяго 20 з нечым чалавек — усе на асобным уліку. Рарытэтны экзэмпляр.

Зраніцы, падчас шпацыру, «палонны таксіст» пачаў цікавіцца грашыма і офісамі «Маладога фронту». Пасля высветлілася, што служыў ён у Латвіі і вучыўся ў адной з Юрам вайсковай вучэльні — канешне ж, заблытаўся ў датах...

— А лет тебе сколько?

— Примерно 35–36, — упэўнена падтрымліваў «легенду» начны госць.

Карацей, *«ничто не выдавало Штирлица, кроме строп парашюта за спиной»*, — так гучаў вердыкт Юры. Яго не білі, не заганялі пад шконку, наадварот: падзяліліся ежай, шмоткамі… Забаранілі, праўда, паліць у камеры — толькі на двары.

Падаецца, што і сам «штырліц» разумеў, што ўсім усё ясна, але працягваў паўжартам граць сваю ролю. Пасля першага допыту «с пристрастием», які правялі афіцэры пасля сняданку, пайшлі пытанні для душы, па прыколе, з цікавасці. Высветлілася, што «таксіст» меў жонку, чацвёра дзяцей, зарабляў каля шасці мільёнаў на месяц, глядзеў у машыне кліпы і нічым больш па жыцці не цікавіўся. Палітыкі, як публічнай сферы, для яго не існавала ў прынцыпе.

— По-моему, у 90 процентов белорусов на глазах написано: *«НЕ БУДИ»,* — з нейкім незвычайным сумам падвёў вынікі Юра. Мы з Віцем маўчалі.

Уначы «таксіст» старанна рабіў выгляд, што спіць, падслухоўваючы нашыя размовы. Што ж, спі

спакойна, беларускі народзе, ніхто цябе не абудзіць, прынамсі сённяшняй ноччу.

Праз дзень, 28 сакавіка, тым часам, як «таксіста» павялі на допыт для атрымання далейшых інструкцыяў, мяне «перакінулі». Я адседзеў у «амерыканцы» роўна два месяцы.

***

Найчасцей пераезды адбываюцца ў раёне абеду: перад ежай папярэджваюць, пасля забіраюць. Пераезд — гэта непрыемна: на адным месцы ты абжыўся, больш-менш прызвычаіўся да людзей, наладзіў быт, а зараз табе трэба здымацца ды рушыць у невядомае. У якую «хату» кінуць? Колькі там будзе месцаў? Якія людзі трапяцца гэтым разам? Усё ў тумане.

Чалавека часта «келяшуюць» паміж «хатамі» — дрэнная прыкмета: альбо прасуюць, альбо сексот. Апошнія, тэарэтычна, могуць увесь тэрмін адбыць у СІЗА за кіпучай працай, вандруючы па «хатах». Бываюць і экзатычныя выпадкі: такі сабе «профі», бывалы зэк, напрыклад, жыве на волі, а калі-нікалі ходзіць на працу — сядае на пэўны час, каб даведацца патрэбную для апяроў інфармацыю.

А яшчэ «келяшоўка» у СІЗА — гэта праменьчык надзеі: а раптам на волю?! Неаднойчы думалася аб гэтым, стоячы на расцяжцы ў «аружэйцы» (тым самым пакоі, які нагадваў дурку) разам з рэчамі падчас чарговага прагону «масак»... З такімі ілюзіямі варта развітацца — раз і назаўжды. Каб пасля не было балюча. Спадзявайся на лепшае, рыхтуйся да горшага.

Цікавы фінт Камітэт правярнуў з адным палітыкам, які праходзіў па «справе аб беспарадках». Яму

сказалі, што выпускаюць. Той сабраў рэчы, з усімі развітаўся, яму нават вярнулі тэлефон, каб пазваніў жонцы: «Сустракай! Хутка буду…» Здаецца, усё — выводзяць, дзверы СІЗА рыпнулі за спінай. Кантралёр, Жаба, давёў яго да нейкага шлагбаума, а пасля… — «Назад!» Разварот на 180 градусаў і зноўку ў камеру. Гэты чалавек падпісаў усе патрэбныя паперы ў Камітэце. Не ведаю толькі, «да» ці «пасля» апісанай сітуацыі. Калі пасля, то камітэцкія спрацавалі прыўкрасна! Граматны псіхалагічны разлік…

Дык вось, паколькі 28 сакавіка спаўнялася акурат два месяцы з моманту майго затрымання, а магія лічбаў грае не апошнюю ролю ў развагах па той бок сцяны, мяне захліснулі надзеі і планы. Так, значыцца, гэта Мінск — усё блізка. Пайду спачатку на ўправу БНФ на Варвашэні. Пешкі. Па праспекце. З горачкі ўніз, праз Свіслач па мосце, а там ужо і блізка зусім, ад стэлы Перамогі толькі падняцца. Ну, так... выгляд неважнецкі, ды яшчэ і з «кешарам» у руках. Якая розніца? Хай людзі глядзяць, абарочваюцца. А паветра… Там жа вясновае паветра! І неба! Дыхаць-дыхаць-дыхаць. Глядзець на неба не пераглядзець…

Пра ўсё гэта думалася, стоячы на расцяжцы, з рукамі на сцяне і шырока расстаўленымі нагамі. Мой «кешар» сумаваў побач, за спінай.

— На выход!

Зноўку лесвіца, зноўку «прадол» — значыць, новая «хата»…

А на ўправу БНФ на Варвашэні мне ўжо так і не давядзецца трапіць. Ніколі. Праз паўгода пасля хвалі салідарнасці, калі офіс партыі стаў нервовым вузлом для збору перадачак і ахвяраванняў пацярпелым пасля разгону Плошчы-2010, памяшканне будзе забранае. Партыя ў выніку апынецца ў падвале, які прапануе адзін са сталічных ЖЭСаў.

***

…У вялікай прасторнай і змрочнай «хаце» за чырвонай рысай па струнцы стаялі двое: мужык гадоў 35 і… Анатоль Лябедзька ў спартовых штанах, запраўленых у цёплыя вязаныя шкарпэткі. Вобраз Анатоля Уладзіміравіча неяк аўтаматычна паўстаў перада мной яшчэ ў Гродзенскім УКДБ, калі я толькі даведаўся, што мяне вязуць у «амерыканку». Ён увасабляў сабой калектыўны партрэт беларускай апазіцыі 1990-х — пачатку 2000-х, калі мітынгі яшчэ былі шматтысячнымі, а адозвы і рэзалюцыі каштавалі больш за тую паперу, на якой пісаліся. Карацей, нешта адпачатку падказвала, што мы сустрэнемся. Такое ж адчуванне было і адносна Паўла Севярынца, але з ім выйшла па-іншаму: нас перакідвалі па тых самых «хатах», таму стваралася ўражанне, што я іду за ім след у след. У выніку, мы слухалі расповеды адзін пра аднаго ад тых самых людзей.

З нумароў «Народнай волі», якія я трымаў у руках з маленства, у мяне склаўся ўстойлівы вобраз Лябедзькі-пакутніка, якога пастаянна збіваюць, штрафуюць, затрымліваюць, што ў маіх вачах не надавала палітыку аўтарытэту. А ўсё аказалася наадварот: Лябедзька быў у цудоўнай форме, адціскаўся як на вуліцы, так і ў камеры, нешта старанна запісваў у нататніку на шконцы, чытаў другі том «Братоў Карамазавых», да якога я так і не дабраўся.

Гэта была хіба самая вялікая камера ў турме, з двума вокнамі, чатырма спальнымі месцамі (на момант майго заезду занятымі былі толькі два з іх), але пры гэтым цёмная і, відаць, самая сырая ды халодная. Вокны выходзілі на мур, таму сонца сюды не заглядвала ў прынцыпе. Паміж вокнамі вісела барсетка з каўбасой: лядоўні таксама не было.

Затое была цудоўная бібліятэка: Булгакаў, Бальзак, Маякоўскі, Шукшын, Зюскінд, Картасар… — спадчына Аляксандра Фядуты. Не ведаю, якім цудам Аляксандр Іосіфавіч сабраў тут усё гэта. Мажліва, Фядута наўпрост прыцягваў кнігі — як магніт. Прынамсі, у «амерыканцы» нідзе лепшай камернай бібліятэкі я не бачыў.

Паводле ўнутраных правілаў кнігі ў камерах замяняюцца раз на два тыдні: ты здаеш свой стос джэкаў лонданаў і платонавых, а ўзамен атрымліваеш чаргінцоў ды хайнлайнаў… Канешне, не заўсёды ўсё было так трагічна, але ў большасці выпадкаў за нармальную літаратуру трэба было дзякаваць самім зэкам, якія спачатку замаўлялі кнігі праз атаварку, а пасля пакідалі бібліятэцы, напрыклад пры пераездзе. Прачытаная кніжка, што з яе ўзяць? Не цягаць жа з сабой па этапах.

Самым характэрным выданнем, якое рэальна цягнула на музейны экспанат, з тых, што трымаў у руках, было «Географическое описание Западной Сибири» прыкладна 1950 года са штампам «МГБ БССР». Траплялісія і навінкі, напрыклад «Общага на крови» Аляксея Іванова, назву якой таксіст-«НЕ БУДИ» з 13-й, узяўшы ў рукі, прачытаў як: *«Общак на крови».*

Хемінгуэй у сваім «Свяце, якое заўжды з табой» апісваў, як штодня кідаў апельсінавыя лупіны ў печ парыжскай каморкі, дзе жыў ды пісаў. Тут жа Анатоль Уладзіміравіч штодня кідаў лупіны цытрусавых у «парашу», каб троху перабіць натуральныя пахі. Зрэшты, метад працаваў, таму і перавандраваў са мной і ў наступную камеру.

Два пальцы паказвае мне сукамернік, урач Ігар, за абедам — гэта колькасць сушак да гарбаты на кожнага. Упершыню я ўбачыў тут нармаваныя порцыі, а гэта значыць, што перадачкі хлопцам не заходзілі

даволі даўно. А яшчэ Ігар вучыў на памяць «Евгения Онегина», каб пасля, на волі, чытаць маленькай дачцэ, і называў Лябедзьку альбо «Анатоль Уладзіміравіч», альбо «правадыр».

Перад ад'ездам «пан доктар» даў некалькі прафесійных парадаў: не варта насядаць на селядзец, бо соль дасць ускладненне на ныркі. Вады варта выпіваць не меней за паўтара літры на дзень. Фізічную актыўнасць і сонечнае святло трэба карыстаць па максімуму дзеля здароўя і як антыдэпрэсант.

— …А я ім кажу: *«Вось бачыце гэтую руку?* — распавядае ў фарбах Анатоль Уладзіміравіч пра візіт у цэнтральны будынак КДБ. — *Дык вось, хутчэй я яе адгрызу, чым буду перад вамі ў чымсьці каяцца… Я тут не бачу Ісуса Хрыста, каб перад ім каяцца…»* З тае пары мяне і не выклікаюць: наўпрост трымаюць тут як закладніка.

Наступнай раніцай нас, як заўжды, пагналі ў дворык. Лябедзька адціскаўся ад бетону, падклаўшы пад далоні прастакутнічкі, абачліва вырваныя з нейкай газеты ці часопіса. Ігар з заплюшчанымі вачыма паглынаў сонечныя прамені, стоячы з прымружанымі вачыма ля сцяны, нібы кот.

— Які ваш прагноз? — вырашыў я спытацца ў Лябедзькі.

— …Далей будзе прыкладна так: тыя, хто праходзіць па 293-м, частка 2-я (*удзел у масавых беспарадках*), атрымаюць па 3–4 гады, а палітыкі, якім артыкул перакваліфікавалі з 293-га, частка 1-я (*арганізацыя масавых беспарадкаў*) на 342-і (*арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак*), хутчэй за ўсё, пойдуць дадому, — разважаў Лябедзька, цяжка дыхаючы пасля чарговага падыходу.

Так яно ўрэшце і сталася. Справа ў тым, што 342-і артыкул прадугледжваў у якасці ніжняй планкі

нават штраф, а наш, 293-і, пачынаўся ў любым разе з трох гадоў.

Пасля абеду «хату» нечакана «раскідалі». Спачатку вывелі Лябедзьку з Ігарам, пасля — мяне. Хлопцы паспелі пакінуць пару радкоў на форзацы томіка Янкі Купалы, на якім праз пару месяцаў не засталося ўжо вольнага месца ад аўтографаў. У мяне ўтваралася свая калекцыя.

Раскіданая «хата» пакідае па сабе тужлівае ўражанне. Усё, што не забіраюць вязні, мае быць выкінута: кантэйнеры, слоічкі, губкі, гачочкі ды іншая драбяза. Новым пастаяльцам прыйдзецца наладжваць быт з нуля. Недзе на гадзіну ў камеры застаўся толькі я адзін — досыць рэдкая з'ява для СІЗА, дзе ты ў прынцыпе амаль ніколі не бываеш сам-насам з сабой. Рэчы былі спакаванымі, я адлічваў крокі ад «тармазоў» да акна. Ізноў ланцужок думак… Што далей? Куды? А мо вызваляць — зараз?..

Са сцяны на мяне глядзеў святы Мікола з кардоннай іконкі, якія дасылаюць вязням іхныя пабожныя маці, а недзе ў «кешары» ляжаў томік Купалы са свежым аўтографам размашыстымі літарамі: *«Я веру ў нас! Я веру ў Беларусь! Я веру ў нашу будучыню!»*

У 5-й «хаце» я правёў усяго суткі перад тым, як яе «раскідалі».

***

29 сакавіка па абедзе я зайшоў у новую камеру, ізноўку мяне перавялі супраць гадзіннікавай стрэлкі, нібы перакручваючы час на цыферблаце ў зваротным кірунку. Кола замкнулася: ад 17-й я дайшоў да 1-й. Пасля 5-й гэты прытулак падаўся ўсходнім палацам:

светла, паўсюдна рэчы, каляровыя пледы, разьбяныя драўляныя нарды… Кантынгент — два былыя мянты і адзін пракурорскі работнік — як на падбор.

Па ходу… я звыкся. Адчуванне як у горным паходзе: сёння тут, заўтра там. Усё неабходнае нясеш з сабой. Нічога, абжывёмся!

Пракурор з Ліды, як высветлілася, у 2006 годзе апытваў лідскіх сяброў «Маладога фронту», калі разгортвалася справа па арт. 193, частка 1-я (*дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі*). Тады, у 2006-м, шэраг нашых хлопцаў і дзяўчат атрымалі вялізныя штрафы і папярэджанні, а старшыня арганізацыі Зміцер Дашкевіч — свой першы турэмны тэрмін. Сярод апытаных лідскім пракурорам была і мая сяброўка Вераніка — «рудая бестыя», разам з якой мяне не аднойчы затрымлівалі ў Гродне. Свет цесны.

— Работа такая, я старался не навредить, наоборот… — паўтараў пракурор.

Карацей, «рабіў сваю працу» — нічога новага пад сонцам. Зрэшты, Юра аказаўся сумленным і працавітым дзядзькам, каталіком, шэф-поварам нашай камеры, заходнікам да мозгу касцей. Знешне ён нечым нагадваў прускага настаўніка пачатку XX стагоддзя: высокі, светлы, у акулярах, з выразнай дыкцыяй ды інтэлігенцкай нязграбнасцю. «Бу-бу-бух…» — у Юры нешта ўпала. Глянеш на яго — усялякая злосць згасае.

Забягу трохі наперад. Ужо апынуўшыся на волі, я знайшоў ягоную жонку, пацікавіўся, што ды як, дзе шукаць Юру, куды пісаць…

— Как куда писать? Ну, Минск, Главпочтамт, а/я 8…

— Дык ён там сядзіць да гэтае пары? — я здзівіўся, пачуўшы адрас СІЗА КДБ.

— Да… Во вторник как раз ждём результатов экспертизы.

Памятаю, як Юра ўвесну 2011-га чакаў гэтых вынікаў і абураўся, што будуць яны немаведама калі… Вельмі дакладны прагноз. Час там вымяраецца па-іншаму. Што такое паўгода на волі? Бездань. Справы, клопаты, здарэнні, за гэты час ты можаш змяніць працу, жанчыну, месца пражывання. А там?.. А там ты чакаеш нейкую кончаную экспертызу. Паўгода.

На Раство з волі я даслаў яму калядную паштоўку. У адказ — маўчанне. Ці ад мяне не прапусцілі яму, ці ад яго мне — я не ведаю. Так было з усімі. Лісты — таксама зручны рычаг для маніпуляцыяў. Найпрасцейшы варыянт — не даваць выйсці на сувязь тым, хто пазнаёміўся «за сцяной».

***

Другі сукамернік у 5-й — опер, зразумела, былы, праходзіў па справе разам з Віцем-падпалкоўнікам. Ён быў грузінам па нацыянальнасці, замаўляў «Баржомі» праз атаварку, займаўся спортам — змайстраваў сабе штангу з пустых пластыкавых бутэлек, куды залівалася вада. Я таксама далучыўся да ягонай праграмы па адцісканнях усярэдзіне камеры. А па абедзе мы гулялі ў нарды — у мяне не было шанцаў у пары з ім, але было цікава.

Любімая фраза грузіна: «Преступник должен сидеть в тюрьме». Опер… Мы часам размаўлялі пра палітыку. З усіх палітычных, якіх ён сустракаў тут, яму спадабаўся адно Міхалевіч. Чаму? Бо той, адзіны, пытаўся ў вязняў пра іхнае меркаванне, збіраў ідэі, думкі, занатоўваў. Усе астатнія былі здольныя толькі «вяшчаць» ды прапаведаваць сваю ісціну… Яны і так усё ведалі. Навошта ім меркаванне кагосьці збоку?

Трэцім, і апошнім, быў Сяргей. Серы — родны

брат Дзяніса з 17-й, праходзіў з ім па адной справе. «Амерыканка» — адна вялікая сям'я, тут усё павязана і пераблытана, як у раманах Маркеса. Серы пісаў вершы для жонкі (мне здавалася, што неблагія), цікавіўся рыбалкай і па пунктах планаваў, чым будзе займацца па вызваленні. Атрымалася троху больш за 60 пунктаў: лазня, трэнажорны зал, нейкія канцэрты з прастаўленымі датамі, паездкі на возера… Ён зачытваў свой даўжэзны спіс з верхняй нары, а мы слухалі і крыху злаваліся — кожны сам сабе. Ён быў упэўнены, што выйдзе, мы — не. Злаваліся моўчкі, а ўголас адно падколвалі:

— Какой зал?! Иди сейчас качайся, на живот свой посмотри! — устаўляў свае пяць капеек грузін.

— Нет-нет, только после освобождения, — Сяржук расплываўся ва ўсмешцы.

Серы адматаў тут ужо год, увесь гэты час правёў у адной камеры — я бачыў такое ўпершыню. Ягоная нязломная вера ў вызваленне ў судовай залі часам выклікала ў нас скепсіс, і толькі на Валадарцы я даведаўся: іх сапраўды адпусціў суддзя, залічыўшы адседжанае і даўшы тэрміны «хіміі». Серы быў яшчэ адным сапраўдным заходнікам, з Карэлічаў, — спакойным, шчырым і гаспадарлівым флегматыкам.

Асаблівасцю камеры была яе маўклівая лаяльнасць. Не ведаю, што тут адбывалася падчас «маскараду», але пры мне ўсё было «цішэй вады».

— Это тебе не 13-я! Там свои финты выкидывай! — казаў грузін, калі з'яўлялася хоць найдрабнейшая небяспека канфлікту з адміністрацыяй.

А яшчэ ў «першай» быў самы горшы напор вады ва ўсім СІЗА ды ракавіна пастаянна забівалася. Не думаю, што нехта мяняў тут трубы з часоў Сталіна. Маё месца было верхнім злева ад увахода. Уначы там можна было чытаць і пісаць, гэтага хапала.

***

Трыццатага сакавіка мы яскрава пачулі ягоны голас. Гэта быў ён — ні з кім не пераблытаеш. Голас гучаў з цэнтральнага будынка Камітэта, а вокны нашай камеры акурат выходзілі ва ўнутраны двор комплекса. Пачуць знаёмы кожнаму беларусу голас «Баці» тут — дзіўна і… зусім не дзіўна адначасна. Злавіў сябе на думцы, што даўно яго не чуў. Сапраўды, на волі ён быў паўсюдна, а тут… тут яго не было. Тут быў Арлоў. Следчыя. Кантралёры. «Маскі». А яго не было. І вось…

Харызматычны, на ўзводзе, поўны энергіі. Не зблытаеш ні з чым ніколі. Пра што ён казаў? Мы не чулі. Аніводнага абароту так і не змаглі расшыфраваць. Што гэта было? Тая ж схема, як і з савецкімі маршамі 22 лютага? Ці нехта ў цэнтральным будынку наўпрост адчыніў акно, а голас паплыў, адбіваючыся рэхам ад векавечных сценаў, і завітаў да нас? Не ведаю. Але і забыць таго нельга. Ніколі.

***

Моўных праблемаў ні з сукамернікамі, ні з кантралёрамі ў мяне не ўзнікала. Віця з 13-й не разумеў па-беларуску, я звяртаўся да яго так, як ён звыкся: па-руску. Інвестар Саша з Расіі вучыў беларускую і казаў «Дзякуй». Нават Арлоў цярпеў мову, паказваючы сваю інтэлігентнасць, адно падколваючы, што я карыстаюся трасянкай. Але калі я запытваўся, дзе менавіта зрабіў памылку, ён змаўкаў. Вось і ўся моўная палітыка. Мне — па-руску, я ў адказ — па-беларуску. Якая праблема?

Аднаго разу мне давялося рапартаваць падчас ранішняга абходу. Начальнік змены — лысы прапар Міша. Усё як заўжды: колькасць чалавек у камеры, гадзіны шпацыру, лісты… а тут раптам:

— Мы с вами на каком языке разговариваем? На польском?

— …

— Что такое «шпацыр»?

— «Прагулка», ёсць такое слова ў беларускай мове…

— Нет такого слова! Я лично проверял! Давайте уважать *нашу родную белорусскую речь!* — Міша разышоўся не на жарт. Яшчэ раз агледзеў усіх нас, сціснуў сківіцы і выйшаў. З калідора мы паспелі пачуць нервовае: *«Шпацыр, б...!!!»*

«Тармазы» зачыніліся, а мы пакаціліся з рогату. Міша быў работнікам са стажам не менш за 15 гадоў, падчас «маскараду» адсутнічаў: нібыта працаваў на КПП. У свае гады, пры наяўнасці вышэйшай педагагічнай адукацыі, пра што сведчыў значак-ромбік на кіцелі, ён заставаўся прапаршчыкам… Нашыя спачуванні.

*******

Камітэцкі квартал, у якім была схаваная «амерыканка», — гэта самы цэнтр Мінска, праспект Незалежнасці. Мы чулі рух транспарту, званы храмаў, а ўначы нават паравозныя гудкі з чыгуначнага. 25 сакавіка я старанна прыслухоўваўся да вуліцы, стараючыся выхапіць хоць нейкую вібрацыю, якая дадала б надзеі і нагадала б, што ТАМ нешта адбываецца, а сядзім мы не дарэмна. На пэўны момант нават падалося, што па

праспекце ідзе натоўп, скандуючы лозунгі. Пазней з «Белгазеты» мы даведаліся, што мітынг абмежаваўся ўскладаннем кветак на плошчы Якуба Коласа ды кропкавымі затрыманнямі. «Лозунгі з праспекта» былі ўсяго толькі ілюзіяй. Міраж.

Дык вось, 11 красавіка сірэны неяк падазрона працягла і настойліва вылі з праспекта. Ніхто спачатку не надаў гэтаму значэння — ці мала што магло здарыцца ў горадзе з двума мільёнамі жыхароў? Аднак бліжэй да вечара з «прадола» па камерах прагучала каманда:

— Всем включить телевизоры!

Замест «страшылак» пра шкоду палення і чачэнскую кампанію на экране з'явіліся… калісьці звыклыя кадры дзяржаўных навінаў! Гэта пры тым, што нам казалі, маўляў, вяшчанне немажлівае з-за пашкоджанай антэны… Гэта быў шок: У МІНСКУ АДБЫЎСЯ ТЭРАКТ! Забітыя, параненыя, радкі з прозвішчамі, ачапленне спецназа, прэзідэнт з сынам у сутарэннях метро, спакойны голас дыктара:

— …По одной из версий, к теракту могут быть причастны радикальные молодёжные группировки…

Во як! Усе чамусьці паглядзелі на мяне.

— Ну что, планка срока пошла вверх? — грузін і тут знайшоў месца для гумару.

Увечары мы яшчэ доўга чулі працяглы вой, які панаваў над горадам. Усю ноч ляскалі дзверы ў камітэцкім двары, а вокны цэнтральнага ўпраўлення гарэлі да самай раніцы. На наступны дзень па камерах насілі спісы забітых і параненых…

Праз пару дзён іх прывезлі. Сярод ночы. Як мы зразумелі, «тэрарыстаў» раскінулі ў другую і трэцюю камеры-адзіночкі, якія перад гэтым (другая — дакладна) выконвалі функцыі карцара. Атрымліваецца, адзін з іх знаходзіўся акурат праз сценку. З «прадола» не

змаўкалі крыкі, каманды: *«Лечь! Встать!»,* удары дубінкай аб драўляны борцік… Для нас усё гэта было ўжо ў мінулым. Зранку, калі камеру павялі ў прыбіральню, кантралёры падаваліся стомленымі, але ўсё яшчэ напружанымі: ноч прайшла па надзвычайным графіку.

На наступны дзень ці праз дзень каля другой камеры ўжо стаяла торба з рэчамі, мабыць, перадаў нехта з родных. Памятаю, як адзін з кантралёраў — Ліс — настойліва ўзіраўся з мосціка ў пяты дворык. Верагодна, там быў адзін з іх. Што ён бачыў, гэты ахоўнік? Што адчуваў? Нянавісць? Дысананс: маўляў, тэрарысты маюць выглядаць па-іншаму?.. Невядома.

Суседнія дзверы заўжды ляскалі вельмі позна, нават па адбоі: следства ішло ўдарнымі тэмпамі, доўжыліся допыты і вочныя стаўкі. Усё трэба было зрабіць хутка, прэзідэнт і ўся краіна трымаюць руку на пульсе, чакаюць вынікаў. Некалькі дзён у камеры наогул нікога не было: па нашай версіі, вязня кудысьці вывозілі.

Зразумела, што ЯГО, нашага суседа, мы так і не ўбачылі. Мы ж наогул не бачылі вязняў іншых камераў — ніколі. Мінімум інфармацыі — гэта фішка «амерыканкі». Таму «маска» тыкаў пальцам на таго, каму трэба было выходзіць, не называючы прозвішча ўголас. Таму падчас канваявання яны свісцелі — каб папярэдзіць будынак, што некага вядуць. Салавейкі… Не дай Божа, гэтым часам нейкую камеру павядуць у прыбіральню альбо кагосьці спусцяць у медсанчастку… Ніхто нікога не мае бачыць, не мае чуць. Гэта закон.

***

Пракурорскі Юра рэгулярна ездзіў на суды, таму стаўся нязменнай крыніцай інфармацыі. Справа ў тым, што вязняў возяць не па адным, а «пачкамі», а паколькі наша СІЗА — гэта ўсяго 18 камераў, то агульныя знаёмыя і тэмы для размоваў у любым выпадку знаходзіліся. Так я даведаўся, прыкладам, што ягоны цёзка — Юра з 13-й — паспеў пабываць у карцары, пасля таго як назваў Арлова «кадравым трупам»: Юра займаўся па службе кадравымі пытаннямі, таму меў аб гэтым уяўленне. Мы ў сваёй 1-й камеры не ведалі, хто сядзіць у суседняй 2-й — карцары. Аказалася, што нейкі час там перабываў не толькі затрыманы за тэракт хлопец, але і «падпалкоўнік НКУС»…

***

Часам мяне падымалі ў цэнтральны корпус Камітэта. Усё ж такі ішло следства па «масавых беспарадках».

— Ты куда камеру дел?

— Якую камеру?

— Которую вырвал у оператора.

— ...

— Одну камеру с площади унесли, а вторую сломали, где камера?

Прыкольна… Дзве камеры яны ўсё ж такі згубілі на Плошчы. Хоць нешта. Думаю, такое пытанне задавалася ці не ўсім «штурмавікам», а таксама сотні-другой асобаў, якіх пасля 19-га выклікалі ў гарадскія і раённыя аддзелы КДБ.

Цікава, што ледзь не ўсе ноўтбукі, якімі карысталі-

ся пры мне камітэцкія супрацоўнікі, былі абклееныя стыкерамі: «За свабоду», «Гавары праўду» і г. д. Спачатку я думаў, што налепкі — гэта «трафеі», пакуль ужо па вызваленні неяк не ўбачыў ноўтбук «з КДБ» на кватэры аднаго з нашых актывістаў:

— Адкуль гэта?

— З камітэта аддалі. Гэта мой, а гэты — Дашкевіча.

Атрымліваецца, яны ўвесь час карысталіся ноўтбукамі апазіцыянераў. Цікава, колькі яшчэ тэхнікі ды рознага роду майна асела па іхных кабінетах — ды не проста асела, але актыўна выкарыстоўвалася?..

Адзін з кабінетаў, дзе мяне дапытвалі, быў завалены «рэчдокамі»: у куце каля сцяны ляжалі зваленыя гурбай заплечнікі (я пазнаў толькі свой і Дашкевіча), сцягі, кніжкі «Маладафронтаўцы» і «Палітвязні», стосы налепак МФ «Горад — наш!» і інш.

Апяры… Яны розныя. Вельмі. Адзін можа быць тонкім псіхолагам і сапраўдным прафесіяналам сваёй справы (прынамсі, як мне тады падалося). Іншы — стварае карыкатурнае ўражанне, нагадваючы несмяротнага Швейка… Страшна, калі ведаеш, што «Швейк» — гэта цэлы палкоўнік. Званне першага, які мяне прыемна ўразіў, я не ведаў. Цікава, якіх болей? Калі «швейкаў», то за краіну робіцца троху страшна. Калі першых, і гэта талковыя тэхнакраты, для якіх прозвішча прэзідэнта не мае значэння, а «Беларусь» не пусты гук, дык… чаму б не? Кайфова было б, каб яны працавалі і надалей.

***

Пачаліся суды. Мае сукамернікі маглі чакаць прысуду гадамі, а перапынкі паміж паездкамі ў суд

займалі месяцы. З палітычнымі ўсё было значна хутчэй — гэта быў канвеер. Зрабіць і даць справаздачу.

З СІЗА КДБ нас з раніцы вывозілі ўтрох: двух Андрэяў — Саннікава і Пратасеню — ды мяне. Калі Саннікаў спазняўся, шарападобны ўсмешлівы і бяскрыўдны з выгляду кантралёр Карлсан дакладваў канвойным міліцыянтам:

— Его величество одевается!

Мне падалося, што Саннікаў яшчэ тады істотна схуднеў. На суды ён ездзіў у пінжаку: усё ж такі кандыдат на першую пасаду ў краіне… Мы, «штурмавікі», ездзілі ў байках ды кофтах — па-простаму.

— Жалобы на здоровье есть?

— Не...

— На суд следовать можете?

— Так.

За спінай шчоўкаюць наручнікі, нас вядуць у транспарт, запаркаваны ў двары. Да яго трэба прайсці яшчэ пад 100 метраў. Некалькі разоў нас праводзілі… дзяўчаты ў форме! Маладыя і прыгожыя, бландзінкі. Ідзеш сабе з рукамі за спінай, а яна — вядзе пад руку. Моўчкі. Дзе яшчэ такое ўбачыш?

Па шляху мы заязджалі на Валадарку, у СІЗА МУС, дзе нас перапакоўвалі ў большы транспарт, дабіраючы яшчэ «штурмавікоў»: Яроменка, Мірзаянава, Дразда, Васілевіча. У «стаканах» аўтазака мы зазвычай сядзелі ў цемры, паасобку, але аднаго разу я атрымаў месца насупраць акна ў дзвярах…

Неймаверна, я бачыў вясновы Мінск, прысыпаныя вулічным пылам каштаны, рознакаляровыя тумбы з канцэртнымі афішамі, дзяўчатаў у сонечных акулярах ды кароткіх спадніцах… Усё гэта адбывалася там, па той бок — такі блізкі і такі далёкі, як падступны сваёй прыгажосцю і прымарнасцю турэмны сон перад пад’ёмам. Узгадаўся зноўку Юліус Фучык. Адно што

там, у «Рэпартажы…», галоўнага героя па сонечнай Празе супрацоўнікі СД вазілі на аўто адмыслова: паказаць, як кайфова на волі, адначасна даючы зразумець, што шчаслівых дзяўчат і хлопцаў ТАМ лёс такіх вось вязняў-няўдахаў не цікавіць. Тады навошта? За што?..

У будынку суда нас размяркоўвалі па «стаканах» — каменных мяхах паўтара на паўтара метра. Перад тым як запусціць у «стакан», міліцыянт даглядае цябе ды твой няхітры скарб: зазвычай торбачку з парай цукерак, шакаладкай, газетай, асадкай ды сшыткам для запісаў падчас паседжання. Палітычным пашчасціла: нашыя суды пачыналіся ў дзесяць раніцы, не трэба было сядзець у «стакане» ўвесь дзень. У некаторых суд мог быць прызначаны на 14:00, але везлі ўсё адно зранку… Увесь дзень у каменным мяху.

«Стакан» нечым нагадваў келлю ў манастыры. Таксама, як і ў келлях, якія даследуюць археолагі, на сценах ды дзвярах было поўна надпісаў. Напрыклад:

*«АСАВ. Сымон. 339 ч. 2, 207 ч. 2, Запрос 6 лет. 4.10.2010».*

*«Мишу…. опустить, ментовской».*

*«Одна вера, одна любовь».*

*«Жыве Беларусь!»*

*«А сечку жрите мусора сами».*

*«Господи, помоги!»*

Траплялiся і выявы: партрэты Маці Божай з маленькім Хрыстом на руках, партрэты дзяўчатаў з дзёрзкімі поглядамі… Я пакінуў па сабе маладафронтаўскі васьміканцовы крыж ды кароткі допіс: *«З намі Бог!»*

«Стакан» нагадваў келлю не толькі вонкава. Гэта было месца для роздумаў, на якія не было часу і змогі ў камеры, дзе ўвесь час віруе жыццё: допыты, ежа, шпацыр, нарды, размовы, прыборкі, кнігі, лісты, гук тэлевізара па вечарах… Дык вось, паколькі ў «стакане» нават і не паходзіш з боку ў бок, я чытаў «Бел-

газету». Нумар трапіўся выпадкова, але стаў пэўнай вяхой.

Дакладней, вяхой стала дыскусія на апошніх старонках. Справа была ўжо пасля традыцыйнага «Чарнобыльскага шляху», які аказаўся малалікім і правальным. Дыскутавалі Хадыка і Дзмітрыеў. Першы, стары франтавец, даводзіў, што ЧШ — гэта самакаштоўнасць, хай будзе хоць які: людзі выйшлі — і добра. Другі, «малады і перспектыўны», меркаваў, што ўсе гэтыя выхады на вуліцу — наогул непатрэбшчына, нашмат цікавей яму «як палітыку» гутарыць у сваім двары з хлопцамі пра «лямпачкі ў пад'ездах ды сацыяльныя праблемы».

Прачытаўшы, я адклаў газету. Так я зразумеў, што на волі ўсё дрэнна. Вельмі дрэнна. Ілюзія аб хуткіх зменах, якія справакуе зімовае супрацьстаянне ды кроў на снезе, сышла ў нябыт. Усё дрэнна…

…Яшчэ ў 13-й мы неяк разважалі пра палітыку, разлічваючы, колькі яшчэ гадоў засталося Лукашэнку. Я даў прагноз: «год», пасля захутаўся ў плед і паспрабаваў заснуць. А дыскусія працягвалася. Яны думалі, што я сплю. Добра памятаю словы, пачутыя ў цемры:

— У этого пацана — розовые очки. Только если у него они вот такие, — Юра, верагодна, паказаў жэстам «якія», — то у Бондаренки — вот такущие! — Зміцер Бандарэнка з каманды Саннікава сядзеў з Юрам крыху раней. Для іх, непалітычных, усе мы былі фантазёрамі з розным калібрам ружовых акуляраў.

***

Апісваць ходу судовых паседжанняў няма сэнсу: усё ёсць у газетах, на сайтах, у маніторынгах права-

абаронцаў. «Штурмавікоў» разбілі па пачках — чалавек па 5–6 — і судзілі. Нам дасталася суддзя Ала Булаш, якая ў 2006-м судзіла Дашкевіча.

Мне ўзгадалася некалі прачытаная фраза: маўляў, суддзя — гэта не чорт з рогамі, а жанчынка бальзакаўскага ўзросту з купай асабістых праблемаў, якая адмярае хлопцам тэрміны, а сама разважае, што набыць увечары ў краме: пельмені, макароны, гарэлку ці піва для мужа, глазураваныя сыркі дзецям… калі дзеці ёсць. Булаш цудоўна ўпісвалася ў гэты вобраз.

Калі яна публічна кпіла ды падколвала пацярпелых амапаўцаў, якіх выклікалі ў якасці сведкаў, мне яшчэ падавалася, што ёсць нейкая надзея: яна спрабуе разабрацца, не верыць ім, інакш навошта кпіць? Спрабаваў знайсці ў ёй нешта чалавечае. Аказалася, што чалавечага ў яе было багата. Занадта чалавечага. Але «чалавечае» — гэта не пра мараль, праўду ці справядлівы суд. Гэта пра пельмені ды глазураваныя сыркі…

У адной клетцы са мной сядзелі Андрэй Пратасеня, Зміцер Дрозд, Павел Вінаградаў, Уладзімір Хамічэнка. Зміцер — сціплы гісторык-архівіст ростам метр шэсцьдзясят, чые продкі паходзілі з тых самых Драздоў, дзе месціцца рэзідэнцыя прэзідэнта. На выбарах ён падтрымаў Саннікава, а відэа захавала прыўкрасную карцінку: Зміцер ад роспачы малоціць ужо непатрэбным гучнагаварыцелем па барыкадах Дома Урада. Падчас вобшуку, сярод іншага, у яго канфіскавалі японскі штык-нож, відаць, вайсковы трафей з II сусветнай: запаслівыя і гаспадарлівыя беларусы…

Андрэй Пратасеня — мінскі праграміст, стаўся сябрам АГП за месяц да выбараў. Ён прыйшоў 19-га на Плошчу разам з братам, папярэдне апрануўшыся па-рыцарску: узяў «даспех» сноўбардыста (ахова на калені і рукі) ды яшчэ яркую жоўтую куртку з шапкай.

На волі ён збіраў грошы на дапамогу хворым дзецям, удзельнічаў у валанцёрскіх праектах, на Плошчы вырываў шчыты ў амапаўцаў, а тут, у судзе, сядзеў побач ды ўсміхаўся… Мы разам ламалі шакалад на лаве падсудных: глюкоза — карысна для мозгу.

Павел Вінаградаў быў вядомы грамадскасці яшчэ з 2008 года, калі праходзіў па «Справе чатырнаццаці»: хлопцы тады спрабавалі перакрыць праспект падчас мітынгу прадпрымальнікаў. Асуджаны на два гады ўмоўна. З лета 2010 года Павел далучыўся да брэндавай кампаніі «Гавары Праўду!». Кадры таго, як Вінаградаў у масцы лупіць малатком па дзвярах Дома Урада, абляцелі ўсе СМІ. На судзе ён быў у цішотцы з выявай кувалды.

Уладзімір Хамічэнка — самая таямнічая асоба ў нашай кампаніі, а можа і ва ўсёй справе наогул. У СМІ ён атрымаў мянушку «навушнік», бо ў перапынках паміж «штурмамі» трымаўся за вуха, нібы слухае кагосьці па схаванай пад шапкай гарнітуры: звычайная практыка «ціхароў». Побач з яго прозвішчам фігураваў ледасек, рыдлёўка, кавалак трубы... *«Чего там только не было!»* — з усмешкай дэгенерата шчыра прызнаваўся суддзі Хамічэнка. У мяне склалася ўражанне, што ён — глыбока хворая асоба, якую злы лёс зацягнуў у варонку жарсцяў таго вечара. Юродзівых заўжды прыцягвае натоўп, крыкі, лозунгі, каляровыя сцягі ды расцяжкі. Яму была патрэбная дапамога псіхіятра, а не суддзя.

Усе мы знаходзіліся ў адной лодцы, дакладней клетцы, і меліся альбо разам выйсці з яе, альбо разам працягнуць нашае падарожжа ў невядомае.

— Кажуць, на зоне весела, — заўважыў падчас нейкага перапынку жыццялюб Вінаградаў.

Пасля аднаго з паседжанняў давялося вяртацца ў СІЗА у адным «стакане» з Уладзем Яроменкам, ма-

ладафронтаўцам з Міёраў. Ён наВаладарку, я — да сябе, у «амерыканку». Валодзя, не доўга думаючы, перакінуў наручнікі з-за спіны праз ногі наперад, дастаў ружанец і пачаў расповед пра сваю «жытуху» на Валадарцы, перасыпаючы гісторыю пакуль мала зразумелымі мне слоўцамі ды паняткамі. Цікава, там зусім іншы свет…

— Што ж, трэба «крапануць» — год ці два… — пасміхаўся Валодзя.

***

Нарэшце настаў вырашальны дзень, які, ясна, нічога не вырашаў, адно выносіў на паверхню даўно прынятыя і зацверджаныя рашэнні. Прысуд мы слухалі стоячы. У залі былі мае сябры, маці, журналісты, «ціхары». Жонкі не было — у яе сесія ў Любліне. Суддзя невыразным голасам, ледзьве не пазяхаючы ад суму, зачытвае нумары артыкулаў, канцылярскія фармулёўкі, спісы канфіскаваных рэчаў: дыскі, камп'ютары, заплечнікі… Усё гэта зліваецца ў манатоннае мармытанне, малебен па-царкоўнаславянску, не інакш. Чалавек у чорным чытае — усе стаяць моўчкі — ніхто нічога не разумее.

Я глядзеў у акно. Там плылі хмары. Адна з іх спакваля напаўзала на сонечны дыск, закрываючы спачатку акрайчык, пасля больш, больш, больш… Сонца ўжо не бачна.

— …Три, три с половиной, три с половиной, четыре, четыре.

Мы з Вінаградавым апынуліся ў ліку «харашыстаў» — атрымалі за «Плошчу-2010» моцныя чацвёркі. Расклад быў просты: прызнаў віну — тры гады.

Прызнаў часткова — тры з паловай. Не прызнаў — чатыры. Усё проста.

***

— Сколько? — спытаўся Ліс, кантралёр з «амерыканкі», перад тым як завесці ў камеру.

— Чатыры.

— М-м-м-м… — Ліс зрабіў здзіўлены твар.

Увечары, у камеры, я гуляў з грузінам у нарды. Гуляў, а думаў пра сваё. Абалонка была ў «хаце», думкі — недзе далёка. На дзіва, я перамагаў. Некалькі разоў запар. Гэта было фантастыкай, бо перамагчы грузіна зазвычай было цалкам нерэальна.

— Сегодня твой день, наверное, — здзекліва выцадзіў з сябе грузін і пацягнуўся на сваю нару.

*«Так, пэўна, мой...»* — пра сябе адзначыў я. Трэба было класціся спаць. Наперадзе — Валадарка. Пасля — зона… *«Прынамсі, там ёсць усе газеты, туды праходзяць лісты не толькі ад жонкі ды маці, большы харчовы асартымент...»* — падумаў я і заснуў.

***

Прысуд быў вынесены 5 траўня. Наперадзе заставаліся травеньскія святы, таму яшчэ на тыдзень я завіс у абдымках «амерыканкі». Адно пасля суда я атрымаў дазвол на сустрэчу з роднымі — маці і жонкай. Спатканне ў СІЗА КДБ — гэта дзве гадзіны, якія ты праводзіш у адмысловым памяшканні ўнізе, размаўляючы з блізкім чалавекам праз шкло, у слухаўку.

— Говорить только в трубку, если будут жесты или

ещё что — сразу выключаю связь, — праінструктаваў адказны кантралёр.

За ўсім, што адбывалася ў пакоі, сачыла камера. Зрэшты, у «амерыканцы» камеры і так на кожным кроку. Усё, што мы скажам, зразумела, не толькі слухаецца, але і запісваецца — ці мала што? А раптам важная інфармацыя выскачыць?.. Ну і наогул, любая камунікацыя — гэта інфармацыйны шум, які можа дадаць цікавых штрыхоў да псіхалагічнага партрэта.

Дзве гадзіны — гэта імгненне, я не заўважыў, як прайшлі гэтыя сустрэчы… Ці ёсць нейкая скруха, калі сувязь абрываецца, а ты змушаны класці слухаўку, падымацца ды выходзіць, праводзячы найбліжэйшых людзей поглядам? Не. Такія моманты адно дадаюць сілы. Добра памятаю, як Саша-інвестар з 13-й вярнуўся з такой жа кароткай сустрэчы з жонкай праз шкло:

— Кайф! Ну всё, сейчас можно хоть восемь сидеть! — Саша ўскараскаўся на сваю нару і, задаволены, расцягнуўся, паклаўшы рукі пад галаву.

Сустрэча з роднымі — кароткі момант шчасця. Зрэшты, а што такое шчасце ў гэтым жыцці? Нельга быць шчаслівым ці няшчасным увесь час. Шчасце — гэта імгненні.

***

Аднаго дня па абедзе мы заўважылі на «прадоле» крэселца, на ім — сіратлівую «палажняковую шлёмку» (талерку), «вясло» (лыжку), а побач — скручаную «вату».

— Это Бондаренко перевели на Володарку…

Паплечнік Саннікава Бандарэнка сядзеў менавіта ў той камеры, мы ведалі. *«Вельмі хутка і мае рэчы*

*будуць упрыгожваць "прадол" падобным чынам»* — пранеслася ў галаве.

Да 12 траўня мы «хатай» паспелі прагледзець усе стужкі пра вайну, «пранікнуцца глыбокай пашанай да подзвігу», а Серы мяне ўрачыста пастрыг «пад нуль». Лепш стрыгчыся там, дзе ведаеш людзей, давяраеш. Хто ведае, ці будзе нармальная машынка на новай «хаце», у новым СІЗА?.. Па абедзе мяне спусцілі ў «рызінку» (камера на першым паверсе), там прайшоў асабісты дагляд, цягам якога Ганс (здаецца, ён) выцягнуў згодна з рэгламентам кожны ліст з капэрты, прагледзеў усе паперы.

Са склада прынеслі ўсе мае «запрэты» — недазволеныя для «амерыканкі» прадметы, якія метадычна вымаліся з перадачак: мачалкі *«неположенной формы»*, майку з надпісамі *«непроизводственного происхождения»* і г. д. Тут гэта нельга, там, на Валадарцы, можна. Гэта плюс.

У двары мяне разам з майном запхалі ў «стакан» (менавіта запхалі, бо са мной было два «кешары» і адзін вялікі мех з усялякай зімовай адзежай, якую не паспелі забраць родныя). У суседнім «стакане» туліўся «падзельнік» — Андрэй Пратасеня, таксама паголены пад нуль.

Падарожжа паміж ізалятарамі нядоўгае, што там ехаць? Абодва замкі — у цэнтры Мінска, абодва — гісторыка-культурныя каштоўнасці, наша гісторыя. Нас выгрузілі ва ўнутраным дворыку. Паставілі разам з рэчамі ў вялізнай замкавай браме з прыгожымі скляпеннямі і глухімі дубовымі варотамі, якія, магчыма, памятаюць яшчэ даўнішніх вязняў замка — Коласа ды Дзяржынскага.

— Статья?! — цікавіцца ўжо больш неахайны за «амерыканскіх» калегаў кантралёр у берэце.

— 293-я, частка 2-я.

— А, «декабристы», — усміхаецца ён у бок «кораша».

Я паспрабаваў пагутарыць з «падзельнікам», што стаяў побач, але кантралёры заўважылі ды развялі па розныя бакі брамы. Пару хвілін я стаяў сам сабе, у галаве круціліся нейкія рэфлексіі пра «амерыканку», былое і будучыню, але канваір абарваў ланцужок думак:

— Проходим!

Старажытны Пішчалаўскі замак зачыніў за намі свае цяжкія дзверы.

## Частка 2
## Валадарка

Спачатку — шмон і душ. Гігіена і дагляд — агульнае правіла заезду ў кожную падобную ўстанову, усё стандартна. Нас з Пратасенем развялі па розных адстойніках, пагутарыць так і не атрымалася.

— Commen Sie*, — ляніва камандаваў малады канваір.

Адстойнік — невялічкае выцягнутае памяшканне, дзе, расставіўшы рукі, ты дастаеш абедзве сцяны. Уздоўж сценаў — драўляныя лавы. «Парашы» няма. На вокнах, як і ва ўсіх камерах Валадаркі, — «раснічкі», металічныя пласціны, нібы жалюзі. Праз шчыліны між імі трошку бачная «запретка» з калючым дротам, пара стомленых «баландзёраў», якія цягнуць нейкі вазок, — брэйгелеўскі сюжэт.

Аднаму сумаваць давялося нядоўга. Спачатку закінулі этап з Жодзіна — маладыя хлопцы да трыццаці, вясёлыя і адвязныя. Адзін нават прызнаўся, што любіць беларускую мову, але не ўмее на ёй размаўляць. Завадатарам натоўпу быў зухаваты, сіні ад татуяванняў, моцна сіпаты хлапец.

---

* Пайшлі *(ням.)*.

Праз пэўны час шумны кагал пацягнулі ў душ, а да мяне закінулі нейкага бізнесоўца, пазней — яшчэ і крадуна з Гродна. Бізнесовец вяртаўся ў камеру з суда, увесь у белым, паказваў свае вершы: як заўжды, пра несправядлівасць «сістэмы» — вечную тэму сярод вязняў. Калі няма пра што гутарыць — размаўляйце пра несправядлівасць, усе прысутныя падключацца. Ён нібыта перасякаўся з Эдзікам Лобавым, якога ўзялі за дзень да выбараў разам з Дашкевічам.

— Да, 293-я — привилегированная статья…

Яны ўсе так лічылі. Палітычны артыкул — прывілеяваны. Ёсць шанц выйсці раней, а галоўнае — з'ехаць за мяжу па вызваленні: «дзверы адчыненыя». Рэальная прывілея была, прынамсі, у адным: нас не мурыжылі перад судом па году-два, як тых жа карупцыянераў ды камерсантаў, пакуль у іх цягнуліся розныя там экспертызы ды следчыя дзеянні. У палітычных зазвычай усё хутка, па рашэнні зверху.

Незаўважна надышоў вечар, праз «кармушку» далі «палажняковы» суп у алюмініевых «шлёмках». Пасля вывелі ў калідор, дзе ўжо быў пашыхтаваны тварамі да сцяны жодзінскі этап. Пасля пераклічкі нас павялі доўгімі калідорамі старажытнага замка на склад, дзе кожны атрымаў коўдру, матрац, бялізну, падушку і «кругаль» (ніхто імі па прызначэнні не карыстаўся: у нас кубкі выкарыстоўвалі як падстаўкі пад бутэлькі з алеем).

Са сваімі двума «кешарамі», торбай ды яшчэ «ватай» я б дакладна не даў рады, каб не зямляк — той самы малады крадун. Зямляцтва — адзін з нешматлікіх ланцужкоў, якія могуць звязаць тут абсалютна незнаёмых паміж сабой людзей. Рэлігія, напрыклад, у большасці выпадкаў такой ролі не грае, калі ты не мусульманін альбо сведка Іеговы… Ну і цыгане — моцная салідарная групоўка. Але цыгане — гэта асобны

сусвет, свая галактыка ў космасе беларускага турэмнага свету, з імі я сутыкнуўся пазней, ужо на зоне.

Мы апынуліся ў новым корпусе турмы, які, як я пасля даведаўся, лічыцца найлепшым у плане ўмоваў. Хлопцы з Жодзіна засталіся недзе безнадзейна далёка, Андрэй Пратасеня стаяў тварам да сцяны метраў за 30 ад мяне, а я перамінаўся з нагі на нагу каля камеры «два-адзін» у даўжэзным калідоры, пакуль раўнадушная дзяўчына-канваір адпрацаваным жэстам не адчыніла перада мной «тармазы».

***

— Дзень добры!

— Какая статья?

— 293-я, частка 2, масавыя беспарадкі...

— Тише, люди спят. Откуда?

— СІЗА КДБ «амерыканка».

— М-м-м…

Знутры камера нагадвала мурашнік. Сюды-туды гойсалі людзі, часам нехта спыняўся, цікавіўся, нехта спаў па нарах. Больш за ўсё пытанняў задаваў хударлявы акулярык, які нечакана назваўся таксама палітычным. Хутка высветлілася: гэта анархіст Мікола Дзядок. На хаце было багата ўсіх і ўсяго, апроч вольнага месца: не паспеў я паставіць свае непамерныя торбы на падлогу, як мне параілі скласці самае патрэбнае ў адзін «кешар», а рэшту знесці на «кешарню» па абходзе.

— Коля, расскажи человеку «за людское»…

Я залез да Колі на самы верхні ярус і адтуль ужо разглядаў усіх і ўсё. Пятнаццаць «шканароў» былі пастаўленыя ўздоўж сценаў і мелі па тры ярусы.

Колькасць людзей на «хаце» зрэдку перавышала пры мне 20–25. Частка спала па чарзе, але для Валадаркі-гэта былі вельмі паблажлівыя ўмовы: дзе-нідзе спалі і ў тры змены альбо вязалі гамакі, каб хоць неяк злавіць лішнюю гадзінку сну. Пасярэдзіне цягнуўся «абшчак» (агульны стол). Лагічным вянцом стала быў тэлевізар. На акне — тыя ж «раснічкі», прыбіральня адгароджаная метровай сценкай і завешаная цыратамі — хоць нейкая ілюзія ўтульнасці. Толькі там ты адзін на адзін з сабой.

Цікава, што ў гэтай жа «хаце» нядаўна сядзеў расіянін Брэус, фігурант нашай справы. Іх было двое — расіян з ліку «штурмавікоў», якія трапілі за краты. Як грамадзянаў «вялікай дзяржавы», іх выпусцілі, мы — засталіся.

— ...На турме наогул нельга «спрашивать» пры звычайнай размове, можна цікавіцца. «Спрашивают» ужо за нейкі ўчынак… Калі ты, напрыклад, сядаеш да чалавека на нару — трэба спачатку пацікавіцца… — з інтанацыяй «бывалага» распавядаў Мікола, свідруючы мяне вачыма скрозь лінзы акуляраў. За яго плячыма — ізалятар часовага ўтрымання на Акрэсціна, СІЗА ў Жодзіне, «бальнічка», розныя «хаты» на Валадарцы.

Мікола сядзеў з верасня 2010-га і праходзіў па «справе анархістаў». Іхнай групе інкрымінавалася некалькі падпалаў, у тым ліку машыны на тэрыторыі пасольства РФ. Яшчэ ўвосень 2010-га гродзенскія анархісты заклейвалі нашу агітацыю сваімі ўлёткамі з нязменна дробным шрыфтам і вялізным масівам тэксту. У шапцы заўжды красавала: *«Свободу белорусским анархистам!»* Аказалася, гэта было пра Міколу ды яго сяброў.

Мы шмат размаўлялі. Палітыка, гісторыя, рэлігія — усё на свеце. Шмат спрачаліся. Я — правы,

ён — левы. Я не мог зразумець, чаму трэба ўсё ва ўсіх забіраць ды дзяліць, ён не разумеў, чаму дзяржава ды іерархія каштоўныя. Пры гэтым, як слушна пісаў Даўлатаў, у зняволенні ўсе палітычныя трымаюцца разам і толькі на волі ці ў эміграцыі зноўку разбягаюцца па сваіх кутах.

З Колем мы ўпершыню «ганялі чыф», ён ведаў багата пра турэмны свет, ягоныя традцыі, правілы: на «бальнічцы» шмат камунікаваў са «страгачамі» (вязнямі суворага рэжыму, якія трымаліся старых традыцыяў крымінальнага свету). Усё гэта наклала адбітак на ягоную асобу. Зрэшты, нават гістарычна анархісты заўжды сімпатызавалі крымінальнікам — стыхійным анархістам і ворагам любой дзяржавы, якія стваралі сваю супольнасць насуперак усім іерархіям ды інстытуцыям.

*Судья сказал,*
*конвой забрал,*
*браслеты щёлкнули...* —
паўшэптам зацягваў Коля, ягоныя вочы ззялі.

Коля, аднак, не проста захоплены рамантык. Востры розум, інтэлігентнасць ужываліся ў ім з незвычайнай жыццёвай энергіяй, сілай, якія жылі ў гэтым сухаватым невысокім хлопцы. А яшчэ — аптымізм. Гэта быў моцны кантраст з панурымі, зломленымі ды зласлівымі камерсантамі ды наркаманамі, якіх было тут безліч. Кім яны былі? Ахвярамі, якія патрапілі ў складаную сітуацыю і пакутавалі над пытаннем: *«За что?»* Ён быў пакутнікам за веру, ён ведаў адказ на пытанне, бо ўвераваў некалі ў «сусветную рэвалюцыю». Ягоная вера не слабела, таму Коля, падавалася, мог хадзіць па вадзе, пераўтвараць ваду ў віно, танчыць на вуголлі. «Веруй — і вера ўратуе цябе».

***

Рэжым дня дужа нагадваў рэжым «амерыканкі». Тут дазвалялася мець гадзіннік, адсочваць час было лягчэй. Шпацыр збольшага прыпадаў на другую палову дня, рэшта часу была вольнай. Перыядычна, у залежнасці ад колькасці сукамернікаў, мне даводзілася спаць днём і «крапіць» уначы. Такі рэжым я абіраў сам, бо ўначы можна было адпачыць ад усіх, а на працягу дня я меў нару ў карыстанні, каб спаць, чытаць, пісаць, маляваць і г. д.

На шпацыр уся камера ішла калонай па двое ў суправаджэнні ўсяго аднаго кантралёра. Мы праходзілі лесвіцай некалькі паверхаў уніз па новым корпусе, спускаліся ў сутарэнні Пішчалаўскага замка і праходзілі так званай «падводнай лодкай» — доўгім падземным калідорам, які ўпіраўся ў склад. На ўваходзе ў «падводную лодку» часам стаяла вада — гэта Свіслач употай завітвала да нас, заліваючы пасля вялікіх дажджоў некаторыя камеры ў старым корпусе. Па баках былі «расстрэльныя дворыкі» — у 30-х іх выкарыстоўвалі штодзённа, і не па адным разе... Так распавядалі.

Пасля «падводнай лодкі» мы на імгненне траплялі ў замкавую вежу, скрозь якую ішоў калідор на вуліцу. Кудысьці ўверх збягала паламаная вінтавая лесвіца, камяні дыхалі сырасцю, сухотамі ды хваравітай рамантыкай «Графа Монтэ-Крыста»… Пасля летніх дажджоў у палове дворыкаў для шпацыру стаялі невысыхаючыя лужыны, сцены пакрываліся мохам, а купка людзей была вымушана шукаць паратунку на невялічкім кавалку сушы і яшчэ спрабаваць прагульвацца ды адціскацца. Зверху, з мосцікаў, на ўсё гэта глядзелі кантралёры, часам дзяўчаты ў форме. Апош-

нія былі не супраць нават перакінуцца слоўцам з вязнямі пад гукі неўміручай радыёкропкі.

Пасля шпацыру шлёпанцы і ногі па чарзе мыліся ад пылу. Наогул, у камеры дзейнічалі даволі жорсткія правілы гігіены, шумавога фону і г. д. Чысціня на «абшчаку» (стале па цэнтры) была абавязковай, вільготныя прыборкі ладзіліся два разы на суткі — двое прыбіралі, астатнія хаваліся па шконках. Чысціня таксама і бясконцая крыніца канфліктаў: што за лямант? Аказваецца, нехта пакінуў волас на кавалку мыла, нявыцертую кроплю на люстэрку, хлопнуў крышкай унітаза — і панеслася…

Удзень і ўначы размаўляць мажліва было толькі шэптам — і гэта першае, што звяртала на сябе ўвагу, — пастаянны *нямы гул*: «Пш-пшы —пшы…» Пагутарыць уголас — толькі на вуліцы.

***

— О, глянь, за нашу «хату» пішуць! — сукамернік паказвае пальцам у свежы нумар «Нашай Нівы». Там змешчаны мой вершык, напісаны тут жа, на верхняй нары, у хуткім часе пасля «заезду»:

*Зажывуць разадраныя рукі,*
*Усміхнецца вясёлкаю неба.*
*Смак салёны мядовай разлукі*
*Адчуваю у бохане хлеба.*

*Берцы бою чакаюць на складзе,*
*Расквітнеюць завулкі сцягамі.*
*Не шукай супакою у ладзе.*
*Сёння з імі ты, заўтра — з намі!*

*Краты рэжуць блакіт небасхілу,*
*Пыл адчаю у лёгкіх асядзе,*
*Рэшту кіне рука на магілу…*
*Хто каму?*
*Пажывём ды паглядзім!*

***

У камеры — поўны «Нэшнал джэагрэфік»: Іран, Азербайджан, былое бельгійскае Конга, Арменія, Расія… Трое хлопцаў былі з Гродна. А кіруе ўсім яўрэй з мянушкай Жыд. Сёе-тое я пачаў занатоўваць. Любая камера, любы асяродак тут — гэта найперш людзі. Параметры «хаты», сырасць, цеплыня ці холад — усё гэта другаснае. Некаторыя персаналіі можна згадаць і зараз.

*«Чалавек са шнарам»* — так некалі называлі Ота Скарцэні, але гэта быў… ну зусім не Скарцэні. Мужык з тварам бывалага крымінальніка, пудовымі кулакамі і перакроенай пысай, падобны да аднаго з другасных персанажаў «Джэнтльменаў удачы» (той, які: *«А вам не кажется, что ваше место возле параши?..»*), у рэальнасці аказаўся побытавым алкаголікам, які сядзіць менш за маё, ішоў па справе аб выкраданні асобы: збіў ды закінуў жанчыну ў багажнік, вывез некуды… сюжэт нібы з 1990-х. Персанаж меў мянушку Людаед.

На волі Людаед меў знаёмую — глуханямую прастытутку.

— А как ты ей звонил? — з усмешкай пыталіся мужыкі.

— Эсэмэски писал… — сіпатым голасам адказвала пачвара.

Дзіўная асоба, ці то з раманаў Гюго, ці то з бурлівага 1917-га: часам ён апранаў цяльняшку і з гонарам казаў: *«Мы из Кронштадта!»* У яго не было пры сабе фота родных, затое быў здымак… карлікавага дабермана ў сінім кажушку. Вельмі міла! Людаед мог бы здымацца ў кіно — надта фактурная знешнасць, — а ён сядзеў з намі, паліў, кашляў ды варыў шторанак сабе нязменную каву з аднаразовага пакеціка.

Бліжэй да майго ад'езду Людаед пачаў ужо зусім ненатуральна заходзіцца кашлем, твар нібы набрыняў нечым, а бывалыя сукамернікі настойліва раілі яму схадзіць ды праверыцца на «флюшку» — флюараграфію…

З-за патэнцыйнай небяспекі сухотаў, якой насычаны кожны сантыметр у СІЗА, сапраўднай праблемай ставала пранне бялізны і адзення — сырасць, якая з'яўляецца ад рэчаў падчас прасушкі, стымулюе захворванне. Таму мыюць тут па чарзе, а не калі схочацца. Толькі пасля паходу ў душ, раз на тыдзень, камера можа быць завешаная адзежай удоўж і ўпоперак.

***

А вось 19-гадовы хударлявы акулярык, які выглядаў на 16, сведка Іеговы. Усё як мае быць: каляровыя часопісы «Пробудись», «Сторожевая башня», Біблію не выпускаў з рук. Ветлівы, паслужлівы, працавіты. Скуль ён тут? Навошта? Высветлілася, яму інкрымінавалі пасобніцтва ў забойстве: з ягоных словаў, бацька папрасіў разам з сябрам пасядзець у машыне ў той час, як там знаходзіўся нейкі мужык. Хлопцаў пасля бацька высадзіў, а сам павёз мужыка далей у лес…

Па СІЗА хлопец бадзяўся ўжо паўтара года: Жо-

дзіна, Кальварыйская, Валадарка. Навярнуўся ў веру тут жа. Сваю Біблію (варыянт «сведкаў», адрозны ад каталіцкага ды праваслаўнага) ён ведаў дасканала, як камп'ютар: можна было прамовіць пачатак верша, а ён праз імгненне знаходзіў канцоўку.

Аднойчы ў яго сталася трагедыя: разбілася лінза ў акулярах. Гэта была сапраўдная трагедыя, бо акуляры яму адчынялі шлях да адзінай жыццёвай радасці: чытання. Справа ў тым, што з родных на волі ў яго засталася толькі сястра, якая істотна не дапамагала, а «браты па веры» рэгулярна закідвалі яго выключна «духоўнай ежай»: часопісамі ды брашурамі… Разбітыя акуляры, падавалася, хвалявалі яго куды болей за суд і перспектыву адсідкі.

Мы верылі, што яго выпусцяць, залічыўшы тэрмін, які ён ужо адматаў у СІЗА. Сталася па-іншаму... Я яшчэ ўбачу яго, выпадкова, мелькам, крыху пазней — на зоне.

Што тычыцца сведкаў Іеговы наогул, то яны фактычна ўраслі ў сістэму зонаў і СІЗА, дакладней, зрабілі з іх элемент сваёй сістэмы-сеткі. У камерах, жылых секцыях, бібліятэках — паўсюдна тыя самыя часопісы з усмешлівымі цемнаскурымі хлопцамі на фоне горных пейзажаў. Нават у нашай камеры слабы і самотны «сведка» здолеў-такі знайсці некалькіх чытачоў для сваёй падшыўкі. Безумоўна, гэта феномен, варты не тое што расповеду, але напісання дыплому ці дакументальнага фільма.

***

«Бананы есть?» — некалькі разоў перапытаў кантралёр у знерухомелых пастаяльцаў «хаты». У ад-

каз — цішыня, людзі пачалі пераглядацца. Тут у камеру заходзіць цемнаскуры хлопец, узрост якога вызначыць досыць складана. Для праставатых кантралёраў, роўна як і для большасці сукамернікаў, Фістон з былога бельгійскага Конга стаўся цацкай, якую немажліва было абмінуць. Перад праверкамі Фістону абавязкова выдавалі цяльняшку і падбівалі дакладваць на ламанай рускай. Яго вучылі матам, паказвалі «мурзілкі» (часопісы з аголенымі красунямі), распытвалі падчас шпацыру.

Фістон распавядаў, што хацеў трапіць у Парыж, дзе яго чакала жонка з пяцігадовым сынам. Сам перад гэтым працаваў ахоўнікам у маскоўскім клубе (гэтая тэза неаднаразова аспрэчвалася сукамернікамі, зыходзячы з камплекцыі субяседніка). Усе, безумоўна, былі расчараваныя, калі даведаліся, што на ягонай радзіме кракадзілаў няма, аднак зацікавіліся грамадска-палітычным кліматам далёкага краю:

— Прэзі-дент …Ар-т…ст, — з цяжкасцямі спрабаваў тлумачыць кангалезец.

— Артист? Не-е-ет, это у нас артист!.. — дадаваў нехта збоку.

Усе смяяліся. Фістон таксама. А яшчэ ў іх была вайна. Дакладней, акурат на той момант вайны нейкі час не было. Дык чаму беларусы, у якіх вайны не было ве-е-ельмі даўно, лічаць свайго прэзідэнта «артыстам»? Фістон не разумеў. Ён хацеў у Парыж і не грузіўся такімі пытаннямі.

***

Іранец Апшы быў куды менш публічнай асобай, чым Фістон. Ён меланхалічна паліў увесь час, гля-

дзеў на свет сваімі сумнымі вачыма героя «Шахнамэ» і чакаў дэпартацыі: так яму абяцаў консул. Сядзеў, бо кагосьці парэзаў — усходняя тэма.

Неяк праз выпадковасць ён умудрыўся нават «зварыць» Людаеда: выпадкова абліў таму кіпнем ногі падчас сну. Менавіта выпадкова, бо часам на зонах гэта робіцца наўмысна — асабліва калі слабейшы баец хоча пакараць мацнейшага, падчас сну ўсе роўныя. Незразумела нават, хто больш перапужаўся, апараны Людаед ці Апшы, які не ведаў, што з ім зараз зробяць... Да бойкі не дайшло, а скончылася справа іранічным падсумаваннем Жыда пад рогат усёй «хаты» сярод ночы:

— М-м-м-м! В камере запахло жареным!

Апшы рэдка размаўляў, відаць, і практыкі належнай не было. Калі даводзілася разам «крапіць» па начах, мы гулялі ў нарды. *«У нас вы бы уже не жили...»* — з сумнай усмешкай казаў Апшы, калі мне прыйшла «Наша Ніва» з партрэтамі палітвязняў. Ён быў прыхільнікам апазіцыі там, на далёкай радзіме, дзе за палітыку рэгулярна кагосьці вешалі. А вось за побытавае забойства, па тамтэйшых законах, чалавек не абавязкова мусіў сядзець — пытанне магло быць мірна вырашана паміж роднымі.

***

Віртуозам датычна азартных гульняў быў армянін Тыгран. Яго абвінавачвалі ў тым, што ён надурыў казіно, — проста казка! Ён шмат распавядаў пра Арменію, Карабах, Качарана, Саркісяна і інш. Чалавек жыў на галоўнай плошчы Ерэвана і назіраў за гістарычнымі падзеямі са свайго 10-га паверха: у 1988-м

на плошчу прыехаў дабіты аўтобус, адкуль выйшлі 20 чалавек, бежанцаў з Карабаха. Гэта быў пачатак стыхійнага мітынгу, а справакаваны канфлікт стаўся яшчэ адным каменем на магілу Саюза. Школьны сябар Тыграна — кандыдат у прэзідэнты Вазген С.:

— Он ещё станет президентом! — без цені сумнення прамаўляў Тыгран.

У 2008-м, калі ў Доме Урада Арменіі ўчынілі бойню, Тыграна «зачынілі»: афіцыйна за наркотыкі, а насамрэч — хто яго ведае? З СІЗА ён неяк выкараскаўся ды, не доўга думаючы, з’ехаў з краіны. Бізнес і палітыка, палітыка і бізнес — бурлівая кроў Каўказа…

Ён меў яшчэ шмат чаго распавесці — пра царкву, звычаі, гісторыю, мову, але не паспеў — так часта бывае ў турме: ёсць чалавек, намацаеш з ім нейкія агульныя цікавасці і… раз! — перавялі. А яшчэ Тыгран пакінуў па сабе пару словаў па-армянску на тым самым томіку Купалы, які пачалі распісваць сукамернікі яшчэ ў «амерыканцы». Сярод іншага, напісаў такое ёмістае, шматзначнае і прынцыповае для кожнага з нас: *«Свабода!»*

***

У турме, як і на зоне, ідзе няспынны рух: камусьці нешта перадаецца, «падганяецца», людзей збіраюць на этап, «разганяюцца» асобныя праблемы і сітуацыі, на новенькіх наводзяцца даведкі. Інфармацыя з тэлеграфічнай хуткасцю перадаецца праз «малявы», падчас кароткіх сустрэчаў у калідорах і г. д. Людзі жывуць гэтым. Кожны сам выбірае, ці трэба яму асабіста ва ўсё гэта лезці. Я да кагосьці звяртаўся толькі пры

сапраўднай патрэбе — маё жыццё і цікавасці заставаліся па той бок «запретки».

Наша камера была разлічаная на першаходаў, тым не менш траплялі і лагернікі, этапаваныя на Валадарку як сведкі на судах ці па новых абставінах справы. Яны зазвычай займалі пачэснае месца ў камернай іерархіі, даглядалі «абшчак» ды спрабавалі вучыць жыццю. Лагерная роба, чорная феска, адпаведны слоўнікавы запас… Большасць першаходаў тут яшчэ не была асуджаная, яны каталіся на суды, чакалі, разважалі, але ўжо прыкідвалі, як будуць выглядаць *там*:

— Там же выдадут всё?

— Выдадут, но тряпки.

— А где взять?

— Родным закажи. Фирма «Стецкевич» есть в Минке, спецодежду шьёт.

— А Стецкевича посадили уже, по-моему... — лянiва адгукаўся аднекуль яшэ адзін дасведчаны суб'ект.

Час ад часу гутаркі абавязкова закраналі палітыку — інспіравалі іх свежыя газеты альбо выпуск навінаў па ТБ:

— Смотри, Коля, как ваши в Греции молотят!

Коля ўсміхаўся, яму было прыемна назіраць, як маладзёны ў балаклавах паляць машыны за сотні кіламетраў адсюль, для поспеху іхнай агульнай «справы».

***

— Санникова уважают, он же бросил вызов системе! В некоторых камерах его бы очень хотели видеть! — захоплена кажа суразмоўца.

Герой расповеду сядзеў у суседняй камеры —

«два-нуль». Камера разлічаная ўсяго на чатырох чалавек, элітную публіку. Іх выводзілі на шпацыр адразу пасля нас, таму можна было нават пабачыцца здалёк на даўжэзным «прадоле» «падводнай лодкі». Неяк, пазнаўшы фігуру экс-кандыдата ў спартовых штанах, я крыкнуў: «Жыве Беларусь!» — ён паказаў жэстам «Victory». З таго часу кантралёры трымалі дыстанцыю паміж вывадамі нашых камер, Саннікава на Валадарцы я больш не бачыў…

Іронія была яшчэ і ў тым, што ў нашай камеры сядзеў камп'ютаршчык з Гродна з прозвішчам… Лукашэнка. Прозвішча нібыта і не рэдкае, але ўявіце сабе: Лукашэнка з Саннікавым у суседніх камерах! Бог мае пачуццё гумару.

***

Пад канец траўня я паспрабаваў пісаць дзённік, пакуль не надакучыла.

***24.05*** *Мужык прывёз з суда навіну пра хлопца, які страціў прытомнасць у той момант, калі яму запрасілі два гады. Нам смешна. Але з чаго смяёмся?..*

***26.05 11:10*** *З-за акна, а дакладней, з-за «раснічак», чуваць бадзёрыя гукі ранішняй гімнастыкі: «Раз, два, тры, чатыры, і-раз…» (працуе радыё). Суцэльная антыўтопія.*

***27.05*** *Зраніцы Коля паехаў на прысуд. Пасля адзінаццаці быў абход начальства — невысокага тоўстага палкоўніка пад парасонам высачэзнай фуражкі. Па добрай традыцыі абходчыкаў ён дапытаў Фістона, якога паставілі дакладаць, і той, як заўжды, звёў усё на фарс. У рэшце рэшт адказвала хорам уся камера. Фістон рэзюмаваў: «Базара нэт!»*

***31.05*** *Кавалак сала загорнуты ў нумар «Народнай волі» з партрэтам Ніла Гілевіча. Быццам падарунак паэту на 80-гадовы юбілей.*

***01.06*** *Каб пасадзіць чалавека, які пасадзіў цябе, «пераціраюць» сукамернікі, патрэбна ў сярэднім 10 000 баксаў (зважаючы на зоркі і пасаду, канешне). Саджаюць з дапамогай элементарнай падставы праз хабар: заходзіць чалавек у кабінет да ахвяры, кладзе сумку са словамі: «Тое, што вы прасілі», а следам залятае група з відэакамерай — справа гатовая! Лёс чалавека — 10 000 зялёных…*

*Бачыўся праз шкло з маці. Высветлілася, што падпіску на прэсу ўсім афармляла маці экс-палітвязня Андрэя Кіма — цудоўная жанчына! Цікава, дзе зараз маці Славаміра Адамовіча? Нялёгкі, але годны лёс гэтых мужных жанчын. У мамы — новыя зморшчкі на твары… Дашкевіч, аказваецца, тут.*

***

Ідзём на шпацыр, усё як заўжды. Здалёк заўважыў, як побач з кантралёрам тварам да сцяны стаіць зэк з выгаленай да бляску «чашкай».

— Здаровенька! — кажа лысы ды ўзіраецца вялізнымі апантанымі вачыма.

Дашкевіч! Папярэдне Змітра, лідара «Маладога фронту», затрыманага за дзень да «Плошчы», трымалі ў Жодзіне, а тут во — пабачыў на свае вочы. Хутчэй за ўсё, яго вялі на сустрэчу з адвакатам у адмысловы сегмент корпуса з маленькімі памяшканнямі, дзе стаяў абшарпаны стол і два крэслы.

— Это Дашкевич?! Тот?.. О-о-о, я думал, упырь какой-то… Нет, политикам точно нельзя стричься

«под ноль», — ужо ў дворыку пракаментаваў зямляк з прозвішчам Лукашэнка.

***

***02.06*** *Горача. Вельмі. Удзень была навальніца, таму яшчэ і парыць. Начныя дзяжурствы пры такіх умовах — пэўны паратунак. У нумары «НН» цэлая старонка пра «справу анархістаў» разам з інтэрв'ю Леры — нарачонай Міколы, ён «у адпадзе». Расіянін М. вучыць Фістона размаўляць па-руску: вось яна, каланіяльная палітыка! Затое адвучвае лаяцца матам. Малы зрабіў з падфарбаванага сінім атрамантам мякішу з цукрам кубік, пастай пазначыў кропкі — атрымаўся кубік для гульні (дагэтуль ён рабіў ружанцы).*

***04.06*** *Сёння адключылі ваду на некалькі гадзінаў. Тут гэта рэальная праблема: нельга нармальна схадзіць у прыбіральню, умыцца, зрабіць сабе гарбаты. Таму кажуць, што ў турме ходзяць па першай позве арганізму, не адкладаючы. У «амерыканцы» ходзяць па першай магчымасці... А ў Жодзіне, як распавядаў Тыгран, неяк не было вады тры дні... Такія справы.*

*Малы зрабіў М. ружанец за пачак цыгарэт. Варнакову — таксама, нейкі цікавы: кожнае звяно — костка для гульні. Яшчэ адзін скалечаны талент. Хлопец падсеў за наркату...*

Што да ружанцаў, дык афіцыйна яны пад забаронай. Легальныя ружанцы толькі з крыжыкам — тады гэта ўжо прадмет культу, як малітоўнік альбо абразок. З крыжыкам — ружанец, без — «элемент вараўскіх традыцыяў». Во як! Таму, не кожная «вяровіца» — азнака рэлігійнасці, бо крыжык можа быць усяго толькі «абярэгам ад кантралёра»: каб не адшманаў.

***12.06** Заўтра ад’язджаю, так, прынамсі, сказаў ДПНСІ... За акном яшчэ грыміць, толькі што прайшоў дождж, дзе-нідзе равуць сігналізацыі ў машынах. Кроплі дажджу на кратах-«раснічках» — што можа быць паэтычней?*

*Саня С., расіянін, здаравезны мужык з парэзанай шматкроць рукой, выдаленым лёгкім і метастазамі ў арганізме. За жыццё «ўзяў» 19 гадоў: Піцер, Казань, Мардовія, Рыга — лічы, мапа былога СССР. Зараз Беларусь. «У вас уся краіна турма — пад бацькам», — яго словы.*

*Ніводнага татуявання пры гэтым. «Калісьці на малалетцы ў Рызе хацеў набіць, дык адзін разумны чалавек параіў добра падумаць... Шмат бывалых зэкаў пасля вельмі шкадуюць, бо цела — твой пашпарт. У кіно — гэта крута, а так... Распранешся перад жанчынай, а яна табе: “Даруй, ты тут жыць не будзеш...”»*

*******

*Усё мінае —*
*Краты, шмоны, сутарэнні.*
*Нам застанецца*
*Гонар і сумленне,*
*Пах восеньскага лісця*
*І туман,*
*Усё астатняе —*
*Лухта, падман.*
*І ўсё адно мы вернемся,*
*Дасць Бог,*
*Пакласці кветкі*
*Маці на парог.*

***

Мая скарга ў Вярхоўны Суд яшчэ не была разгледжаная, таму тэарэтычна была мажлівасць чакаць яе ў СІЗА. Аднак палітыка адміністрацыі, якую мне прадставіў ДПНСІ, была нязменнай. Выбірай: альбо паскораны этап, альбо СІЗА ў Жодзіне. Тут лішнія людзі не патрэбныя. Тым больш летам, у перапоўненых камерах. Тым больш палітычныя. Седзячы ў кабінеце ДПНСІ. я глядзеў на каштаны за акном — як іх гайдае вецер, абдаючы пылам і гарачымі масамі па-летняму густога паўпразрыстага паветра. Па двары спрытна прабегла котка...

Напярэдадні прысніўся сон: мяне падзываюць да «кармушкі», я сядаю на кукішкі, а мне кажуць: *«Конец».* І ўсё… Чаго канец? Што? Як? У той жа дзень мяне выклікалі ў кабінет ДПНСІ, дзе я напісаў заяву на паскораны этап… Вось яно што. Чарговая старонка турэмнага сонніка.

Провады на этап — старая традыцыя. Прынята цікавіцца, чаго ў чалавека няма, сёе-тое даецца з «абшчака». Калі ў ад’язджаючага добрая «вата», ён мяняецца ёй з кім-небудзь з сукамернікаў, каб здаць на склад горшую. Нешта трэба пакінуць на «хаце», бо ёсць людзі, якія не маюць анічога. Перад выхадам па коле пускаецца «чыф» з салодкім упрыкуску. Некаторыя зайздросцяць, бо самі таўкуцца тут немаведама колькі, а там — зеляніна, чыстае неба без кратаў, доўгатэрміновае спатканне з роднымі. Так-так, вязні СІЗА мараць пра зону… Урэшце «тармазы» адчыняюцца:

— Киркевич! Матрас, кружка, бельё...

За спінай засталіся стомленыя гарачынёй і пакутамі твары: прыязныя, не вельмі прыязныя, абыякавыя. Бывайце, мужыкі!

## Частка 3
## Наваполацк

Пасля склада, дзе я разам з будучымі спадарожнікамі пакінуў валадарскі «палажняк», нас развялі па адстойніках. Мяне закінулі на нейкі час асобна ад астатніх, таму была магчымасць пашпацыраваць ды падумаць пра жыццё. Дарэчы, на складзе я сутыкнуўся з... чарговым анархістам, «пасобнікам» Міколы Дзядка, — Ігарам Аліневічам. Высокі, з выцягнутым паўночным тварам — сапраўдны арыстакрат.

Пасля атрымалася пагутарыць: было аб чым, абодва мы сядзелі ў «амерыканцы» ў адзін час:

— Арлоў...

— Ага-ага.

— Фядута, Малчанаў...

— Ну-ну.

Этап — гэта заўжды напружанне. Зэкі часцяком спрабуюць ад'ядацца перад этапам — трываць ён можа і дзень, і тыдзень... Але ўжо непасрэдна перад этапам ядуць мала, адно «ніфеля» ад гарбаты, каб не цягнула да прыбіральні, бо якія ўмовы — хто ведае?

Далей — вобшук, яшчэ адзін адстойнік, перасадка ў старэнькі аўтазак (на вуліцы было ўжо цёмна), і, нарэшце, вагон «сталыпін». Доўгі час, стоячы ў аў-

тазаку на пераездзе, мы не маглі зразумець, куды нас вязуць:

— Долго едем, странно...

— Ага. А якія варыянты?

— Может, в Жодино?..

Перасадка з аўтазака ў цягнік адбываецца наступным чынам: транспарт спыняецца каля чыгуначных пуцей, насупраць яго — вагоны цягніка, па якіх распіхваюць зэкаў. А каб вязень адолеў адлегласць максімальна хутка, ён мае прабегчы па калідоры, які ўтвараюць ВВ-шнікі з сабакамі. У нас і пагрузка і выгрузка праходзілі ў рэжыме «лайт»: зазвычай зэкі з гадзінку могуць сядзець на кукішках каля пуцей у атачэнні аўчараў.

Што такое «сталыпін»? Гэта вагон, падзелены на купэ, адгароджаныя кратамі ад калідорчыка. Па «прадоле» ходзяць ВВ-шнікі ў бронекамізэльках — яны ж выводзяць у прыбіральню, наліваюць кіпень праз краты. Напхалі нас у «купэ» чалавек дзесяць-дванаццаць разам з «кешарамі» ды ўсімі манаткамі. Наверсе канструкцыя раскладалася, апынуўшыся шматʼяруснай, некалькі чалавек палезлі туды. Ноч — грукат колаў — цыгарэтны дым — размовы... З намі ехаў Зміцер Даронін, яшчэ адзін падзельнік па «справе аб беспарадках», малады хлопец у майцы з надпісам «Італія».

— Нешта ты білет не туды ўзяў, на майцы — «Італія», а тут… — жартавалі мы пад рытмічны грукат колаў. Хлопец таксама ўсміхаўся. Ён нават не ведаў, куды едзе, у якую калонію размеркаваны…

Ноч без сну. А зраніцы… сюрпрыз! Ідучы ў прыбіральню пад наглядам мажнага ВВ-шніка, экіпіраванага, як тэўтонскі рыцар, можна было глянуць у акно, а там… шапацелі бярозы, асіны, сосны, першыя прамені сонейка з-пад хмараў — глядзеў бы і глядзеў. З маленькага акенца ў прыбіральні я бачыў туман у

полі, пасля адным вокам — узыход сонца... Тыя звыклыя рэчы, якія не цэніш на волі, тут стаюць на вагу золата: гэта і ёсць прыгажосць, шчасце — недзе там, у роснай траве, блізкай і такой далёкай.

Перасадка. Аўтазак. З вакзала нас вязуць да лагера праз Полацк. Канваір ад суму душыць на шкле асву гумовай дубінкай — гэтая карцінка чамусьці выдатна захавалася ў памяці. Праз акенца відаць велічны помнік Усяславу Чарадзею з паднятай рукой — упершыню яго ўбачыў менавіта ў такім ракурсе. Далей — «Нафтан» і «Палімір», прадпрыемствы, пра якія нам казалі ў школе на геаграфіі. Паміж імі заціснутая наваполацкая зона — папраўчая калонія № 10, альбо наўпрост «дзясятка».

Даехалі. Брама. А што там вісіць на ліхтары? Птушка. З часам высветліцца (мы і самі назіралі гэта), што вертухаі адмыслова адстрэльваюць птаства з вышак ды развешваюць трафеі... Вітаем у Наваполацку!

***

Першы наш прыпынак — «клуб». Там вусаты ДПНК прачытаў кароткую лекцыю пра нашае далейшае жыццё. Нас голяць «пад нуль» ды шманаюць рэчы — забароненае (джынсы, кашулі, кепкі, шорты альбо «лішняя» пара трэнікаў) адпраўляецца на склад да канца тэрміну. Трэба рабіць вопісы: што вязеш, што здаеш… Мардаты дзядзька ў берэце ўзіраецца ў маю паперчыну і з важным выглядам папраўляе:

— Не «Заява», а «Заявление»!

— Па-беларуску — «Заява».

— М-м-м. «Декабрист», что ли?..

Заходзім у каранцін, каб паставіць рэчы, бяром

толькі «мыльна-рыльнае». На нас з альтанкі моўчкі глядзяць людзі ў робах — тыя, хто яшчэ не паспеў «падняцца» ў атрад і туляцца пакуль у гэтым самым каранціне. Наперадзе — «лазня». Чамусьці ва ўсіх падобных установах звычайную душавую называюць менавіта так. Светла, новая плітка на падлозе, усё цывільна ў параўнанні з Валадаркай. Атрымліваем матрацы, камплекты бялізны, форму, боты і крочым са зваротам у каранцін. Там падшываем біркі, апранаемся перад вечаровым пастраеннем, апісваем майно і зносім баулы на «кешарку» — пры сабе дазволена пакідаць толькі самае неабходнае.

З каранціну зэкі не ходзяць на працу, яны праходзяць нешта кшталту «курсу маладога байца»: новазаехаўшых вучаць правільна «здаровацца» з начальнікам падчас абходаў, строем хадзіць у сталоўку, запраўляць ложак і г. д. Каранцін з'яўляецца ідэальным атрадам з пункту гледжання адміністрацыі і адначасова невыканальным пажаданнем датычна рэшты зоны. У атрад зэк можа «падняцца» праз тыдзень, а можа і праз пару месяцаў: напрыклад, калі зацягнецца разгляд ягоных скаргаў ды апеляцыяў на рашэнне суда.

Адразу па заездзе на зону чалавеку прапануюць падпісаць паперы аб «выкананні патрабаванняў адміністрацыі». Быццам нічога асаблівага. Аднак гэта — нябачны рубеж паміж сусветам звыклага зэка і блатнога. Для прыхільніка вараўской ідэі «падпісаць паперы» — здрада. Фармальна за адмову адміністрацыя нічога не можа зрабіць, аднак фактычна такога зэка ў бліжэйшыя ж дні падловяць на двух дробных парушэннях (незашпілены гузік, дрэнна паголены...) і змесцяць у ШІЗА на 10 сутак. Выйдзе — усё паўторыцца. І так будзе, пакуль колькасць парушэнняў не дасягне крытычнай мяжы і зэка не перавядуць у «кры-

тую» турму адмысловым рашэннем суда. Там блатныя зазвычай і матаюць ільвіную долю сваіх тэрмінаў.

Форма, якую атрымлівае новазаехаўшы ў зону вязень, — гэта рыззё. Сапраўднае рыззё. Беспамерныя шэрыя роба і штаны, якія хоць рукамі трымай, а ў дадатак — сіняя кашуля з такой жа бялізнай. Такое ўражанне, што кашуля папяровая — празрыстая, халодная, ніякая. На галаву — феска, таксама без памеру. На галовах некаторых «малагабарытных» зэкаў яна кладзецца, нібы берэт, яны стаюць падобнымі да французскіх мастакоў пачатку стагоддзя. Нармальна папраць рэчы ў каранціне немажліва: хадзі ў брудным альбо сушы на сабе — так некаторыя і рабілі.

Больш цывільную робу, перададзеную роднымі альбо пашытую пад замову тут — за пару блокаў цыгарэт на швейным цэху, — пакуль нельга. Чаму? Мабыць, з прычыны псеўдапарадку, які тут старанна падтрымліваецца (боты могуць быць бруднымі, але пагалены маеш быць ідэальна), але таксама каб прынізіць і даць зразумець чалавеку, што ён ніхто. Стаіш сабе ў гэтых лахманах, нібы голы, а перад табой — кантралёр у берцах, з рэменем, у берэце, з дубінай пры пасе — альбо днявальны з ліку саміх зэкаў, ужо добра «абшыты», сыты і задаволены. А ты — ніхто.

***

*«Мы, беларусы — мірныя людзі...»* — кожны ранак пачынаецца з гімна і пастраення. Гэта 6-я ранку. Да гэтага часу ты ўжо маеш падняцца, пагаліцца, заправіць ложак. Далей — выхад на зарадку. Усе пашыхтаваныя, тварам да нас — невысокі скуласты днявальны каранціну. За ім мы будзем паўтараць рухі. Блакіт неба над

галовамі, за спінамі ўзыходзіць сонейка, ніводнай хмаркі. Рытмічная музыка ўжо грае. Вось-вось усё пачнецца, застаецца хвіліна альбо меней.

Нечакана днявальны нахіляецца да асфальту, нібы нешта знайшоў. Што там?.. Матылёк! Акурат ля яго падэшваў. У руках днявальнага з'яўляецца запальнічка. Хоча падпаліць крыльцы… Раптоўна адцягвае руку: апаліўся сам. Мабыць, вецер не ў той бок.

Час! Трэба пачынаць практыкаванні. Раз-два-тры…

— Еремеенко, почему не выполняеш? — нібыта са здзіўленнем запытваецца вусаты ДПНК у зэка.

— А у меня свой комплекс.

— Ясно, пошли в отстойник...

Адстойнік, рапарт, мажліва, адразу ШІЗА. Зарадкі для зэкаў прыдумалі, мабыць, за Саюзам: у рамках «перавыхавання». Разам з прыборкамі і працай на прамзоне, зарадка — прынцыповы момант, на які не можа пагадзіцца блатны, які не прымае гэтай навязанай рэальнасці. Сам сабе можаш хоць якую зарадку прыдумаць, а вось любыя рытмічныя рухі па ўказцы адміністрацыі — табу.

Ад зарадкі ў каранціне ПК-10 незадоўга да мяне адмовіўся і Мікіта Ліхавід — адзіны з фігурантаў нашай справы, хто пайшоў у поўную адмову цягам адсідкі ў лагеры: на выклікі адміністрацыі, замест звычайнага «осужденный Иванов, начало срока 11.05.2005...», ён прадстаўляўся не інакш як «незаконноосужденный Лиховид». За ўсё у сукупнасці ён і атрымаў ШІЗА, адкуль канчаткова вышаў толькі ў дзень вызвалення.

...Пасля зарадкі — кароткі перапынак, прыборка і выхад у сталоўку. Каранцін запускалі апошнім, калі рэшта атрадаў ужо сыходзіла: каб не было лішніх кантактаў. Аўсянка, падсалоджаная гарбата на тры глыткі. Яйка давалі адно тым, хто вось-вось «падымецца» ў

атрад. Чаму? Я так і не зразумеў. На ўсё пра ўсё хвілін дзесяць. Абачлівыя зэкі хаваюць лыжкі ў падшытыя пяцелькі на ўнутраным баку робы, мыюць рукі і шыхтуюцца каля ўвахода, каб паспець на праверку.

Праверка. Стаім у шыхце. Чакаем. Усё застыгла навакол у нерухомасці: людзі, будынкі, брама, вялізнае блакітнае неба (асабліва пасля чатырох месяцаў у СІЗА), каўнер і патыліца зэка, што стаіць перад табой... Толькі зяляніна дрэўцаў злёгку пагойдваецца ад пяшчотнага ветру ды ластаўкі віруюць броўнаўскім рухам у такт неспакойным думкам у галаве. У шыхце падчас праверак, бывае, можна скласці пару рыфмаваных радкоў, напрыклад:

*Лунае дзень, як сцяг,*
*Блакіт празрысты,*
*І не адбудзецца працяг —*
*Не спаліць лісця.*
*Агонь і попел скроняў не крануць,*
*А розум застанецца чыстым,*
*Усё паўторыцца ізноў,*
*Усё карысна.*

…А вось ужо і начальства:

— По моей команде здороваемся, хорошо здороваемся: «Здра-сть Александр Никалаич». ...Здрастуйте! — прафесійна кіруе шыхтом заўгас.

— З-з-здрастуйте, Алекс-сандр Никала-ич!!! — крычаць зэкі.

— Здрасте... — здалёк гучыць голас круглаватага палкоўніка ў высокай фуражцы і чорных акулярах. Акуляры — ягоная фішка. Ніводзін афіцэр больш не носіць, толькі ён.

Да нас ужо крочыць пара кантралёраў з драўлянымі дошкамі, падобнымі да сярэднявечных руніч-

ных календароў: там алоўкам адзначаныя ўсе атрады і колькасць зэкаў на бягучы момант. Падобная карціна паўтараецца два разы на дзень: зраніцы ды ўвечары. Падчас дажджу нас гуманна заганялі пад навес у крытую лакалку.

На дзень выпадае некалькі гадзінаў т. зв. «выхаваўчых мерапрыемстваў». Гэта значыць, што «ленінскі пакой» будзе нашпігаваны лысымі галовамі, а ў якасці культурнай праграмы паставяць «Джэнтльменаў удачы» альбо «Івана Васільевіча...».

— Моргалы выколю!

— Помогите! Хулиганы зрения лишают...

Смешна першы раз, ну два, на дзясяты міжволі пачынае ванітаваць... Перыяд у каранціне — мёртвы ва ўсіх адносінах: ні спортам пазаймацца, ні кніжку пачытаць. Пасля кінапрагляду — зноўку прыборка, абед, «выхаваўчыя», прыборка, пастраенне, вячэра, вольны час і адбой.

***

Афганец Саід перад сном абкурвае секцыю нейкімі зёлкамі. Рэлігійны забабон? Не, ад камароў. Кажуць, зона збудаваная на месцы колішняга балота, адсюль і камары. Саід муркоча сабе пад нос:

— Рам-зам-зам...

Цемнаскуры інтэлігентны афганец, сам таго не заўважыўшы, паспеў перазнаёміцца з паловай беларускіх «палітвязняў»: сядзеў у «амерыканцы» разам з Міхалевічам ды Лябедзькам, на Валадарцы сутыкаўся з «навушнікам» Хамічэнкам, а ў каранцін патрапіў разам са мной ды Аліневічам. Карма, не інакш.

Ён нарадзіўся ў Гераце. Тут, у Беларусі, нечым

гандляваў. За што сеў і чаму ім займаўся Камітэт, я ўжо не памятаю. Саід — прыклад усходняй ветлівасці і такту. Сам-насам з чужынцамі ўсходнікі заўжды максімальна ветлівыя… Пакуль не стаюць большасцю. Зрэшты, Саід падаўся мне нядрэнным чалавекам. Было цікава паслухаць аб ягонай краіне, паспрачацца аб рэлігіі, паназіраць за стварэннем мініяцюрных каліграфічных шэдэўраў арабскай вяззю.

Ягоная істотная праблемая — няведанне пісьмовай рускай мовы. Ва ўмовах няволі праблема аўтаматычна ўзрастала, бо цэнзараў «амерыканкі» часам прыводзіла ў роспач нават фраза па-польску, не тое што падазроныя плеценыя радкі на фарсі. Нават для рэдкай перапіскі Саіду патрэбен быў памагаты…

— Шаб бахэр, Саід, — хваліўся я парай вывучаных словаў на фарсі.

— Шаб бахэр, — расплываўся ва ўсмешцы афганец.

Нехта казаў, што ў экзатычнага замежніка наўпрост не было іншага выбару, як быць культурным ды паслужлівым: ён апынуўся ў чужым агрэсіўным асяроддзі, не ведаючы ў дасканаласці нават мовы. Як пачуваў бы сябе кожны з нас у афганскай турме? Уявіць цяжка.

***

— Саид, брат, поехали с тобой в Афганистан!

— Нэ-эт, Качалот, там пить нэльзя.

— Ладно, зато там шмали до х…я!!!

Кашалот, ён жа Стакан, ён жа Гранёны, ён жа Сёма (па назве артыкула — 107) — звычайны алкаголік. Невысокі, скуласты, з надброўнымі дугамі — выліты Шарыкаў. Побач з Аліневічам ён быў «анархістам», побач з Саідам — трошку «афганцам»… Гранёнага

можна было бясконца вывучаць, ягоны свет — бездань працы для антраполага. Ну і прыўкрасныя дыялогі можна было б выдаць асобным томікам у дадатак да навуковай працы ў галіне псіхіятрыі:

— Качалот, а если тибе ящик гранат и ящик водки предложат — что ты выбириш? — цікавіцца Саід.

— Водку, конечно!

— А если вайна?

— А я в бункер с водкой залезу — пускай достают! — Гранёны смяецца, вочы знікаюць у прарэзах-зморшчках над выпуклымі скуламі.

Алкаголікі на зоне — масавая з'ява. Раней, кажуць, такога не было. Тое, за што чалавек у былыя гады мог атрымаць «ИТР» («исправительно-трудовые работы»), «хімію» альбо «ўмоўна», цяпер цягне адразу на тэрмін. Шмат заязджае з «хіміі» за п'янку, сур'ёзнае парушэнне. Для іх «хімія» — гэта ўсяго толькі трамплін перад зонай: не вытрымаюць, пачнуць піць. Кожны новы этап у каранцін больш як напалову — гэта «сіняя пяхота», атручаная «пладова-выгаднымі», баярышнікамі, «максімкамі» і г. д.

Вядома, Гранёны мае свае інтарэсы: цыгарэты, гарбату… Нешта ды выпрасіць. Наогул, неабачлівы першаход рызыкуе займець на зоне адразу пару дзясяткаў сяброў-прасіцеляў. Паспявай толькі «кешар» адчыняць ды зачыняць, адчыняць ды зачыняць…

***

— Есть курить?

— Нет.

— Ла-адно, придётся свои доставать… — звыклая размова тут.

Лічыцца, што падобны прагматычны падыход не ганьба нават для старых сядзельцаў. «Бартар» рознага роду пачынаецца яшчэ ў СІЗА, а на зоне — квітнее. На Валадарцы бывалыя выменьваюць у першахода электрабрытву на два аднаразовыя станкі, прыгожую якасную майку з малюнкамі — на чорнае рыззё, маўляў, «у цябе ўсё адно адшманаюць, павер досведу…» А якія прэтэнзіі? Сам жа аддаў, «павёўся», наступны раз будзеш думаць.

Зона галодная. Усім хочацца есці. Скрадзеш — будзе бяда, так нельга. Забіраць сілай — таксама клопаты. Таму найпрасцей набіцца ў сябры да таго, хто мае, і цягнуць-цягнуць-цягнуць… Так яны і робяць. Што ж рабіць першаходу? Частаваць варта не таго, хто першым папросіць, а таго, у кім ты сам пабачыш вартага чалавека. А гэта не дзень і не два… Інакш чакай падкатаў прыкладна наступнага зместу:

— Пошли чай пить.

— Пошли.

— А у тебя к чаю сладкое есть что-нибудь?..

— …

Альбо так:

— Пойдём на двоих чай попьем, давай «кругаль» с заваркой, а я поставлю греть…

Той, хто разводзіць падобным чынам, неабавязкова «бывалы». Гэта можа быць пазаўчора заехаўшы алкаш, наркот, любая асоба, якая па нейкіх прычынах не мае «грэву». Часам чалавек кажа, што «пазычае» да сваёй перадачкі, якая ўжо на шляху сюды: яму бясконца будуць вось-вось перадаваць, пералічваць грошы, а ты — чакай. Пасля яго паспеюць куды-небудь перавесці, і не здзіўляйся, калі нават у гэтым выпадку атрымаеш маляву: *«Передачка задерживается, одолжи ещё три пачки “Винстона”...»*

Трэба вучыцца казаць: *«Не!»*, а дакладней: *«Няма*

*мажлівасці»*. Падыдуць раз, другі, трэці — і перастануць. Казаць: *«Няма»* — не варта, калі гэта хлусня, ды і навошта? Так, людзі часам галадаюць, не маюць элементарных прадметаў гігіены, вопраткі, абутку, але ўсіх накарміць і апрануць немажліва. Хочаш жыць — зарубі на носе, што ты не «гуманітарная місія». Не падабаецца? Не гуманна? Брыдка? Скажыце гэта сваім родным, якія цягаюць сумкі з прадуктамі праз паўкраіны, каб даць нешта табе асабіста, а не ўсёй зоне агулам. А таго, з кім сапраўды схочаш падзяліцца і дапамагчы, ты, магчыма, сустрэнеш, але не адразу. Спяшацца не варта.

***

— Парни, не чудите: попадёте в п..здорез — совсем х...во будет. А ты чего? Узбек, что ли? Сейчас те расчешу, почём в Одессе курага...

Гэта Іваноў, дакладней, ягоная звычайная прамова. Ён любіў прамаўляць, голас камандны, як трэба. Паджары сівавалосы дробны функцыянер калоніі з ліку зэкаў, былы таксіст. Той самы, які спрабаваў спаліць крыльцы матыльку перад зарадкай. Ягоны твар заўсёды сканцэнтраваны, напружаны — воўчы. Глядзіш на яго: нібыта жывы, але ўнутры нешта памерла — мёртвы чалавек.

На пасады брыгадзіраў, заўгасаў і днявальных зазвычай ідуць асобы з вялікімі тэрмінамі: 10, 15, 20 гадоў... Тыя, хто патрапіў сюды надоўга і мае намер абжыцца. А яшчэ «крылы» (характэрныя нашыўкі функцыянераў на робах) даюць надзею на «УДО» — умоўна-датэрміновае вызваленне: на «крылах» адляцець адсюль можна крыху раней тэрміну. Вельмі

часта гэта судзімыя за забойства (арт. 139) зэкі. Казаць «забойцы» не прынята і некарэктна: далёка не кожны прызнае сваю віну, нехта кажа пра «падставу» ці «памылку». Хто ведае? Толькі ён сам. Калі яшчэ памятае…

Іваноў сваёй віны таксама не прызнаваў: яму «шылі» забойства жанчыны, нібыта знайшлі труп на кватэры... Ён пісаў скаргі і пратэсты ва ўсе інстанцыі, яму адмаўлялі, ён пісаў зноўку, пісаў, пісаў... Сядзець заставалася яшчэ больш за 10 гадоў. Апошняй інстанцыяй, якая цярпліва выслухоўвала любыя аргументы па любой тэме, была альтанка, прасцей курылка ў каранціне, з такімі ж бяспраўнымі слухачамі, якія змяняліся штотыдзень. Пасля перастаў пісаць. Увайшоў у рытм, абжыўся. Атрымаў пасаду.

— Михалыч, как тебе цветочки мои?

— Да, хорошо... У меня роза скоро распустится — бутон с кулак! — немалады садоўнік сціскае свой адзіны кулак, каб прадэманстраваць памер бутона. Другая рука адсутнічае — амаль ад пляча. Праходзячы побач з лакалкай каранціну, ён спыняўся пагутарыць з Івановым пра кветкі.

Чалавек — жывучае стварэнне. Аднаго падтрымлівае вера, другога — любоў, трэцяга — нянавісць… А яшчэ трэба знайсці сабе аддушыну, занятак, каб скараціць доўгія гады, выкінутыя з жыцця, тут. Іваноў вырошчваў кветкі, сачыў за парадкам, кулінарыў, па начах чытаў дэтэктывы Бушкова ў мяккіх вокладках. Над імі часам і засынаў. Уначы можна было бачыць, як той спіць, седзячы за кніжкай. Цела Іванова з гадамі абрасло татуяваннямі, як стары каменны мур абрастае мохам. На гэтых малюнках чаго толькі не было: і праваслаўныя храмы, і крыжы, і дэманы — усё на купу.

...Распавядалі, што даўным-даўно Іванову прыйшоў ліст. Падавалася, чалавек змяніўся, загарэліся

вочы, напруга спала. Такія лісты бываюць толькі ад самых блізкіх. Праз пару хвілін ён выйшоў з барака і парваў на шматкі белую капэрту над металічнай скрыняй для смецця і бычкоў. Нешта ўнутры зламалася, памерла, а чалавек — застаўся. Бадзёры, энергічны, у добра пашытай робе. А яшчэ засталіся шэра-зялёныя вочы, якія часта трапляюцца ў расіян з Поўначы. Пустыя празрыстыя вочы. Тое, што памерла ў ім, мабыць, засталося недзе між радкоў таго самага разарванага над сметніцай ліста.

— Что будешь делать, когда выйдешь?

— Напьюсь, — адказвае Іваноў з усмешкай. — Два года осталось — понты!

Аднойчы ўначы я ўбачыў, як ён самотна сядзіць у альтанцы. Лакалка пустая, за сеткай сцяной ліе дождж. Ён узіраецца некуды ў цемру, нібы бачыць тое, чаго не бачаць іншыя ды я. Час ад часу выпускае цыгарэтны дым. *«Два года осталось — понты...»*

***

— А у вас сладенького чего-нибудь не найдётся к чаю?

— Нет. Пошёл отсюда! — раздражнёна кідае Аліневіч.

Дзіўная каржакаватая фігура адыходзіць кудысьці ўбок. Растоўскі — хворы на галаву. Не першы і не апошні падобны выпадак на зоне. Атмасфера ж спрыяе, асабліва калі ў чалавека тонкая душэўная арганізацыя… Ён ужо не можа ўзгадаць, колькі гадоў яму далі: 5, 7, 10… Блытаецца ўвесь час. Ва ўсім блытаецца, вярзе лухту.

— А когда Санников приедет, не знаешь?

— Не.
— Это же вас после выборов, да?..
— Так.
— ...м-м-м, а почему вы мне вчера ничего сладенького не дали?
— Давай адсюль!..

Яшчэ пры мне Растоўскі «падняўся» ў атрад. Распавядалі, што там ён спачатку пасябраваў, а пасля страшэнна пасварыўся яшчэ з адным слабаадэкватным пасажырам. Казалі, што ён адправіў ліст на імя прэзідэнта з просьбай «расшмаляць» яго на «запрэтцы», даўшы перад гэтым развітацца з сям'ёй. Бываюць і такія лісты ў вышэйшыя інстанцыі.

Яшчэ быў выпадак са слабаадэкватным хлопцам з правінцыі, у якога «дах канчаткова пацёк» ужо ў каранціне. Калі той пачаў распавядаць пра свае сустрэчы з «богам Пасейдонам», які вынырнуў з «парашы», яго павялі да псіхолага. Псіхолаг параіў не даваць яму чытаць, асабліва Біблію, ды наогул паменш падтрымліваць падобныя фантазіі. Урэшце хлопца «паднялі» ў атрад, дзе хутка ён трапіў у касту «апушчаных»...

— Кому на х...й надо их лечить? — неяк адзначыў Іваноў. — Платить ещё за это... На зоне проще зэка списать, чем матрас старый. На «вату» пять бумажек заполнять, на зэка — три...

***

— Был у нас уже такой. Увидел на небе световые колодцы после дождя, упал на колени. Через пару дней повесился... — згадвае яшчэ адзін зэк, абцяжараны «крыламі».

Алег — сапраўдны волат, дужы, пад два метры ро-

стам. Сядзіць таксама па 139-й, забойства, свой апошні дзень на волі правёў гадоў 10 назад. Кажа, адпомсціў чалавеку, які пакрыўдзіў яго дзяўчыну. Чалавек з 90-х. Ён ніколі не карыстаўся сучаснымі тэлефонамі, інтэрнэтам, банкаўскімі картамі, нават грошай сучасных у руках не трымаў. Ягонае жыццё, мары, звычкі, цікавасці засталіся ў мінулым тысячагоддзі:

— Выхожу я из «ауди», в кожаном плаще, рубашка на запонках… эх-х!

У адным заходнім фільме пра турму была фраза мацёрага крымінальніка, які ў апошні момант адмаўляецца бегчы з-за кратаў: «Лепш быць каралём у пекле, чым нікім на нябёсах». Там — воля, невядомасць, туманныя перспектывы. Тут ён усіх ведае, усе ведаюць яго, ягонае слова мае аўтарытэт, ён арыентуецца ў сітуацыі.

Калі Алег выйдзе на волю, там ўжо не будзе кіёскаў-дамкоў, таксафонаў, скураных плашчоў, пэйджараў. Усё па-іншаму. Пакуль ён сядзіць — будуе сабе планы: бізнес, сувязі, нататнік з тэлефонамі «на будучыню». Але як усё будзе выглядаць у рэальнасці? Поспех? Параза? Вяртанне назад?..

***

На волі тым часам віравала жыццё: «маўклівыя акцыі», аб якіх я ўпершыню пачуў на Валадарцы, ахапілі краіну і сталіся лейтматывам для прэсы. Да канца незразумелыя, таямнічыя, ад таго тым больш цікавыя, яны прываблівалі ўвагу і захаплялі розум. Адчувалася нейкая напружанасць, наэлектрызаванасць ад прадчування хімерных зменаў. Нават тут, на зоне, сярод абыякавых да палітыкі зэкаў і адміністрацыі.

— Скоро 3 июля, наши ваших скинут! — чуецца голас кагосьці з функцыянераў з ліку зэкаў на ўскрайку шэрагу.

— Не скинут, наши ваших побьют... — з усмешкай адказвае капітан. Да запланаванага «Маршу мільёнаў» заставалася пара дзён.

На Дзень Незалежнасці, які меў стацца кульмінацыяй пратэстаў, ліў дождж. Не ішоў, а менавіта ліў — сцяной, як з вядра. Вада лілася зверху, разбівалася аб дахі будынкаў, пералівалася ў стокі, адкуль рэкамі выкідалася на асфальт. Залева пачалася знянацку, афіцэры каля штабнога будынка бегалі сюды-туды, прытрымліваючы фуражкі, сутыкаліся адзін з адным на пацеху гледачам у фесках ды робах. Ва ўсім гэтым было нешта эсхаталагічнае, старазапаветнае. Што ж там, у Мінску?

А ў Мінску ўсё было па плану: самалёты разагналі хмары, каб сіваваласыя генералы маглі прымаць парад і аддаваць гонар галоўнакамандуючаму, а «людзі ў цывільным» разагналі ўсіх незадаволеных, якія згубіліся на фоне натоўпаў мінчукоў, што прыйшлі на афіцыйнае свята. Пра ўсё гэта мы дазналіся неўзабаве з прэсы. Палітыка палітыкай, а жыццё коціцца далей.

***

«Апушчаныя» — ніжэйшая каста ў турэмнай іерархіі. Тэрмін «каста» падыходзіць найлепей, фактычна гэта «недатыкальныя»: ім можна даваць рэчы, але браць з іх рук нічога нельга, нельга дакранацца, нават біць рукамі нельга — толькі падручнымі сродкамі: табурэтам, напрыклад.

У касту аўтаматычна трапляюць асобы, звінава-

чаныя ў сексуальных злачынствах (найперш супраць дзяцей), асобы нетрадыцыйнай арыентацыі, а таксама тыя, хто не датрымліваўся правілаў паводзінаў з «апушчанымі», а таксама «апушчаныя па беззаконні». «Апускаюць» непасрэдна праз сексуальны кантакт. Зваротнай дарогі няма, статус пажыццёвы, таму такое адказнае рашэнне прымаюць толькі аўтарытэтныя асобы. Бывае, што чалавека «адсажваюць на кружку» — надаюць нявызначаны статус: з ім ужо не п'юць гарбату, мінімальна камунікуюць. На такім становішчы чалавек перабывае да прыняцця рашэння: апраўдаць альбо залічыць да ніжэйшай касты...

«Апушчаныя» займаюцца самай бруднай працай: чысцяць прыбіральні, выносяць смецце, падбіраюць бычкі... Ніхто больш не мае права рабіць гэтага: табу, харам! За гэта «адсаджваюць». У «апушчаных» існуе свая інфраструктура: асобная «параша», умывальнік, стол у сталоўцы і г. д. Па заездзе нам адразу патлумачылі, дзе чыё і чаму нельга блытаць — гэта сур'ёзна.

«Апушчаны» мае паведаміць пра сябе адразу па заездзе ў «хату» ці барак, каб не стварыць праблемаў іншым. Калі чалавек хавае свой статус, але пасля гэта выяўляецца, пакаранне можа быць жорсткім... Калісьці, за савецкім часам, кажуць, «апушчаныя» мелі нават прабітыя шлёмкі — азнака і здзек адначасова, што стварыла яшчэ адзін эпітэт — «дзіравыя». Паколькі на зоне шмат якія рэчы маюць міфалагічны сэнс, модныя маладыя хлопцы, якія «заязджаюць» з дзіркамі ад тунэляў ці завушніцаў, маюць быць гатовымі да малапрыемных пытанняў і падколак...

Абразу «пятух», «апушчаны», «грэбень» і г. д. трываць нельга — варта адразу біцца. Так будзе лепш у любым выпадку, інакш перастануць паважаць. Аб інстытуце «апушчаных» адміністрацыя кожнай турмы ці зоны не толькі ведае, але часам ім карыстаецца

ды падтрымлівае: «апушчанага», прыкладам, могуць падсадзіць да зэка, якому трэба стварыць праблемы на роўным месцы, скампраметаваць.

Т. зв. «петушыныя рамсы» могуць пацягнуцца за нейкай асобай, напрыклад, у выніку таго, што чалавек падняў сваю лыжку, якая ўпала на тэрыторыі прыбіральні (няхай і наўпрост на падлогу). У прыбіральні наогул ні да чаго нельга дакранацца. Нават калі чалавека не вызначаць у катэгорыю, чутка можа цягнуцца за ім увесь тэрмін адсідкі.

Дзіўна? Так, дзіўнавата... Трэба зразумець, што гэта рэальнасць, абсалютна адрозная ад нашай, са сваімі правіламі і законамі, нібыта Афганістан альбо іншая планета. З той толькі розніцай, што гэтую рэальнасць мы маем тут і цяпер, за бліжэйшым калючым дротам.

*«Жык-жык, жык-жык»*, — прачынаюся неяк сярод ночы ад дзіўнага гуку. Уся секцыя каранціну спіць, ніякіх рухаў. Што гэта? Нехта лезе ў дзверы альбо гук паходзіць з-пад падлогі?.. Раптам звяртаю ўвагу на завешаную пледам ніжэйшую нару ў самым куце — нара «апушчаных». Гук спыняецца, завеса троху адсоўваецца, адтуль падымаецца сілуэт і выходзіць у калідор. Толькі што мясцовы «пятух» «апусціў» новазаехаўшага гвалтаўніка няпоўнагадовых... На аднаго «грэбня» ў свеце стала болей — цынічна, але факт.

***

Праз пару тыдняў па заездзе на зону прыйшоў адказ па маёй касацыйнай скарзе: вядома, адмова. Неўзабаве я быў размеркаваны ў атрад.

— По жизни ровно всё?

— Так

— Точно? Если что — лучше говори сейчас, — настойвае днявальны па дарозе ў новую лакалку.

— Нармальна ўсё.

Пакінуўшы рэчы на «ленхаце», іду да заўгаса. Дзверы, занавеска, за ёй утульны пакойчык з тэлевізарам, двухпавярховай нарай і традыцыйнай іконай Багародзіцы. Вецер гайдае фіранкі, нібыта і не зона зусім — так, «хата» вясковая...

— Мне всё равно, кто ты: «политический» — не «политический», — тлумачыць заўгас, — с понедельника пойдёшь на промку, пару дней поживёшь-осмотришься, спать пока будешь на «ленхате», в секции ремонт, тебе всё расскажут...

«Ленхата» нагадвала залу сельскага ДК. Тэлевізар. На паліцах некалькі замуляных кніжак — пераважна рэлігійная літаратура, дэтэктывы. Па ложках разлягліся зэкі, нехта чытае, заклаўшы руку за галаву. Зноўку вопіс рэчаў, новая бірка — «Киркевич, бр. 200».

Увечары ўпершыню за доўгія месяцы можна спакойна выпіць гарбаты пад ясным небам у промнях заходзячага сонца: гэтым разам сетка ды краты толькі па баках, без даху, як у каранціне. Першыя знаёмствы, першыя парады:

— С тем лучше дел не имей, он мусорской.

— Вон тот, справа, прямой «рупор» в штаб.

— Видишь, со шрамом, да? Так он весь отряд свой сдал...

Безліч парадаў з усіх бакоў. Частка з іх мае права на існаванне: адміністрацыя сапраўды мае добрую агентурную сетку з «гнёздамі» — адна кантактная асоба сярод зэкаў можа, у сваю чаргу, мець сваю сетку, у якой знаходзіцца часам больш за дзясятак драбнейшых агентаў — быў бы талент.

Сонца ўжо зайшло за суседні барак, а хлопец, «сведка Пасейдона», якога я бачыў у каранціне, вытанцоўвае пад музыку ды авацыі публікі.

— Жалко, да? А мне не жалко, — кажа літовец са светла-шэрымі вачыма, жыццё якога было звязана спачатку з войскам, пасля з наркотыкамі, таксама былы вязень «амерыканкі». — Те, кто жалеет, — самые худшие в итоге. Они все, кто смеётся сейчас, во всяком случае честные... Мне вот тоже смешно. А ты чай пей…

Ён правільна гаворыць. Па выніку, абсалютная большасць тых, хто казаў тут пра нейкую мараль, веру, крытыкаваў іншых за «нялюдскасць», аказаліся пачварамі, што ішлі па галовах, пераступаючы праз чужыя лёсы ды трагедыі.

***

Саставіўшы дзве лавы ды яшчэ адну пад ногі, я атрымаў ложак: галавой да падаконніка, дзе ляжала апошняя газета і зборнік «Слуцкі збройны чын у дакументах і ўспамінах», выдання канца 90-х. На волі ў мяне ўжо ніколі не будзе столькі часу для чытання, як тут. Але трэба спаць...

— А-а-а! Что вы делаете?! — раптам чуецца з калідора. «Бух!» — нешта падае на падлогу.

— Не-е-е-ет!

Гледзячы па ўсім, кагосьці некуды цягнуць.

— Што за гукі? — цікаўлюся ў суседа.

— Где? — перапытвае сівы дзядзька з тварам чыноўніка перадпенсійнага веку.

Ля сцяны, як і ў першы момант, калі я ўдзень зайшоў на «ленхату», адразу па маім заездзе зэк спакойна

чытае кніжку пад мяккім вечаровым сявтлом лямпы. Усё ціха. Можа, падалося?

— А-а-а!.. Как же тако-о-ое может бы-ы-ть?!..

Зноўку… Пытанні задаваць, мабыць, не мае сэнсу, ды і я тут усяго першы дзень. Пачакаем да раніцы.

Пасля высветлілася, што такім чынам суседзі па секцыі цягнулі мыцца «чэмбельбота», асобу, якая ўжо не звяртае ўвагі на свой знешні выгляд, ды яшчэ з псіхічнымі адхіленнямі. Традыцыя не лезці ў чужыя справы, робячы выгляд, быццам нічога не адбываецца, аказалася адной з важных частак тутэйшай побытавай маралі. Ці дрэнна гэта? Без розніцы.

***

— Когда Санников приедет?

— Ды не прыедзе ён, — скептычна адгукаўся я, будучы ўпэўненым, што Андрэй Алегавіч выйдзе на волю хутчэй за ўсіх нас. На той момант ён быў адзіным палітычным, каго пакінулі на Валадарцы.

— Приедет! Следующим этапом! Есть точная информация, — пераконвае зэк з белай біркай пад гукі станкоў на прамзоне.

Біркі існуюць трох відаў: чорныя, белыя і чырвоныя. Чорная — звычайныя, такую насіў я. Белая пазначае парушальніка. Чырвоная — злосны парушальнік, чалавек стаіць на кантролі (напрыклад, схільны да ўцёкаў альбо суіцыду), на працу не ходзіць.

Прамзона, альбо промка, — адасобленая частка лагера, дзе базуюцца прамысловыя аб’екты, а таксама частка інфраструктуры: машынны цэх, слясарны, швейны і г. д. «Элітная» вакансія — пякарны цэх, сталоўка, бібліятэка. Існуе таксама безліч дапаможных

працаў у інфраструктуры: кацельная, пральня, цырульня... Прамзона — горад у горадзе.

З самага ранку пасля сняданку і пастраення атрады шыхтом вядуць да высокай металічнай брамы, адкуль, пасля праверкі прозвішчаў, зэкі трапляюць усярэдзіну. Промка — месца сацыяльных кантактаў, як і праваслаўная капліца па нядзелях. Тут сутыкаюцца людзі з розных атрадаў, гутараць, вырашаюць справы, вараць гарбату. Наша брыгада мелася займацца драўнінай, у тым ліку майстраваннем будаўнічых паддонаў... А яшчэ на промцы можна было чыркануць вершык:

*Апоўдні ліпень прысыпае стружкай твары.*
*Драўніны пах як добры успамін*
*Аб тым, што недзе мак цвіце крывавы,*
*А з коміна віецца шэры дым.*
*Там людзі любяцца, працуюць, нараджаюць —*
*Гадуецца ў мурашніку чарговы дзень.*
*Яго не ўсмокча д’ябалава джала,*
*Не скрые злых этапаў цень.*
*Праз «ягазу» ды шчыліны між кратаў*
*Мая літаратура кветкай прарасце,*
*Па полі мінным пройдзе зноў араты,*
*Каб хоць камусьці жыць было прасцей.*

Бонус промкі, акрамя шырэйшага кола камунікацыі, — гэта магчымасць схадзіць у душ часцей, чым раз на тыдзень. Фармальна, за выхады на промку быў нават нейкі заробак з фантастычнымі стаўкамі, напрыклад 5000 рублёў на месяц (па тых часах гэта менш за 1 даляр ЗША). За гэтыя грошы людзям прапаноўвалася сплочваць матэрыяльную шкоду, вызначаную судом, а таксама закупацца неабходным праз атаварку…

***

— Эй, малый, спроси, есть ли что-небудь на счету у Рахметова Олега Ренатовича, 15-й отряд, — праз сетку крычыць дзядзька камусьці са знаёмых у чарзе.

— Сейчас спрошу...

— Спроси!

— …Нет, нету.

Ніхто з родных ці сяброў гэтым разам нічога не пералічыў. Апусціўшы галаву, прасіцель моўчкі адыходзіць… але нечакана зноўку разварочваецца да сеткі.

— Малый, возьми чаю зелёного и три «Минска». Я отдам со следующей «отоварки», не волнуйся.

— ...Ладно.

— Малый, ещё, стой: а булочки свежие завезли?..

Натоўп каля двух маленькіх акенцаў насядае, і голасу прасіцеля ўжо не чутно, ды і «маламу» не да яго. Трэба спісаць адпаведную суму на жэтончык у немаладой ужо Алы Мікалаеўны, прыстроіцца ў іншую чаргу, узяць там «Ролтанаў», згушчонкі, блок «Мінска», таго-сяго «мыльна-рыльнага» (бо сканчаецца) ды цукерак-ледзяшоў на рэшту — каб нічога не засталося. У гэты момант нехта зусім незнаёмы праз сетку суе пачак «Мінска»:

— Возьми три булочки, а?

170 тысяч — мая месячная норма для закупаў, іх маюць перавесці з волі родныя ці сябры. Прыкладна 20 даляраў. З рэзкімі хістаннямі курсаў ды коштаў летам 2011-га нават такая сума рызыкавала ператварыцца ў нішто. Кавалак мяса нечакана пачаў каштаваць палову маёй месячнай нормы, ніякай індэксацыі, зразумела, ніхто не рабіў... Харчавацца толькі «дыетычнай» ежай са сталоўкі — значыць, ісці шля-

хам павольнага самагубства альбо набыцця мільёну хранічных хваробаў, залежыць ад тэрміну. Макароны, кісель, гарохавая каша, юшка з рыбінымі вачыма спрыялі хіба выпадзенню зубоў ды псаванню скуры. Патрэбныя былі вітаміны, якія магла даць атаварка альбо рэдкая перадача раз на паўгода...

— Что-что?

— Алей!

— Это что?

— «Масло»!

— А-а-а... можно по-русски? — не хаваючы ўсмешкі, перапытвае бялявая дзяўчынка-прадавачка праз акенца. За ходам дыялогу сочыць з усмешкай ужо палова чаргі: «Да, он по-белорусски разговаривает, зовут Алесь...» — панеслася кудысьці далей і расшчапілася ў шэра-чорным моры фесак ды кліфтоў.

— ...І цукерак на рэшту ўзважце!

***

— В «отоварке» встретил «анархиста», уступил очередь ему: я ведь тоже анархист по натуре, — з акцэнтам, расцягваючы некаторыя галосныя, распавядае аб сваёй сустрэчы з Аліневічам двухметровы прыбалт — Літовец

«Наркотыкі» — стандартны артыкул для гасцей з бурштынавых берагоў Прыбалтыкі. Літовец знешне нагадваў вікінга: двухметровая фігура, на якой на вятрыску развіваюцца лахманы вопраткі, раскроены чэрап, арліны нос... Паводле легенды, раскроеную «чашку» ён меў з бурлівых часоў адстойвання літоўцамі сваёй незалежнасці: патрапіла куля пад тэлецэнтрам, дзе Літовец стаяў з аўтаматам.

— Здарова, Алесь, жыве Беларусь, я вот выйду, приму белорусское гражданство обязательно... — з усмешкай рассыпаецца ў кампліментах асілак адразу па адбоі, павісшы на маёй нары, — а у тебя поесть ничего нету? Очень хочется.

— Няма, вунь запытайся...

— Да? Хорошо.

Літовец адыходзіць ад нары і накіроўваецца кудысьці далей. У тыя дні я і сам часцяком засынаў з адчуваннем голаду. Бывае. Дзе-нідзе па адбоі акурат пачыналіся піры, размовы. Іншыя засыналі галоднымі… Натуральная няроўнасць у соцыуме, якую ніхто ніколі не выкараніць.

*«Одиночество — сволочь, одиночество — СУКА!..»* — з інтанацыяй падпявае Літовец папулярнай тым летам Славе, песні якой чуліся з кожнага праса. Вясёлы дзядзька. Чытаючы. Ці варта яму давяраць? Пытанне. Давяраць наогул нікому не варта, як паказаў вопыт. Давер да чалавека можа стаць тут самай вялікай памылкай, няхай нічога дрэннага і не робіш: тут слоўца, там слоўца…

Калі перакусваеш з чалавекам, лічыцца, што ты падпусціў яго вельмі блізка да сябе. Тыя, хто перакусвае разам за межамі сталоўкі, — «сямейнікі» па-зонаўску. Сумесныя перакусы, гутаркі, нават малітвы — усё гэта можа апынуцца падманам, пасткай, часткай гульні, на якую яму не шкада ні часу, ні рэсурсу — на коне можа стаяць ягонае датэрміновае вызваленне альбо вырашэнне якога-кольвек іншага пытання. Учора ён табе паказвае фотаздымкі родных, заўтра — здасць. Гэта рэальнасць.

Пры чым тут Літовец? Абсалютна ні пры чым, пры ўсёй вульгарнасці вобраза, а часам і нахабнасці, ён аказаўся нашмат лепшым за тых, хто называў яго «д’яблам», — «пабожных» і «сумленных». Словы,

якія казаў ягоны зямляк у дзень, калі я толькі «падняўся» ў атрад, спраўдзіліся. А Літовец — вясёлы дзядзька. Толькі і ўсяго.

***

Саннікаў усё ж такі прыехаў. Загадкава і нечакана. Першы час яму нават дазвалялася хадзіць з барадой, насіць крамную робу ў каранціне. На той момант ён быў самым раскручаным палітзэкам у краіне. Зэкі Саннікава паважалі, распавядалі аб сваіх праблемах і пажаданнях, паважліва называючы «прэзідэнт». Казалі, што на момант прыезду «прэзідэнта» начальнік зоны сышоў у адпачынак: можа, выпадковасць, а можа, перастрахоўка — раптам што здарыцца?

Пасля пераводу ў атрад экс-кандыдат у прэзідэнты трапіў на папяровую працу ў штаб — каб пастаянна быць на воку, таму і хадзіў штодня каля нашай лакалкі. Бараду ўсё ж такі прыйшлося згаліць — лагерны парадак перамог.

За ўвесь час мы мелі мажлівасць паразмаўляць усяго адзін раз: на той момант я ўжо напісаў прашэнне аб памілаванні. Ён запомніўся мне як чалавек з ціхім інтэлігентным голасам ды біблійным сумам у вачах. Саннікаў дастаў ліст, які хацеў даслаць у «Народную волю», каб я прагледзеў яго на прадмет памылак, — пасланне было беларускамоўным. Маючы надзею на хуткі выхад, аб чым Саннікаў ведаў, я на ўсялякі выпадак перапытаў:

— Як вы бачыце палітычную сітуацыю? Што рабіць на волі зараз?

— Звярніся да Івашкевіча, ён займаецца Народным сходам.

Больш я ні аб чым не пытаўся. …Ідэя Народнага сходу, якая з трэскам праваліцца ўвосень, падавалася дзіўнай і слабаперспектыўнай ужо тады, летам 2011-га. Увосень, ужо на волі, мне давялося пабачыць рэалізацыю гэтай ідэі на практыцы ў Гродне: на сход не з’явіліся самі арганізатары… То бок людзі ды амапаўцы прыйшлі, а тыя, хто іх заклікаў, — не. Пасля я пабачыў у СМІ фота хмурага натоўпу пад парасонамі на акцыі ў Мінску... І «маўклівыя акцыі», і «народныя сходы» ні ўва што не вылiлiся. Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

***

— А где Бабуля? — з выглядам разгубленага чалавека тэатральна пытаецца зэк, заходзячы ў секцыю. — Бабуля!!! — чуе ўжо ўвесь барак.

Бабуля — мянушка невысокага рудога хлопца, які сеў за забойства роднай бабулі, якая гадавала яго з маленства, але ў нейкі момант неабачліва не дала грошай на выпіўку. Бабуля засек яе. Не маючы мажлівасцяў для існавання ў лагеры, хлопец пайшоў у халопы. Так Раскольнікаў нашых дзён стаўся «канём» са смешнай мянушкай.

Больш заможныя зэкі шукаюць падобных служак для выканання дробных даручэнняў: мыцця посуду, прання і г. д. Бываюць і экзатычныя замовы — масаж, напрыклад. Падначаленая асоба робіць усё гэта за цыгарэты і ежу, а ў дадатак — з пачуцця страху перад гаспадаром. «Коні» заўгасаў ды брыгадзіраў часам адчуваюць на сабе долю ўлады сваіх патронаў: напрыклад, з важным выглядам спрабуюць абмяняць старую робу гаспадара каму-небудзь з новазаехаўшых.

— Пачка «Минска»? Не-ет, — з недаверам глядзіць ганарысты «конь» на брудныя шмоткі, — «Винстон»! Неси порошок. Через полчаса будет...

На мове адміністрацыі гэта называецца *«притеснение осужденных»*, аднак па-іншаму частка тутэйшага кантынгенту наўпрост не дала б рады выжыць. У рэшце рэшт, кожны сам выбірае свой шлях...

Па прыбыцці аднаго з этапаў сярод разгубленых постацяў, якія валаклі свае матрацы па «ўзлётцы» ў каранцін, я нечакана ўбачыў знаёмы твар: той самы хлопец-іегавіст з Валадаркі, у якога разбіліся акуляры… Яго ўсё ж такі асудзілі.

— Надо его к себе «подтянуть» после карантина: работящий, хорошим «конём» будет, — дзеліцца думкамі знаёмы, які некалі перакрыжоўваўся са «сведкам» у СІЗА.

Спачатку абураешся, пасля — разумееш, што ва ўмовах галоднай зоны варыянт стаць «канём» больш-менш адэкватнага чалавека для таго хлопчыка з разбітымі акулярамі цалкам неблагі. Чаму не? Сумныя рэаліі, як ёсць.

***

— Киркевич, в штаб срочно! — залятае аднарукі дзяжурны ў секцыю.

Апранаюся, іду. Кантралёры папярэджаныя, прапускаюць. На ўваходзе падлятае вусаты падпалкоўнік:

— Почему так долго?!

Нешта сур’ёзнае, значыцца... У кабінеце чакае мажны дзядзька з сівізной на скронях, цягне руку, падпалкоўніка просіць пакінуць нас сам-насам. Прадстаўляецца супрацоўнікам Дэпартамента (ДИН).

— Вы тут не нужны, понимаете? Не ваше это место. Поэтому наверху принято решение... Надо написать прошение, его рассмотрят...

— Не, не магу.

— Тогда письменно пишите отказ.

Пішу адмову, тлумачу прычыны, подпіс, дата. Супрацоўнік Дэпартамента зноўку ўсміхаецца, цягне руку, я вяртаюся ў атрад... Па лагеры пайшла пагалоска, нібыта прыязджаў КДБ. Зона заўсёды ўсё ведае. Напярэдадні, прыкладам, Аляксандр Мілінкевіч, лідар Руху «За Свабоду» і экс-кандыдат у прэзідэнты на «Выбарах-2006», прыязджаў на размову з начальнікам па справе сябра Руху Мікіты Ліхавіда, які сядзеў «пад крышай» — у карцары. Прыезд Мілінкевіча меў шырокі рэзананс — «приехал просить за своего» — пра гэта ўсе ведалі, падобныя чуткі разыходзяцца імгненна.

— Вызывали? А что хотели?

— Так, цікавіліся, як мне жывецца…

— М-м-м, — недаверліва пераглядаюцца зэкі.

На працягу некалькіх дзён наш атрад штовечар праз кожную гадзіну выводзілі на пастраенне. Зразумела, што гэта цалкам забівае вечаровую сіесту, калі можна заварыць «чыфу» ды пагойсаць у «вальнячых шмотках». Трэба было давесці зэкам, што падобныя нязручнасці — мая віна...

Ішоў час. Мне далей прапаноўвалі варыянты: палітычны прытулак за мяжой, «таемнае памілаванне»: «я пішу, ніхто аб гэтым не ведае, а пасля выхаду ціха з’язджаю за мяжу і гэтае пытанне больш не падымаецца».

Я думаў. У далейшым сядзенні мне не бачылася сэнсу: сам факт знаходжання палітвязняў за кратамі не паспрыяў абуджэнню нацыянальнага руху і пратэставай хвалі, як падавалася спачатку, а міжнароднымі

структурамі выкарыстоўваўся ўсё адно ў пэўных межах — «халодная вайна» і санкцыі з боку Захаду для Беларусі маглі працягвацца бясконца доўга... Навошта сядзець? Для каго? Для звычайнага чалавека з вуліцы нас, палітвязняў, усё адно няма.

Разлік быў просты: прашэнне на імя прэзідэнта — мая асабістая справа, якая нікога не тычыцца. Я нікога не здаў, не падмануў, не пайшоў па галовах іншых. Асуджаць за гэта могуць адно паплечнікі, а не каментатары папулярных сайтаў. Начхаць. Напісаў…

Магчыма, я памыляўся. Магчыма.

***

Апошнім вартым увагі эпізодам з наваполацкай эпапеі быў «лагерны бунт». «Бунт», мабыць, занадта пампезна, таму, хутчэй, акцыя масавага непадпарадкавання. З чаго ўсё пачалося? Прайшла чутка: маўляў, адзін зэк, загадчык сталовай, меў кантакты з чалавекам, «адсаджаным на кружку». Сітуацыя па лагерных мерках сур'ёзная: у «старыя часы» за падобныя рэчы маглі «адсадзіць на кружку» ўсю зону, бо ўсе ж фармальна ядуць з ягонага чарпака.

... Яшчэ звечара па бараку пайшлі размовы:

— Нельзя садиться за столы!

— Да, завтра утром...

— Ты что, не знаешь их секцию? Сдадут...

Пасля адбою, калі змова толькі набірала абароты ды распаўсюджвалася, нібы пошасць, па секцыях, эмацыйна ўсё гэта нагадвала апошнюю ноч перад важнай вулічнай акцыяй. Ну а з чым мне яшчэ параўноўваць? Зразумела, могуць быць наступствы: масавае непадпарадкаванне — гэта надзвычайная сітуацыя, для

вырашэння якой могуць выкарыстаць надзвычайныя меры... Але ёсць рашэнне: за сталы сядаць нельга! Так кажа лагерны «страйккам».

А вось і раніца. Першым у будынак сталоўкі заходзіць N-ы атрад, за ім мы. Аўсянка ў шлёмках ды алюмініевыя «зэчкі» з гарбатай раскіданыя па сталах. З N-га атрада некторыя ўсё ж такі селі за сталы, нічога не ядуць, сядзяць сабе і ўсё, рэшта — стаіць. Нашыя стаяць усе, пашыхтаваліся каля акна. Тыя, хто напачатку сеў па звычцы, умомант падняліся. У паветры разлітае напружанне, кароткія размовы, дзёрзкія ўсмешкі, нехта ходзіць з кута ў кут, нібы раўняючы шыхт на акцыі. Падыходзяць новыя атрады, аўтаматычна стаюць ля сценаў. Нарэшце з'яўляюцца афіцэры… Яны не ведаюць, што рабіць. Больш за ўсіх нервуецца вусаты маёр у берэце:

— Всем сесть за столы, быстро! Сели, кому сказал!!!

Некалькі чалаве сядаюць. Сотня-дзве працягваюць стаяць. Нас сотні, і гэты борзы маёр, хто б ён там ні быў, нічога не зробіць. А хутка падыдуць новыя атрады… Незаўважна на сцэне з'яўляецца медык, які спакойным крокам праходзіць на цэнтр сталоўкі ды пачынае кароткую лёсавызначальную прамову:

— Последнее решение из медчасти (*там адлежваюцца блатныя з ШІЗА ды ПКТ, якія адно і маюць аўтарытэт*): есть можно! Человек, из-за которого появился вопрос, не вышел на работу — он сейчас в отряде, не тут.

Зэкі пераглядаюцца, бачна, што напружанне спадае. Першымі сядаюць больш аўтарытэтныя і абазнаныя асобы, даючы прыклад, за імі — рэшта, азіраючыся па баках на дзеянні суседзяў.

— Да ешь ты, ешь! Нормально всё, — даводзіць суседзям цыган, з залітымі па модзе 90-х кулакамі.

Усё скончана. Неймавернае адчуванне: перамога калектыву, групы, у якой ты часова знаходзішся, не зважаючы на абставіны і акалічнасці, аб якіх тут пісаць не варта. Людзям патрэбныя перамогі, нават тут. Толькі пасля я пачуў, што каля брамы гэтым часам напагатове ўжо стаялі аддзелы ўнутраных войскаў... Як гэта ўсё знаёма.

***

*Схадзіў у лазню, напісаў лісты.*
*Чакаю, што пашле мне Неба:*
*Кавалак цэглы ці краюху хлеба —*
*Паліць масты ці не паліць масты?*
*Не веру прэзідэнту, веру Богу.*
*Не бачаць вочы, ўбачыла душа:*
*Пад небам сінім сцелецца шаша,*
*А мо ў сталоўку шэрая дарога...*
*Я лягу спаць, няма мяне, знікаю.*
*Свядомасць ранішнім туманам прынясе,*
*Змачыўшы ногі недзе у расе —*
*Там, дзе шаша сягае небакраю.*

Вершык гэты я напісаў за пару дзён да вызвалення. Да выхаду падрыхтавацца немагчыма: можна жыць, чакаць, але падрыхтавацца не ўдасца — раптам падмануць?

Выклік, штаб, тэлефон: *«Указом президента от 30 августа...»* Не падмануў «баця»... Адзнакі, апошняе пастраенне, збор рэчаў на хуткую руку, «чыф» па коле ў секцыі, падарункі і запаветы, пацісканні далоняў...

Апошні шмон і паперы ў штабе:

— Дальше будешь оппозицией заниматься?

— Канешне.

— Тут перед тобой парень выходил так же, как ты, сказал: «Спасибо вам за урок, больше никогда...»

— Мажліва… А як да Полацка даехаць?

— Тут трамвай ходит, выйдешь — и направо.

«Калючка» засталася за спінай. У чарговым унутраным двары — грузавікі з драўлянымі паддонамі. На мне — цяльняшка і спартовыя штаны, нацягнутыя наспех. Ёсць яшчэ прахадная з дамком вартаўніка, нацягваю там джынсы, якія доўга чакалі на складзе.

— А калі трамвай?

— Через час где-то...

На полацкім вакзале ў кавярні тэлефаную дадому, спытаўшы тэлефон у афіцыянткі. Па мяне ўжо выехалі дзве машыны. Са зваротам здаю толькі што набыты квіток на Мінск: ён не спатрэбіцца... Нарэшце я бачу знаёмыя твары: Мікола Дземідзенка, Наста Палажанка, Уладзь Яроменак, Андрэй Кім, Юрась Губарэвіч... Абдымкі, пытанні, адказы, смех, пстрыканне фотаапарата Сяргея Гудзіліна.

Па дарозе на Мінск я прашу спыніцца. Выходзім з аўто. Па-над намі — зорная бездань, якой я не бачыў апошнія сем месяцаў, бездань спадзяванняў і мажлівасцяў, расчараванняў і перамогаў, зняверання і веры.

*«...Адступецеся ад мяне, усе ліхадзеі, бо пачуў Гасподзь малітву маю» (Пс. 6: 9–10).*

*Мінск, 19 снежня 2017 г.*



*Акцыя пратэсту супраць*
*фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў.*
*Мінск, пл. Незалежнасці, 19 снежня 2010 г.*
*Фота Дзмітрыя Брушко*




*19 снежня 2010 г., Алесь Кіркевіч і Надзея Крапівіна*



*У ахове Віталя Рымашэўскага каля Палаца прафсаюзаў, 19 снежня 2010 г., скрыншот з аператыўнага відэа*



*Каля Дома Урада — скрыншот з аператыўнага відэа*



*Людзі ломяцца ў дзверы Дома Урада, 19 снежня 2010 г.*




*Прадметы, якія нібыта меліся выкарыстаць пратэстоўцы на Плошчы, паводле сілавікоў. На судзе яны так і не з'явіліся*



*Будынак КДБ, чырвоным пазначаны*
*СІЗА КДБ (амерыканка)*




*СІЗА КДБ (амерыканка)*




*Інтэр’ер камеры ў «амерыканцы» — малюнак аўтара*




*Інтэр’ер камеры ў «амерыканцы» — малюнак аўтара*



*«Дэсаветызацыя!» — цікава, як гэты малюнак з «амерыканкі» прайшоў цэнзуру...*




*Малюнак, зроблены ў «амерыканцы»*



*Малюнак, зроблены ў «амерыканцы»*




*«Міраж» — адзін з першых малюнкаў, зробленых у «амерыканцы»*




*«Паваенны супраціў», малюнак, «амерыканка»*




*«Уратуй нас, бо Ты можаш», малюнак, «амерыканка»*



*Ларыса Кіркевіч, маці Алеся Кіркевіча*




*Надзея Крапівіна, жонка Алеся Кіркевіча*
*ў часе зняволення*




*Падчас судовых паседжанняў, травень 2011 г.*



*Падчас судовых паседжанняў, травень 2011 г.*




*Падчас судовых паседжанняў, травень 2011 г.*



*Падчас судовых паседжанняў, травень 2011 г.*
*Фрагмент фота: Наша Ніва*



*СІЗА № 1 (Валадарка)*



*Размова праз шкло з жонкай, Валадарка*



*Наваполацк, ПК-10*
*(фота Надзеі Крапівінай)*




*Наваполацк, ПК-10, маці  прывезла перадачу*
*(фота Надзеі Крапівінай)*




*Улётка салідарнасці, Мінск, 2011*




*Графіці з прозвішчамі палітвязняў «Маладога фронту»,*
*Мінск, 2011*




*Улётка салідарнасці, Мінск, 2011*



*Акцыя салідарнасці, Люблін. Дзяўчына, якая трымае партрэты Лябедзькі і Кіркевіча на адным аркушы, наўрад ці ведае, што яны сядзелі ў адной камеры*

в том, что он(а) отбывал(а) наказание в местах лишения свободы
с "28" января 2011 г. по "01" сентября 2011 г.,
откуда освобожден(а) по Указу Президента Республики Беларусь №392-рсп „О помиловании осужденных" от 31 августа 2011 года.

Начальник учреждения
(подпись)

Начальник отдела
(подпись)

*Здымак з даведкі аб вызваленні, ПК-10, Наваполацк*




*Першы партрэт, зроблены па вызваленні,*
*Мінск, чыгуначны вакзал*




*Вызваленне, 2 верасня 2011 г.*




*Вызваленне, 2 верасня 2011 г.*




*Першыя сустрэчы на волі з паплечнікамі —*
*злева палітвязень Уладзь Яроменак*



*Гродна, 2 верасня 2011 г.*




*Гродна, 2 верасня 2011 г.*

## Кароткі слоўнік

**Абіжанка** — асобная камера для «абіжаных», гл. **Апушчаныя.**

**Абшчак** — агульнае майно камеры, найперш — прадукты. Шырэй — агульны фонд узаемадапамогі сярод групы зняволеных.

**Адсадзіць (на кружку)** — рашэнне аўтарытэтных зняволеных у дачыненні да зэка, пасля чаго з чалавекам спыняюцца кантакты, яго пазбягаюць да канчатковага вырашэння сітуацыі: пераводу ў «апушчаныя» альбо са зваротам у «мужыкі» пры станоўчым вырашэнні пытання.

**Адстойнік** — камера часовага ўтрымання.

**Апушчаны** — гл. **Пятух.**

**Асуждзёнка** — камера для асуджаных зняволеных, чый вырак юрыдычна яшчэ не ўступіў у законную сілу.

**Атаварка** — крама для зэкаў на тэрыторыі зоны альбо ўнутраная крама ў СІЗА.

**Аўтарытэт** — прадстаўнік вышэйшай групы зняволеных, які мае ўплыў у асяродку.

**Баклан** — хуліган, асуджаны па арт. «Хуліганства».

**Баланда** — сінонім «палажняковых» прадуктаў альбо, шырэй, праца «баландзёра».

**Баландзёр** — зэк, які развозіць харчаванне па камерах. На пасадзе «баландзёра» ў СІЗА часта застаюцца зэкі, якія па нейкіх прычынах баяцца ехаць на зону. Стаўленне да «баландзёраў» зазвычай грэблівае.

**Бальнічка** — бальнічнае аддзяленне ў турме альбо на зоне.

**Барак** — памяшканне для суместнага пражывання зэкаў на зоне, змешчанае ў асобным будынку.

**Блатны** — прафесійны злачынца, які па жыцці трымаецца карпаратыўных паняццяў.

**Братва** — грамада зняволеных.

**Вальнячая (рэч)** — нейкі прадмет з волі, напрыклад адзенне. «Вальнячыя» рэчы (майка, кубак, інш.) заўжды цэняцца больш за «палажняковыя».

**Вата** — матрац.

**Верталёт** — драўляны насціл, які кладзецца паміж нарамі і дае яшчэ адно месца ў перапоўненай камеры. На падлозе ў камеры спаць нельга ні пры якіх умовах, гэта пагражае паніжэннем статусу. Тое ж, што і **сёрфінг**.

**Вікінгі** — зняволеныя старэйшага веку, якіх на зоне часам аб'ядноўваюць у адзін атрад.

**Вор (у законе)** — найвышэйшы статус сярод «блатных» у крымінальным свеце.

**Вясло** — лыжка.

**Гобліны** — гл. **Маскі**.

**Грэў** — дапамога з волі, ***грэцца*** — мець крыніцы дапамогі.

**Гама** — гл. **Чэмбельбот.**

**Дарогі** — шляхі нелегальных зносінаў паміж вязнямі ў турме (напр., вяроўка (**«конь»**), закінутая і зацягнутая паміж камерамі).

**Дачка** — перадачка.

**ДИН** (Департамент исполнения наказаний) — Дэпартамент выканання пакаранняў.

**ДПНК** — дзяжурны памочнік начальніка калоніі.

**ДПНСИ** — дзяжурны памочнік начальніка СІЗА.

**Дэльфін** — селядзец.

**Заезд** — прыбыццё ў турму альбо на зону.

**Западло** — сорамна, няправільна, учынак, ніжэйшы за статус вязня.

**З.Л.О.** — прыклад абрэвіятуры, якая выкарыстоўваецца ў татуяваннях і можа чытацца злева направа і справа налева: «Завет любимого отца — отец любимый завещал — за всё легавым отомстить».

**Зона** — «папраўчая калонія», лагер.

**Зэк** — зняволены.

**Зэчка** — кубак.

**Ізмена** — хваляванне, ***быць на ізмене*** — хвалявацца.

**ИК** (исправительная колония)— папраўчая калонія.

**Казёл** — зэк, які актыўна супрацоўнічае з адміністрацыяй, мае дробную гаспадарчую пасаду, носіць «крылы».

**Камаз** — 1. цялежка, якая развозіць «палажняк» па камерах; 2. ёмістасць для вады.

**Кантралёр** — шараговы супрацоўнік адміністрацыі ў турме, на зоне, тое самае, што **папкар, прадольны, вертухай**.

**Каранцін** — атрад, у якім перабывае заехаўшы на зону вязень пасля прыбыцця з турмы.

**Кармушка** — акенца ў дзвярах у камеры для падачы ежы, лекаў, перадачы лістоў і афіцыйных папераў ды інш.

**Касяк** — памылка, за якой могуць ісці негатыўныя наступствы.

**Катлы** — гадзіннік.

**Келешаваць** — 1. пераліваць гарбату з кубка ў кубак; 2. перакідваць зэка з камеры ў камеру.

**Кешар** — торба для рэчаў, у Расіі кажуць **«сідар»**.

**Кешарка (кешарня)** — памяшканне для захоўвання рэчаў зэкаў, якія не могуць захоўвацца ў яго пад нарай ці ў тумбачцы. Да «кешаркі» зэк мае перыядычны абмежаваны доступ.

**Кіпяціла** — кіпяцільнік.

**Конь** — 1. зняволены, які прыслугоўвае іншым за ежу, цыгарэты альбо з-за страху перад гаспадаром; 2. гл. **Дарогі**.

**Крылы** — нарукаўныя нашыўкі, пазначаюць пасады зэкаў (брыгадзір, днявальны...), якія з'яўляюцца ніжэйшым звяном адміністрацыйнага апарату на зоне.

**Кругаль** — гл. **Зэчка**.

**Крыса** — асоба, якая крадзе сярод сваіх, ***крысятнічаць*** — красці ў сваіх.

**Кум** — начальнік аператыўнай часткі.

**Лакалка** — лакальны ўчастак, адасобленая тэрыторыя каля барака на зоне.

**Ламіцца (з камеры)** — звяртацца па дапамогу да адміністрацыі ў выпадку канфлікту са зняволенымі. Такія паводзіны не вітаюцца. Паводле старых традыцыяў, у выпадку канфлікту ламіцца з камеры мае твой апанент, а не ты.

**Малалетка** — камера для няпоўнагадовых зняволеных.

**Маскі** — група ўзмацнення, якая ўводзіцца ў турму (у лагер) пры надзвычайных сітуацыях.

**Малява** — паведамленне.

**Масць** — 1. статус зняволенага; 2. татуяванне.

**Мастабойца** — майстар татуяванняў.

**Мойка** — вострая металічная частка станка для галення, часам выкарыстоўваецца для стрыжкі пазногцяў ды іншых побытавых патрэбаў. Адначасна, «мойкай» зэк можа «ўскрыцца» на знак пратэсту супраць дзеянняў адміністрацыі.

**Мужык** — агульная назва самай вялікай групы зняволеных, прасцей кажучы, усе зэкі, акрамя апушчаных. ***Цвёрды мужык*** — зняволены, набліжаны да блатных, ён не падпісвае паперы з базавымі абавязкамі перад адміністрацыяй. ***Мужык з адступленнямі*** — зняволены з падпісанымі паперамі.

**Мутка** — цэлафанавая частка цыгарэтнага пачка, у якую можна насыпаць гарбату, каву, суслі і г. д. на адну заварку (пасля насыпання герметычна заплаўляецца з дапамогай запальнічкі).

**Нязнанка** — няведанне; касяк па нязнанцы можа быць прабачаны.

**Ніфеля** — гушча ад гарбаты, якая можа выкарыстоўвацца паўторна.

**Палажняк** — 1. рэгулярна выдаваемыя па законе прадукты (хлеб, цукар...); 2. любая рэч, якая абавязкова выдаецца адміністрацыяй (роба, абутак, кубак...).

**Параша** — ёмістасць для нечыстотаў (вядро) альбо адмысловая дзірка ў падлозе, што выкарыстоўваецца як прыбіральня.

**ПВР** (Правила внутреннего распорядка) — Правілы ўнутранага распарадку.

**ПКТ** — памяшканне крытага тыпу.

**Прадол** — калідор у турэмным памяшканні.

**Прыём** — арышт.

**Прэс-хата** — камера, дзе ажыццяўляецца ломка

няскоранага ці няўгоднага зняволенага іншымі зэкамі, якія пайшлі на супрацу з адміністрацыяй.

**Пятух** — ніжэйшая пажыццёвая каста зняволеных, «апушчаны». Пасля падобнага эпітэту на свой адрас, па традыцыі, прынята адразу лезці ў бойку, каб не страціць статус.

**Рамс** — спрэчка, ***рамсіць*** — спрачацца.

**Развод** — падман.

**Рэзка** — завостранае прыстасаванне.

**Раснічкі** — вельмі шчыльныя краты, зробленыя з металічных пласцінаў унахлёст, кшталту жалюзі.

**Сечка** — каша нізкай якасці з сечанай крупы, выкарыстоўваецца ў жывёлагадоўлі, а таксама паўсюдна ў турэмнай сістэме.

**Сіняя пяхота (сінягал, бахус)** — жартаўлівыя назвы для алкаголікаў, якія трапляюць на зону.

**С.Л.О.Н.** — прыклад папулярнай абрэвіятуры, якія выкарыстоўваюцца ў татуяваннях: «Смерть легавым от ножа».

**Слядак** — следчы.

**Старшой** — зварот да кантралёра.

**Стучаць** — пераказваць аператыўніку інфармацыю.

**Стукач** — завербаваны аператыўнікам для пераказу інфармацыі зняволены.

**Сука (ссучаны)** — здраднік, часам былы «блатны», які пайшоў на супрацу з адміністрацыяй.

**Тармазы** — дзверы ў камеры.

**Тарпеда** — схаваны кантэйнер з забароненым зместам, які зэкі праносяць у заднім праходзе (напр., тарпеду з цыгарэтамі у ПКТ).

**Узяць тэрмін** — адседзець.

**Ускрыцца** — успароць сабе вены альбо жывот на знак пратэсту супраць дзеянняў адміністрацыі. Ускрываюцца «мойкамі», «рэзкамі», кавалкамі шкла ды інш. У асобных выпадках зэкі ламаюць сабе рукі, пальцы і г. д. Скрайняя мера для асобнага зэка ці цэлай камеры, калі іншыя метады вычарпаныя.

**Фаршмак** — чалавек, які нашкодзіў сваёй рэпутацыі, увайшоўшы ў кантакт з нечым забароненым; найчасцей гэта тычыцца кантактаў з «апушчанымі»; ***зафаршмачыцца*** — «запэцкацца».

**Феска** — галаўны ўбор на зоне, кепі з казырком.

**Фуфло** — мана, хлусня.

**Хазяйка** — грэблівая назва для начальніка лагера, акцэнт робіцца на жаночым родзе. Любое параўнанне мужчыны з жанчынай, прысваенне жаночых імёнаў ды мянушак — гэта абраза.

**Хата** — камера.

**Ходка** — адсідка.

**Цярпіла** — 1. пацярпелая асоба, якая праходзіць па судовай справе; 2. чалавек, які не адказвае на наезды і абразы, церпіць знявагу ў свой бок.

**Чорт** — зэк з нізкім статусам, які не адказвае на крыўды і не сочыць за сабой.

**Чыфір (чыф)** — моцна завараная гарбата.

**Чыфірбак** — ёмістасць для прыгатавання чыфіру.

**Чэмбельбот** — зэк, які не сочыць за сабой, не трымаецца правілаў гігіены, тое самае, што **гама**.

**Шконка** — нара.

**Шухер** — небяспека.




**У серыі
«Беларуская турэмная літаратура»
выйшлі кнігі:**

1. Зміцер Дрозд. **Бунт батанікаў.** Дзённік. 2017
2. Ігар Аліневіч. **Еду ў Магадан.** Успаміны, артыкулы. 2017
3. Мікола Дзядок. **Фарбы паралельнага свету.** 2017
4. Алесь Кіркевіч. **Сем месяцаў у беларускай турме.** 2018

